ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

7 КРАСАВІКА 1995 г. № 14 (3786) Кошт 400 руб.

# ЗАКЛІК ДА МАРШУ Ў НІКУДЫ

***Мне падабаецца дэмакратычнае запрашэнне Прэзідэнта ў яго выступленнях прыходзіць з прапановамі, парадамі, меркаваннямі, каб лепш прасвятляліся актуальныя праблемы бягучага дзяржаўнага жыцця. І ўсё ж я сумняваюся, каб Прэзідэнт пры сваёй занятасці знайшоў бы магчымасць выслухаць маю думку, тым больш па пытаннях, па якіх у яго склалася ўжо цвёрдае перакананне. Гэтыя пытанні, абвостраныя самім Прэзідэнтам, набываюць усё большы грамадскі рэзананс. І не выказацца па іх на публічным узроўні становіцца проста немагчыма.***

Спачатку гэта былі толькі чуткі... Чуткі, што першы Прэзідэнт рэспублікі і шмат хто з яго каманды ў практычнай дзяржаўнай дзейнасці не будзе падтрымліваць палітыку беларускасці, не будзе сачыць за выкананнем Закона аб мовах, да таго ж — і сам ніколі не будзе гаварыць па-беларуску. Але вось адно выступленне Прэзідэнта, другое... Чуткі пацвердзіліся. Нарэшце газета "Звязда" ад 21 лютага 1995 г. пераказала словы Прэзідэнта наступным чынам: "Я абяцаў ініцыіраваць рэферэндум (маецца на ўвазе рэферэндум аб дзяржаўнасці дзвюх моў і аб нацыянальнай сімволіцы. — **В.К.**). У хуткім часе я ўнясу ў Вярхоўны Савет такія прапановы. Я гатовы ісці на гэты рэферэндум, нават калі мяне запалохваюць унясеннем у бюлетэнь пытання аб даверы да прэзідэнта". Прапановы ўжо ўнесены.

Трэба сказаць, што справа не ў запалохванні. Прэзідэнт — па ўсім ужо відаць — не з палахлівых. Справа ў мудрасці. А мудрасць Прэзідэнту патрэбна, каб апамятацца, каб не рабіць заяў і не арганізоўваць акцый, з якіх пасмяецца свет. У выніку будзе нанесена шкода аўтарытэту рэспублікі і асобе самога Прэзідэнта. Сутнасць праблемы ў тым, што ні дзяржаўнасць мовы, ні змест нацыянальнай сімволікі не належаць да тыпу пытанняў, па якіх можна праводзіць усенароднае галасаванне. Гэта пытанні спецыфічных кампетэнтных ведаў і таму яны не вырашаюцца на ўзроўні масавай свядомасці.

Ідэя падобнага рэферэндуму магла ўзнікнуць толькі ў галовах людзей абсалютна гістарычна неадукаваных, недалёкіх палітыкаў, поўнасцю недасведчаных у галіне міжнароднай практыкі. Ісці за імі і нават выпярэджваць іх кіраўніку як быццам незалежнай дзяржавы не да твару. Было б дзіўна, нават дзіка, калі б, напрыклад, у Францыі або Нямеччыне публічна дыскутавалася пытанне, ці трэба весці навучанне ў агульнаадукацыйных школах на ангельскай мове і ці трэба праводзіць па гэтым пытанні рэферэндум. Наадварот, французскі ўрад адзін час быў вельмі занепакоены тым, што ў французскай мове з'явілася зашмат ангельскіх слоў і выразаў. Наконт гэтага былі выказаны зусім пэўныя засцерагальныя адносіны, якія матэрыялізаваліся ў заканадаўчых пастановах. І гэта зразумела, бо там дзяржава ахоўвае нацыю, а не наадварот. Прызначэнне дзяржавы якраз у тым і заключаецца, каб забяспечыць росквіт усіх нацыянальных асноў існавання народа. Вядомы нямецкі педагог і вучоны XIX ст. А.Дыстэрвег пісаў: "Кожная нацыя мае свае асаблівасці, абумоўленыя прыродай і гісторыяй, свой нацыянальны дух. Яна валодае толькі адным нацыянальным жыццём, якое вызначаецца свабодным развіццём і дзейнасцю нацыянальнага духу ці асаблівасцямі, якія абумоўліваюць яго, нацыянальным прынцыпам — нацыянальнай самастойнасцю і свабодай.

Форма гэтай нацыянальнай, вольнай дзейнасці ўяўляе знешні арганізм яе жыцця, дзяржава, перад якой у сувязі з гэтым стаіць задача — ажыццявіць нацыянальную своеасаблівасць. Вось яе мэта; яна не мае ніякай самастойнай мэты, а служыць толькі сродкам. Разглядаць дзяржаву як мэту, нацыю як сродак — значыць скажаць натуральны стан рэчаў. Гэта палітычная памылка, няправільнае ўяўленне і забабон" (Дистервег А. Избр. педагогические соч. М., 1956, с.235-236).

У нас жа яшчэ многія тэндэнцыі дзяржаўнай палітыкі накіраваны на разбурэнне і так вельмі крохкіх асноў нацыянальнага жыцця, што бліскуча пацвярджаецца прыдумкай, выспеленай у нетрах цёмнай свядомасці былых партакратаў, запешчаных прывілеямі савецкай улады, з-за чаго яны сёння не могуць цвяроза глянуць на акаляючы свет. І Прэзідэнт, аказваецца, сёння з імі, што абразліва для кіраўніка дзяржавы і самой дзяржавы.

Рэферэндум аб дзяржаўнасці іншай мовы нельга праводзіць згодна агульнапрынятым прынцыпам у цывілізаваным свеце ў тых краінах, дзе карэннае насельніцтва мае суверэннае права на родную мову. У дэмакратычным друку, здаецца, ужо гаварылася, што ўсенароднае апытанне аб дзяржаўнасці мовы на прыкладзе Беларусі стварыла б сітуацыю, падобную той, калі б нехта захацеў апытаць членаў нейкай сям'і, ці згодны яны

*(Працяг на стар. 16.)*



*Не пагасіць агеньчык Незалежнасці...*

*Фота Віталія БАРЗДЫКІ*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***У тых, хто назірае за падрыхтоўкай да выбараў у парламент Беларусі, можа скласціся ўражанне, што хтосьці вельмі жадае, каб гэтыя выбары не адбыліся зусім. Падстаў дзеля гэткага меркавання нямала. Выбарчыя камісіі ствараюцца з вялікімі цяжкасцямі. Людзі не хочуць ісці працаваць у іх. Больш таго, ледзьледзь сабраныя камісіі — могуць распасціся: дзяржава дагэтуль не выдзеліла для іх работы грошы. Сорак старшыняў акруговых камісій зрабілі нядаўна аб гэтым афіцыйную заяву. Кандыдатам у дэпутаты на перадвыбарную агітацыю будзе выдзелена па 600 тысяч рублёў. Што можна на іх зрабіць сёння — пытанне рытарычнае. Хіба што надрукаваць улёткі з праграмай — і то у раённай друкарні і па вялікім блаце. Усе іншыя расходы — толькі з уласнае кішэні. І не дай Бог некаму пакарыстацца паслугамі камерцыйных фірмаў альбо скарыстаць сваё службовае становішча. Агульнарэспубліканскія друк і тэлебачанне прапагандаваць кандыдатаў не маюць права... Усё гэта робіцца быццам бы дзеля стварэння роўных магчымасцяў для ўсіх кандыдатаў. Але мы здаўна ведаем, што сярод роўных заўсёды знаходзіліся раўнейшыя... Словам, можа стацца так, што першы тур выбараў скончыцца нічым. Затое пройдзе рэферэндум, які дасць магчымасць камусьці заявіць, што ўсю паўнату ўлады народ перадаў адной асобе... Гэтага сёння не жадаюць ні цэнтрысты, ні правыя, ні левыя. А таму, як ні дзіўна гэта гучыць, аб'ядноўвацца зараз трэба не проста дэмакратам з нацыяналдэмакратамі і не камуністам з некамуністамі, ў свае блокі, а ўсім у адзіны блок. Ды гэта немагчыма, нерэальна, а, магчыма, і не трэба нікому...***

### НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Сваім распараджэннем ад 27 сакавіка N 47 РП прэзідэнт Беларусі прыпыніў дзейнасць усіх інвестыцыйных фондаў нашай краіны, якія працавалі з чэкамі "Маёмасць". Сродкі друку пакуль не маюць нейкай пэўнай інфармацыі аб прычынах гэтага рашэння, не пракаментавала яго і прэзідэнцкая служба інфармацыі. У чарговы раз наш прэзідэнт секануў з пляча. Калі і былі нейкія парушэнні ў канкрэтных фондах, дык варта было разбірацца з кожным з іх паасобку. Гэтым жа распараджэннем прэзідэнт можа падарваць самую ідэю прыватызацыі, якая і без таго ідзе ў нашай краіне праз пень-калоду.

### ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ ТЫДНЯ

Місія Міжнароднага валютнага фонду 23 сакавіка накіравала ліст у Кабінет Міністраў Беларусі, у якім паведамляецца, што місія МВФ будзе рэкамендаваць Савету дырэктараў МВФ адкласці выдатканне Беларусі крэдыту "stand-by" агульнай сумай 250 мільёнаў долараў. Кіраўнік місіі МВФ Анры Ларп у інтэрв'ю газеце "Звязда" назваў прычыны адтэрміноўкі выдачы крэдыту: "мы не задаволены выкананнем праграмы, пад якую МВФ ужо выдаткаваў Беларусі крэдыт STF у памеры100 млн. долараў", "ураду не ўдалося дасягнуць змяншэння ўзроўню інфляцыі", "у сферы прыватызацыі няма ніякога руху", "існуе парадокс: на Беларусі стабільны курс (рубля да долара) пры вельмі высокай інфляцыі", "становішча ў эканоміцы не карэкціруецца ў адлаведнасці са змяненнямі эканамічнай сітуацыі"... Чым адкажуць на гэта наш прэзідэнт і яго ўрад? Замарожваннем цэн і заробку? Але гэта мы ўжо праходзілі на пачатку прэзідэнцкай кар'еры А. Лукашэнкі. Як памятаеце, за некалькі месяцаў долар "вырас" амаль у 5 разоў, адлаведна — інфляцыя і цэны. І толькі зарплата заставалася нязменным.

### ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

"Газета Андрея Климова" ў апошнім сваім нумары надрукавала надта цікавы фельетон, заснаваны на "амерыканскім" матэрыяле. Аўтар Фёдар Падрэзнік назваў яго "Вместо одной страны другая...", чым даў зразумець усім, што маецца на ўвазе. Больш дасціпнага высмейвання прапаноў нашага прэзідэнта, вынесеных на рэферэндум, мы яшчэ не чыталі. Дзякуй.

### ПРЫСУД ТЫДНЯ

Эканамічны суд СНД разгледзеў справу па заяве Рэспублікі Беларусь да ўрада Рэспублікі Казахстан аб няпоўным выкананні пагаднення па пастаўцы збожжа ўрадажаю 1993 года і аказанні дапамогі ў яго ўборцы. Ураду Казахстана рэкамендавана прыняць меры па пагашэнні доўгу Беларусі, які складае, па ўзгодненых ацэнках, больш за 3 мільярды расійскіх рублёў і 814 тон збожжа ў якасці натуральнай аплаты працы механізатараў... Вядома, радавацца гэтаму рашэнню можна будзе толькі тады, калі грошы будуць у кішэні, а збожжа ў сусеках. І ўсё ж — прэцэдэнт створаны.

### ЧУТКА ТЫДНЯ

БелаПАН паведаміў, што Міністэрства культуры і друку сумесна з Міністэрствам фінансаў маюць намер спыніць фінансаванне выданняў, якія выходзяць на "тарашкевіцы" — правапісе, які быў адменены ў 1933 годзе. Сярод "прэтэндэнтаў" на спыненне фінансавання названы часопісы "Мастацтва", "Бярозка" і, як сказана ў паведамленні, "іншыя". Намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда гэтак пракаментаваў агенцтву сітуацыю: "На сёння ніякіх фактычных спроб спыніць фінансаванне не было, аднак мы папярэджваем выданні, што трэба карыстацца не "тарашкевіцай", а нарматыўнай мовай".

### МІФАЛАГІЗАЦЫЯ ТЫДНЯ

Карэспандэнт "Інтэрфакса" пагутарыў з сакратаром Партыі камуністаў Беларусі (зараз, здаецца, Партыі камуністаў беларускай...) Віктарам Чыкіным. І што мы даведаліся з гэтай гутаркі? Аказваецца, "БНФ — не порождение белорусской действительности. Родиной национальных фронтов стала Старая площадь в Москве... БНФ и представители демократического крыла КПБ—КПСС оказались в те времена по одну сторону баррикад, выступая за обновление коммунистической партии". Вось так, таварышы, і ствараюцца, калі мякка сказаць, міфы. Усе мы жылі ў тыя часы і добра памятаем, як перабудоўшчыкі з КПБ змагаліся з "пенай на хвалях перабудовы" і як БНФ адзіны супрацьстаяў "абноўленай кіруючай..." Даруйце, але астатнія пасажы гэтага інтэрв'ю не будзем каментаваць, бо яны знаходзяцца не тое што па-за крытыкай, але і па-за прайдай і па-за элементарнай логікай, як і сам загаловак публікацыі: "Спасение нации вижу в возвращении к коммунистической идеологии".

**P. S.** Тым, хто не прамінае выпадку папракнуць аўтара "Кола Дзён" у ананімнасці, нагадваем, што рыхтуе "Кола Дзён" да друку Барыс ПЯТРОВІЧ. Для пастаянных чытачоў "ЛіМа" гэта не было і не ёсць таямніцай.



З нагоды

# НЕЗАЛЕЖНА АД ВЫНІКАЎ "РЭФЕРЭНДУМУ"

Прэзідэнт любіць пры выпадку спасылацца на нормы заходняй палітычнай этыкі. У іх, маўляў, прынята з павагай ставіцца да галоўнага чыноўніка дзяржавы. Але, найперш, на Захадзе сам чыноўнік з павагай ставіцца да закона і звычаю. А вольная трактоўка Канстытуцыі для цывілізаванай краіны — рэч увогуле немагчымая, між тым як на Беларусі...

Возьмем, напрыклад, апошнюю прэзідэнцкую ініцыятыву. З фармальнага пункту гледжання няма нічога кепскага ў тым, што прэзідэнт вырашыў сёе-тое абмеркаваць з народам. На самай жа справе гэта замах на вельмі хісткую сацыяльную стабільнасць у нашай краіне. У нашым грамадстве няма адзінства, але і няма крывавай канфрантацыі. А вось рэферэндум, незалежна ад вынікаў, стане крокам да халоднай грамадзянскай вайны.

Абсалютна відавочна, што рэферэндум зусім не мае мэтай высвятленне ісціны (ісціну не вызначаюць шляхам галасавання), а ўмацаванне паслабелых пазіцый Лукашэнкі. Бо палітычны капітал, калісь атрыманы з рук выбаршчыкаў, прэзідэнт бадай што змарнаваў, і цяпер на хвалі барацьбы з апазіцыяй ён спадзяецца атрымаць новы крэдыт даверу.

Мяркую, што нават калі рэферэндум адбудзецца і прынясе станоўчыя для Лукашэнкі вынікі, будучы парламент зусім неабавязаны надаваць ім сілу закона. Па-першае, сама пастаноўка падобных пытанняў на рэферэндум кепска стасуецца з Канстытуцыяй. Па-другое, фармулёўку пытанняў нельга лічыць карэктнай. Па-трэцяе, у часе рэферэндуму на Беларусі не выключаны ціск з боку ўрадавых структур на прэсу і іншыя сродкі масавай інфармацыі, апаненты прэзідэнта не маюць трыбуны, каб звярнуцца да шырокай аўдыторыі з выкладаннем сваіх поглядаў.

Усё гэта разам узятае дасць парламенту падставы праігнараваць магчымыя вынікі прэзідэнцкай ініцыятывы. Маўляў, гэта не рэферэндум, які мае сілу закона, а толькі сацыялагічнае даследаванне — хай іх аналізуюць навукоўцы.

Непазбежным вынікам прэзідэнцкай ініцыятывы будзе ўзаемнае аслабленне праімперскіх, прамаскоўскіх сіл на Беларусі (бо скасаваць суверэнітэт Беларусі праз рэферэндум ім усё роўна не ўдасца) і нацыяналістычных сіл кшталту "Правага рэваншу" (яны атрымаюць сур'ёзны аргумент для апраўдання свайго экстрэмізму і для пашырэння сваёй сацыяльнай базы, найперш сярод моладзі).

Шкада, што наш прэзідэнт не ўмее гуляць у шахматы. Гэта мудрая гульня вучыць разважлівасці і прадбачанню. Сп. Лукашэнка, здаецца, не разумее, што ў хуткім часе можа стаць заложнікам ім жа абвостранага канфлікту, апынуцца паміж двух агнёў.

А "Пагоня", бел-чырвона-белы сцяг так і застануцца дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь. І мова наша вытрымае выпрабаванне. Ды і народ пасля чарговых выбараў вярхоўнай улады і "рэферэндуму" стане хоць крышачку ды разумнейшым.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ХТО Ў ВЫЙГРЫШЫ?

ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

Насуперак шматлікім прагнозам, крах на Міжбанкаўскай валютнай біржы Беларусі пакуль не настаў. І мяркуючы па заявах шэрагу кіраўнікоў краіны, істотных змен тут не прадбачыцца. Ва ўсякім разе на працягу бліжэйшых паўтара месяцаў. Г.зн., фактычна, — да выбараў новага саставу Вярхоўнага Савета.

Дзеля таго, каб аб'ектыўна ацаніць вынікі такога становішча, неабходна дапусціць наступнае: Нацыянальны банк, нягледзячы на шырока рэкламуемы пісьменны манетарызм яго кіраўніцтва, устанавіў, што называецца, "под сурдинку", фіксаваны курс беларускага рубля ў адносінах да долара. Маўчанне ж экспертаў з гэтай нагоды тлумачыцца тым, што многія з іх хоць і гатовы бескарысліва паслужыць ісціне, але... за добрыя грошы.

Спачатку, аднак, неабходна невялікае ўдакладненне. Фіксацыя грашовага курсу не ёсць мера толькі антырынкавая, і ва ўмовах хворай эканомікі яе нельга адназначна прадстаўляць як зло. Больш таго, паводле папулярнага ў краінах СНД падручніка эканомікі Дорнбуша, Фішэра і Шмалензі: "параўнанне вартасцей фіксаваных і гнуткіх валютных курсаў не здольна выявіць пераможцу. Гнуткія абменныя курсы, як правіла, няўстойлівыя з пункту гледжання кароткатэрміновага перыяду, але ў доўгатэрміновым плане яны валодаюць неабходнай гнуткасцю. І, наадварот, фіксаваныя абменныя курсы добрыя з пункту гледжання кароткатэрміновай стабільнасці, але, праўда, празмерна нестабільныя ў доўгатэрміновай перспектыве. Ніводная з гэтых сістэм не валодае яўнай перавагай у справе забеспячэння стабільнасці цэн і поўнай занятасці".

Відавочна, выйсце трэба шукаць у разумным балансе абодвух метадаў. Да такой высновы прыйшлі дзяржаўныя мужы ў асобе Інспекцыі валютнага кантролю Службы кантролю Адміністрацыі прэзідэнта. Такія погляды падтрыманы і шэрагам беларускіх эканамістаў.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што ў Беларусі практычна склаўся афіцыйны пункт погляду на стратэгію ўраўнаважвання валютных курсаў і адбылося ажыццяўленне "блакітнай мары" аб цвёрдым "зайцы".

У выніку суадносін курсавой дынамікі з унутранай інфляцыяй у І-м квартале 1995 года імпарцёры атрымалі значную прэмію, а экспарцёры апынуліся ў... пройгрышы. У чарговы раз пацвердзілася ісціна: "Сусветны вопыт вучыць, што ён нічому не вучыць". Хоць нядаўнія падзеі на міжнародных валютных рынках ясна прадэманстравалі, як пільна вядучыя краіны-экспарцёры сочаць за абменнымі курсамі сваіх валют.

Так, напрыклад, японскія вытворцы аўтамабіляў заявілі, што раптоўны рост курсу ены ў адносінах да долара азначае для іх страту да 3-х да 10-і мільярдаў долараў у год. З аналагічнымі ацэнкамі, але ўжо з нагоды, цытую "безадказнага росту франка", выступіла Асацыяцыя французскіх вытворцаў.

Не думаю, што ўсе гэтыя спадары забылі пра свой патрыятычны абавязак. Хутчэй наадварот, яны яго правільна разумеюць, бо прывыклі да такой сітуацыі, калі нават палітыкі мысляць эканамічнымі катэгорыямі.

# НЯХАЙ ЖЫВЕ ІСЛАМСКАЯ РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ?

## або РЭАНІМАЦЫЯ СМЕРЦІ

Калі ў пачатку 50-х гадоў у Савецкім Саюзе тэрмінова сачынялі дзяржаўную сімволіку саюзных рэспублік (няёмка было без яе ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый), тады і атрымала БССР на сцяг зялёны колер ісламу. Так было па разнарадцы, а галоўнае — каб як далей ад гістарычных традыцый народаў, каб хрысціянскай Беларусі зайздросцілі азербайджанская мусульмане, якім той свяшчэнны для іх зеляніны не дасталося. А мы дасюль не можам пазбыцца "гонару" быць фарпостам ісламу на заходніх межах былога СССР.

Вядома ж, былі і ёсць у Беларусі свае мусульмане — беларускія татары, якія з часоў Вітаўта змагаліся поплеч з нашымі продкамі супраць тэўтонцаў пад харугвамі з Пагоняй. Ды не пра іх святыя пачуцці клапацілася савецкая дзяржава, дзе цэлыя народы дэпартаваліся, выганяліся з родных мясцін, змешваліся ў адным вялізным д'ябальскім катле.

Арнамент на сцягу БССР, як сцвярджаюць этнографы і мастацтвазнаўцы, больш сярэднеазіяцкі, чым беларускі (геаметрычныя фігуры маюць іншую канфігурацыю). Калі ж чытаць яго этнасімволіку "па-беларуску", то адкрываецца трагічны сэнс, паколькі ромб з загнутымі парасткамі ў гэтым арнаменце сімвалізуе смерць, трагічны зыход (гл., напрыклад, нядаўнюю звяздоўскую публікацыю Марыі Жабінскай). Падобныя сімвалы вышывалі беларускія жанчыны на фартухах і ручніках, рыхтуючыся ў дальнюю дарогу — на той свет.

Дык пад якім жа сцягам мы жылі сорак гадоў? "На смерць Беларусі"?

Рэаніматары той смерці не ведаюць свайго роду-племені, не ведаюць сваёй веры. Бо вераю завуць яны нянавісць да беларускага народа — да яго чыстых, белых строяў, расшытых ці затканых чырвонымі ўзорамі, да яго знаку Хрыстовых пакутаў (чырвонае на белым), знаку жыцця і святасці (асноўная семантыка нашых спрадвечных колераў).

Тая ж нянавісць ужо рыхтуе беларускія каласы на спажыву геральдычным арлам: злева ад нашага поля — белы (срэбны), ды ён больш глядзіць на захад; справа — залаты двухгаловы, шукае здабычу.

Уяўляеце тамтэйшы рэферэндум: ці трэба іхняму арлу дзве галавы? Ствараецца партыя ў падтрымку адной галавы, партыя двухгаловага арла, партыя трохгаловага змея...

А безгаловымі будзем мы, працуючы на сваім полі дзеля спажывы залётных птушак. Аслеплі-аглухлі так, што не ўчулі сваёй

# АДЗНАЧЫЛІ ГАДАВІНУ БНР

Святкаванне гэтай даты не абмінула і польскі гарадок Люблін. "Утварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і перспектывы незалежнасці краіны" — менавіта так была вызначана тэма навуковай дыскусіі, ініцыятарам якой стаў вядомы беларускі гісторык, прафесар А. Грыцкевіч.

Імпрэза з нагоды 77-х угодкаў абвяшчэння БНР 25 сакавіка 1918 г. была праведзена 22 сакавіка ў Інстытуце славянскай філалогіі Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай. Прапанову правесці адкрытую дыскусію з удзелам прысутнай аўдыторыі падтрымаў старшыня Люблінскага аддзялення Польскага таварыства беларусазнаўцаў доктар філалогіі Міхал Саевіч.

Прысутных студэнтаў-беларусістаў цікавіла не толькі мінулае, але і сучаснае ў жыцці Беларусі. Ці існавала БНР як рэальная дзяржава? Ці незалежная Беларусь сёння, ці будзе яна незалежнаю заўтра? Як будуць развівацца стасункі незалежнай Польшчы і незалежнай Беларусі? Такім было кола асноўных пытанняў, у абмеркаванні якіх бралі ўдзел польскія і беларускія навукоўцы: філолаг А. Баршчэўскі (Варшава), гісторык Е. Левандоўскі (Люблін), гісторык А. Грыцкевіч (Мінск), археолаг М. Чарняўскі (Мінск), філолаг С. Кавалёў (Мінск).

Прэзентацыі

# "ЧОРНАЯ БЫЛЬ" МАСТАКА МІХАІЛА САВІЦКАГА



*М.САВІЦКІ на адкрыцці выставы.*

У Нацыянальным мастацкім музеі адбылася прэзентацыя Чарнобыльскага цыкла народнага мастака Беларусі, акадэміка Міхаіла Савіцкага. Не першы раз знаёміліся з ім мінскія гледачы, але ўпершыню цыкл быў прадстаўлены цалкам. Сам родам з мясцін, атручаных радыяцыяй, мастак не мог прамінуць нашай і асабіста яму балючай тэмы. І вырашыў яе ў ключы, блізкім да папярэдняга вядомага цыкла, прысвечанага канцлагерам.

Наведаць выставу ўсім, хто цікавіцца творчасцю майстра, можна будзе напрацягу красавіка.

**Н.К.**

*Фота Віт. АМІНАВА*



*З цыкла "Чорная быль".*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# І ПРЫЧЫНА, І СЭНС, І МЭТА...

## ПРАГУЧАЛА З ПАРЛАМЕНЦКАЙ ТРЫБУНЫ

Паважаныя дэпутаты!

Я збіраўся выказаць свае меркаванні наконт усіх прапанаваных на рэферэндум пытанняў, але за недахопам часу мушу спыніцца толькі на адным — на першым. І ў друку і ў вусных выступленнях я ўжо неаднойчы тлумачыў, чаму сёння ні ў якім разе нельга рускай мове ў Беларусі надаваць статус дзяржаўнай. Справа ў тым, што за доўгія дзесяцігоддзі таталітарнай сістэмы беларускую мову фактычна паставілі на грань знікнення, поўнага выцяснення яе з усіх сфер грамадскага жыцця рускаю мовай. І трэба быць зусім глухім і сляпым, каб не чуць і не бачыць гэтага. Значыць, пытанне даўно ўжо стаіць так: або — або. Або мы будзем ратаваць нашу мову, або змірымся з тым, што яна сыдзе ў нябыт. Дык вось: калі рускую мову ў Беларусі мы зробім сёння дзяржаўнай — усё наша нацыянальнае адраджэнне пакоціцца назад і беларуская мова пачне занепадаць далей. Яна не сканкурыруе з дзяржаўнай рускай мовай, — будзем глядзець праўдзе ў вочы. І не таму, што яна горшая за рускую, — не! Яна такая ж выдатная, як і руская, але яна ў такім занядбаным становішчы, што ёй патрэбна моцная дзяржаўная падтрымка. Калі ж і рускую мову абвясціць дзяржаўнай — любы, нават самы дробны чыноўнік адмовіцца пераходзіць на беларускую мову і вывучаць яе не стане. Ён скажа: я карыстаюся дзяржаўнай рускай мовай і адчапіцеся ад мяне са сваёю беларускай. Хіба не так? Ды мы і сёння гэта чуем на кожным кроку, калі руская мова не з'яўляецца дзяржаўнай. У выніку — беларуская мова ніколі не зойме належнага становішча ў нашай суверэннай дзяржаве і будзе асуджана на пагібель. І не трэба, не трэба ніякіх палітычных спекуляцый накшталт таго, што нашых дзяцей пазбаўляюць ведання рускай мовы, адрываюць ад рускай літаратуры і культуры і г.д. Не трэба глядзець на нас як на дзікуноў, якія не хочуць ведаць рускую мову і адварочваюцца ад рускай культуры. У Законе аб мовах чорным па белым запісана: вывучэнне рускай мовы ва ўсіх школах Беларусі з'яўляецца абавязковым. Паўтараю і падкрэсліваю: ва ўсіх школах і абавязковым! Значыць, рэч не ў тым, што мы не будзем ведаць рускую мову — мы будзем яе ведаць, бо і хочам ведаць і абавязаны ведаць па законе. І прычына, і сэнс, і мэта тых, хто падымаюць крык, не ў тым, каб абараніць рускую мову, — яна не мае патрэбы ў абароне, а ў тым, каб не даць падняцца і заняць сапраўды дзяржаўнае становішча беларускай мове, іншымі словамі — каб не даць ёй выжыць, бо калі яна выжыве — Беларусь ніколі не стане "Северо-Западным краем" Расіі. Толькі ў гэтым, паўтараю, і прычына, і сэнс, і мэта крыку-лямантy, які ўсё не змаўкае ні ў друку, ні ў эфіры, ні на трыбунах.

У якасці аргумента змагары за дзяржаўнае двухмоўе спасылаюцца на рэальную сітуацыю, — маўляў, большасць народа ў нас гаворыць па-руску. Па-першае, не па-руску, а беларуска-рускай "трасянкай", сапраўды ж па-руску гаворыць значна меншая частка насельніцтва. Але — рэч не ў гэтым. Дапусцім, нават і большасць. Ну і што? У Чэхіі к 1918 году, у выніку шматвекавога нямецкага панавання, па-чэшску гаварылі толькі ў глухіх вёсачках і то не ўсе. Скрозь і ўсюды гучала мова заваёўнікаў. У 1918 годзе Чэхаславакія атрымала дзяржаўную незалежнасць, першым прэзідэнтам стаў універсітэцкі прафесар Масарык — і праз два-тры гады ўся Чэхія пачала і гаварыць і пісаць па-чэшску. Калі я, у спрэчках аб мове, чую спасылкі на гэтак званую рэальную моўную сітуацыю ў нас — я ўспамінаю таго нехлямяжага мужыка, які, зыходзячы з рэалій, а іменна — хацелася есці, узяў ды з'еў насенную бульбу. Прыйшла пара сеяць, каб восенню сабраць ураджай, а сеяць няма чаго. Дык вось: разумныя палітыкі, мудрыя мужы дзяржавы, зыходзячы з рэалій, глядзяць наперад, думаюць пра будучыню — і "насенную бульбу" не з'ядаюць.

Шаноўныя дэпутаты! У 1696 годзе, калі самастойнасць нашай тагачаснай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага ўжо зрабілася прывіднай, Сойм Рэчы Паспалітай забараніў беларускую мову ў афіцыйным дзяржаўным і грамадскім ужытку, усё справаводства перавёў на польскую мову. У 1840 годзе ўказам імператара Расіі была забаронена не толькі беларуская мова, але і сама назва Беларусь. У 30-я гады нашага, XX стагоддзя на заходняй палавіне Беларусі, акупаванай палякамі, беларускую мову ў афіцыйным ужытку, перш за ўсё ў школах, забараніў прафашысцкі ўрад Пілсудскага, а на ўсходняй, савецкай палавіне Беларусі расправу над беларускай мовай, яе выкарчоўку з афіцыйнага ўжытку пачалі "неистовые ревнители" інтэрнацыяналізму, — выкарчоўку, якая цягнулася аж да апошняга часу. Цяпер нам, парламенту рэспублікі, прапануецца сваімі рукамі задушыць нашу дзяржаўную мову, бо толькі так трэба разумець вынясенне пытання аб дзвюх дзяржаўных мовах на рэферэндум. Разлік зразумелы: даведзены да галечы, да голаду і чорнай роспачы народ думае перш за ўсё пра кавалак хлеба і можа лёгка "клюнуць на прынаду". Здавалася б, з увагі на страшэнную эканамічную сітуацыю ў Беларусі, мы не павінны ствараць праблемы там, дзе ў іх няма патрэбы, — у прыватнасці, наконт сімволікі і двухмоўя. Давайце, і неадкладна, рашаць эканамічныя праблемы! Але выходзіць, што па эканоміцы ў нас спецыялістаў няма, а па мове — усе спецыялісты.

Сёння, калі Вярхоўны Савет што называецца вычарпаў свае паўнамоцтвы, навязваць нам, пад заслону, па прынцыпе "Уходя, гаси свет!", пытанне аб рэферэндуме — проста недарэчы. Мы ўжо не маем на гэта права, бо не будзем мець магчымасці несці за вынікі свайго рашэння адказнасць. Людзі скажуць: вось так — благаславілі, учынілі чорт ведае што — і самі накрыліся хвастом. Ну, а навязваць народу рэферэндум па такіх пытаннях як мова — амаральна. Паўтараю — амаральна. Не кажучы ўжо аб тым, што і незаконна.

Адносна Беларусі гэта азначае, што не варта было так настойліва ў Брусэлі расчышчаць нашым таварам дарогу на Захад, калі на радзіме іх пазбавілі адзінай перавагі — дзешавізны на карысць палітычнай кан'юнктуры.

Зрэшты, нашы казначэі разумеюць, што, стабілізуючы "зайца", яны пад нож пускаюць рэшткі экспартнага патэнцыялу. Менавіта таму публіку перыядычна падштурхоўваюць да думкі аб маючай адбыцца дэвальвацыі беларускай валюты. Аднак ніхто пакуль не адважыўся назваць, на якой пляцоўцы будзе скакаць "зайчык" пры чарговым зніжэнні курсу.

Справа ў тым, што сама дэвальвацыя — інструмент занадта дакладны, каб на ім маглі іграць спецыялісты, больш прывычныя да выканання мелодый "на флейтах водосточных труб". Інтуітыўна прэзідэнт гэта, відавочна, разумее. Не дарэмна, выступаючы перад прамыслоўцамі, ён празрыста намякнуў на хуткае замарожванне цэн і зарплаты.

Але тут уступаюць у дзеянне ўжо крыху іншыя сілы. Іншымі словамі, дзеля таго, каб лячыць беларускую публіку пры дапамозе трывалага "зайца" яшчэ хоць бы на працягу паўтара месяцаў, патрэбен умелы аптэкар, здольны дакладна дазіраваць папулізм і прагматызм.

**Аляксандр МАМЕТАЎ,**
**эканамічны аглядальнік "ЛіМа"**

срэбнай Пагоні, якая праляцела тут далёкім рэхам.

Хто сам не чуў, не бачыў, — пераказвае цяпер дурныя чуткі, што надта ваяўнічы наш збройны рыцар, спалохае суседзяў.

"Паўцарства за каня!" — крычалі калісьці героі.

Дык то героі.

А ў нашым царстве, кажуць, дзеці ў школах і два на два па-беларуску не памножаць.

Табліца множання як аргумент для русіфікацыі каторы раз ужо прыводзіцца рэаніматарамі смерці.

Духоўна скалечылі не адно пакаленне, прымусілі пагарджаць сваімі бацькамі, вырвалі з роднай стыхіі жыцця, — а дзе ж той абяцаны рай? Дзе той тэхнічны праргрэс, які гаворыць з імі па-руску?

Мудрыя японцы адгарадзіліся сваімі іерогліфамі ад эксперыментаў неразумных суседзяў, і нічога — жывуць. Ды ідуць папераду навукова-тэхнічнага прагрэсу.

А ў нас алхімікі ўлады думаюць, што калі хімічную формулу беларускай вады ($H_2O$) яны будуць пісаць "па-руску", то замест вады пацячэ нафта.

Што ж, кожны разумнейшы пасвойму, а дурань — велічыня інтэрнацыянальная.

Мова не з'яўляецца на свет дзякуючы дэкрэтам і ўказам, яна непадуладная царам і прэзідэнтам і не належыць толькі тым, хто жыве зараз сваё імгненне быцця.

Той, хто прагне расправы з ёй, няхай пакліча на свой рэферэндум усіх яе творцаў — мільёны вядомых і безыменных сёння людзей, таленавітых сваім далучэннем да Слова. Паклічце Францыска Скарыну і Льва Сапегу, Кастуся Каліноўскага і Францішка Багушэвіча, Янку Купалу і Максіма Багдановіча...

Паклічце ўсіх закатаваных і расстраляных у Курапатах і невядома дзе, у запалярнай тундры і ў краснаярскай тайзе, у воркуцінскіх шахтах і казахстанскім стэпе.

Паклічце ўсіх вучоных і паэтаў, якія праглі сказаць сваё слова аб роднай зямлі, але слова іх абарвалі.

Паклічце ўсіх земляробаў-гаспадароў, якіх забілі за любоў да сваёй зямлі ці гвалтам рассеялі па чужых неабжытых прасторах.

Паклічце ўсіх, хто згарэў у агні Хатыні і Дальвы, чыё беларускае слова апошняга плачу-праклёну лягло жменькай попелу на сваёй зямлі.

Не чуць гэтага слова злачынна і амаральна.

А рэаніматары смерці, бы крумкачы, кружаць і кружаць над беларускай доляй.

Бязвольныя, скалечаныя імі душы — спажыва зла і разбурэння. Гэтых няшчасных навучылі адракацца ад саміх сябе — няхай праз роспачныя слёзы, прыніжэнне, — вынішчэннем свайго "беларускага акцэнту", знявагай матчынага блаславення, чужацкім матам і блатным жаргонам. Каб толькі быць — так ім сказалі — "як людзі", "як усе".

І вось цяпер, калі канчатковай платай за іх прывідную мару чарговымі авантурыстамі аб'яўляюцца душа і слова, яны гатовыя заплаціць — можа, апошні раз (больш не будзе чым).

Вымагаць такую плату кашчунна.

Яшчэ ў 1916 годзе, спасцігаючы патрыятычны сэнс Пагоні, Максім Багдановіч накіраваў мячы старажытных рыцараў не на знешніх ворагаў-заваёўнікаў роднай зямлі, а на ўласных здраднікаў-рэнегатаў:

**Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,**
**Не давайце чужынцамі быць!..**

Можа, таму нашы рэаніматары смерці так баяцца Пагоні.

**Люба ТАРАСЮК**

Марцін Коўзкі

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Ці трэба цырульнікам міністра? Хіба што ў крэсле для галення. Цырульнікі голяць чыста, а цырульнікаў бытупраўленні. Дзіўная сфера паслуг — чыноўнікаў доўгі цуг, праблем абярэмак. Разарваны міністэрскі круг, але ацалела сістэма. Ніводнага беспрацоўнага супрацоўніка, ганарацца міністэрскія чыноўнікі, не каштуем дзяржаве і цэнта — усё з кліентаў.

●

Накрыў мяне смяртэльнай мукі цень, званю на "Хуткую", а там якраз "сандзень". Цярплю, дужаюся, ганю той цень пачварны, бо і на могілках таксама "санітарны". Не стрэнь мяне, Гасподзь, гэты цень міні, бываюць жа ў вас там нейкія "сандні"!..

●

І пасада ў "былога" не тая, і зарплата не тая, а ўсё яшчэ здароўкаецца: "Я вас вітаю". Не гнуцца насустрач шыі, хоць і мы шчэ "былыя".

# Пімен ПАНЧАНКА

Вялікую страту панесла беларуская літаратура — 2 красавіка 1995 года пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр народны паэт Беларусі Пімен Панчанка. Перастала біцца сэрца чалавека, які ўсё сваё жыццё аддаў служэнню роднай Беларусі.

Пімен Емяльянавіч Панчанка нарадзіўся 23 жніўня 1917 года ў г. Таліне ў рабочай сям'і. Яго бацькі, бедныя сяляне, змушаны былі ў пошуках заробку выехаць у Прыбалтыку. Але ўжо ў 1920 годзе сям'я вярнулася ў Беларусь. Тут пачыналіся шляхі-пуцявіны будучага паэта.

У 1934 годзе Пімен Панчанка скончыў педагагічныя курсы ў Бабруйску, а пазней, у 1939-м, — Мінскі настаўніцкі інстытут. Працаваў у школах Кіраўскага раёна на Магілёўшчыне.

З 1939 па 1946 год жыццёвы лёс Пімена Панчанкі звязаны з нялёгкімі салдацкімі дарогамі. На франтах Вялікай Айчыннай вайны — Бранскім, Заходнім, Калінінскім, Паўночна-Заходнім — ён змагаўся як мужны баец і палымяны паэт.

Пасля вайны Пімен Панчанка працаваў у рэдакцыях часопіса "Вожык", газеты "Літаратура і мастацтва", быў галоўным рэдактарам часопісаў "Советская Отчизна", "Маладосць", сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У саставе беларускай дэлегацыі прымаў удзел у рабоце XIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, старшынёй Рэспубліканскага камітэта абароны міру. Ён — ганаровы акадэмік Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

Першыя вершы Пімена Панчанкі з'явіліся ў 1934 годзе на старонках кіраўскай раённай газеты і альманаха "Ударнік". Яны вызначаліся юнацкай узнёсласцю і натхнёнасцю. За гады плённай творчай працы Пімен Панчанка выдаў дзесяткі кніг — вершаў і паэм, перакладаў, публіцыстыкі, успамінаў. Сярод іх "Упэўненасць", "Вераснёвыя сцягі", "Табе, Беларусь!", "Дарогай вайны", "Далёкія станцыі", "Гарачыя вятры", "Прысяга", "Кніга вандраванняў і любові", "Тысяча небасхілаў", "Чатыры кантыненты", "Пры святле маланак", "Размова з наследнікамі", "Снежань", "Крык сойкі", "Вячэрні цягнік", "Млечны Шлях", "Маўклівая малітва", "Дзе начуе жаўранак", "Лясныя воблакі", "І вера, і вернасць, і вечнасць", "Горкі жолуд", "Неспакой" і многія іншыя. Выходзілі зборы твораў аўтара ў 2-х, 3-х і 4-х тамах.

Шырокае прызнанне атрымала творчасць паэта не толькі на Радзіме, але і за яе межамі. Ён — лаўрэат Дзяржаўнай і Літаратурнай прэмій імя Янкі Купалы, Дзяржаўнай прэміі СССР.

Высока былі адзначаны працоўныя і ратныя заслугі Пімена Панчанкі. Ён узнагароджаны ордэнам Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай Рэвалюцыі і Айчыннай вайны II ступені, трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума — "Знак Пашаны", медалямі.

Пімен Панчанка — паэт яркага таленту, усёй сваёй творчасцю, жыццём знітаваны з народам, з якім ён да апошняга дыхання быў разам і ў суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны, і ў гады нялёгкай мірнай працы, і ў складаны, поўны супярэчнасцей наш час. Арыенціры яго паэзіі вельмі ясныя і дакладныя: гэта, як ён сам пісаў у аўтабіяграфіі, "праўда жыцця, — праўда пачуццяў маіх сучаснікаў, чалавечнасць..." І таму так бескампрамісна змагаўся ён паэтычным словам супраць хлусні, дэмагогіі, прыстасаванства, абыякавасці; і таму з такой праніклівай задушэўнасцю, чуласцю, пяшчотай, глыбокім пачуццём чалавечнасці ён апяваў свайго сучасніка; і таму так горача любіў свой народ і Радзіму, змагаўся за яе нацыянальнае адраджэнне.



Паэзія Пімена Панчанкі — паэта-грамадзяніна, паэта-патрыёта, прасякнутая людскімі клопатамі і трывогамі, будзе заўсёды з намі.

Будзе жыць у памяці народнай воблік Пімена Емяльянавіча Панчанкі, чалавека шчодрай, багатай душы, чыстага сумлення.

**Лукашэнка А. Р., Грыб М. І., Чыгір М. М., Бамбіза І. М., Русакевіч У. В., Сініцын Л. Г., Бутэвіч А. І., Стражаў В. І., Сянько У. Л., Ярмошын У. В., Барадулін Р. І., Брыль І. А., Быкаў В. У., Бураўкін Г. М., Гілевіч Н. С., Навуменка І. Я., Скурко Я. І (Максім Танк), Чыгрынаў І. Г., Шамякін І. П., Адамчык В. У., Андраюк С. А., Аўрамчык М. Я., Блакіт (Болтач) В. У., Вярцінскі А. І., Гарэцкі Р. Г., Гіль (Гілевіч) М. С., Гніламёдаў У. В., Грахоўскі С. І., Далідовіч Г. В., Дудараў А. А., Жалязоўскі А. П., Законнікаў С. І., Звонак П. Б., Зуёнак В. В., Каваленка В. А., Казько В. А., Кіслік Н. З., Крысько Ц. В. (Васіль Вітка), Кудравец А. П., Ліпскі У. С., Лойка А. А., Лукша В. А., Лучанок І. М., Макаль П. М., Мальдзіс А. І., Някляеў У. П., Паўлаў У. А., Пісьмянкоў А. У., Прыходзька П. Ф., Пташнікаў І. М., Русецкі А. С., Сачанка Б. І. Сіпакоў І. Д., Супрунчук В. П., Сушчэня Л. М., Шабалін А. А.**

# СЛОВА НАД МАГІЛАЙ

Клады — не тое месца, дзе прамаўляць... Тут маўчаць і думаць...

Пімен Емяльянавіч, Вы не раз стаялі на крайках свежых магіл і ведалі, як яно, жывому, няўтульна і ніякавата. Але, паважаючы жыццё, нельга не паважаць смерць. Тым больш, калі яна з'яўляецца, як збавенне, калі прыходзіць у час, ператрываць які немагчыма.

Зрэшты, Вы цяпер ужо ведаеце тое, пра што здагадваліся, што нам пакуль ведаць не дадзена: што смерці няма. І ўсё адно страшэнна, да болю будзе не хапаць Вашай прысутнасці, якая значыла і важыла не менш за вершы. Той, хто будзе чытаць Вашы вершы пасля, па-за Вашай прысутнасцю, многае ў іх, магчыма, адчуе і зразумее не так. Аднак такой бяды. Абы ён быў і чытаў.

Абапал апошняга Вашага шляху шмат енку і плачу. Спраўляюцца хаўтуры па паэзіі, па культуры, па мове. Нібыта можна адпрэчыць і пахаваць тое, з чаго вынікае і чым асэнсоўваецца чалавечае жыццё, ягоная спрадвечная таямніца. Мова дадзена чалавеку і народу не адно дзеля таго, каб напісаць Указ ці Канстытуцыю. Дзесяць запаведзяў даўно ўжо напісаны. Мова для таго, каб выказацца Богу. Толькі сваёю мовай выказацца Яму, іншай Ён не пачуе. Беларусам вякамі заміналі гэта зрабіць. Бог тое ведае і дае нам сілы трываць, і не адыме ім дадзенае.

Не адняць і Вас, Пімен Емяльянавіч, ні ў нас, ні ў нашчадкаў.

**Пімен Емяльянавіч,**
**бывайце!**
**Як радзее ў вашай**
**чарадзе!**
**Неадольна спее страта**
**ў страце.**
**Ціха так, як снег ідзе**
**па ваце,**
**Ценем за паэтам**
**смерць ідзе.**

**Пімен Емяльянавіч,**
**даруйце!**
**Што сказаць, як скрозь**
**адна вайна?..**
**Я дап'ю ў самоце**
**чай на руце,**
**Пазваню Рыгору**
**ці Дануце,**
**А не пазваню —**
**мая віна.**

**Пімен Емяльянавіч,**
**жывіце!**
**Нема на апошні**
**ўзмах касы**
**Перапёлка закрычыць**
**у жыце,**
**Захлынецца жаўранка**
**ў блакіце, —**
**Вось і ўсе, бадай што,**
**галасы...**

**Пімен Емяльянавіч,**
**бывайце!..**

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

# ВЯЛІКАЕ СЛОВА ПРА ЯГО СКАЖА БУДУЧЫНЯ

Мы праводзім у апошнюю дарогу аднаго з самых выдатных паэтаў XX стагоддзя, вялікага сына Беларусі і вялікага грамадзяніна краіны Пімена Емяльянавіча Панчанку. Мы гаворым апошняе бывай паэту, які шэсць дзесяткаў гадоў нястомна і самааддана служыў сваім шчырым, сумленным, яркім і самабытным словам роднаму народу, нашай літаратуры і культуры, і ўсім добрым людзям на планеце, да каго яго слова даходзіла. А яно разыходзілася далёка і шырока, творы Панчанкі чыталі ў многіх краінах свету. У яго было шмат верных і блізкіх сяброў не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, і на Украіне, і ва Узбекістане, і ў Літве, і ў Балгарыі, і ў Югаславіі — ды хіба пералічыш землі і гарады, дзе гучала яго слова, шырачы вядомасць і славу нашай Бацькаўшчыны? Ён валодаў надзвычайным талентам зблізкаць і радніць сабою, сваёю творчасцю людзей розных моў і нацый — і ў гэтым для нас адзін з яго вялікіх запаветаў.

Пімен Емяльянавіч Панчанка доўгі час быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі і членам прэзідыума Вярхоўнага Савета. Помню, як ён гаварыў: "Цяжэй за ўсё разглядаць на прэзідыуме справы аб памілаванні". Так, яму гэта было асабліва цяжка і пакутліва, бо ён бачыў не толькі злачынства, якое павінна быць пакарана, але і перш за ўсё — зламаныя, пакалечаныя лёсы людзей, трагедыю чалавека. Бо ён быў абаронца чалавечнасці, а "без чалавечнасці не будзе вечнасці", — гэта яго словы.

Калісьці верш, прысвечаны Пімену Панчанку, я закончыў радком: "і беларускі, як усмешка Пімена". Пагасла, і назаўсёды, яго сапраўды надзіва беларуская, нейкая асабліва добрая і мяккая ўсмешка. Але ў яго была адметна беларускай не толькі ўсмешка. Адметна беларускім было ў яго ўсё — і слова, і пачуццё болю, і крыўда, і гнеў, — усё, што адбілася ў дзесятках кніг яго паэзіі, у яго публіцыстыцы. Надзіва беларускім было яго вялікае, шчодрае на любоў і ласку, на дабрыню і спагаду сэрца. Ён пакінуў нам усім шмат запаветаў, не прыслухацца да якіх было б недаравальна. І адзін з іх і гучаў і гучыць надзвычай актуальна: "А галоўнае, галоўнае, галоўнае, — не хлусіце ні народу, ні сабе".

Мера любові чалавека да сваёй Бацькаўшчыны — гэта не толькі мера напрацаванага ім на карысць народа, але і мера яго болю і яго пакут, яго неспакою і яго трывог за лёс свайго народа, сваёй Бацькаўшчыны. У Пімена Панчанкі гэтая мера была найвышэйшая. А мера любові вучня да настаўніка — гэта перш за ўсё мера яго ўдзячнасці таму, у каго вучыўся.

У Пімена Панчанкі ўдзячных вучняў вельмі-вельмі шмат. Сёлета паўвека нашай Перамозе — і роўна паўвека, як я, 14-гадовы падлетак, адкрыў для сябе паэта надзвычайнай моцы і сілы, пасля чаго ўжо не прамінаў ніводнага яго радка. Я тады не ведаў, што гэты майстар, гэты мой паэтычны настаўнік і сам быў яшчэ зусім малады, яму не было яшчэ і трыццаці. Здаецца, ні ў кога з яго сучаснікаў я тады не сустракаў такіх пяшчотных, такіх пранізлівых, такіх гарачых прызнанняў Беларусі ў любві, як у Пімена Панчанкі.

**Стаю ля Каспійскага мора**
**на беразе**
**І марай уласнае сэрца**
**трывожу —**
**Мая Беларусь,**
**у рамонку і верасе,**
**Цябе не на жарты**
**зрабіць я намерыўся**
**І самай багатай,**
**І самай прыгожай.**

Гэта было сказана больш паўвека назад, у гады Вялікай Айчыннай вайны, мужным салдатам якой ён быў. Не думаў тады, на хвалі ўзнёсласці і гэтай светлай веры паэт, што пройдуць гады — усяго каля дваццаці гадоў, — і ён напіша радкі зусім іншыя — палынна горкія, балючыя, страшныя ў сваёй праўдзівасці, у сваёй гранічнай — на апошняй мяжы магчымага — чалавечай і паэтычнай адкрытасці:

**Ці плачу я? Ці пяю?**
**Восень. На вуліцы цёмна.**
**Пакіньце мне мову маю.**
**Пакіньце жыццё мне!**

Не пачулі голасу паэта манкурты і цынікі. Больш таго — выкраслілі вось гэтыя радкі з верша. Не пачулі і працягвалі адбіраць мову ў паэта і ў яго народа. І як горка, як цяжка, а часам і як роспачна было яму ўсе гэтыя апошнія дзесяцігоддзі, што ён перажыў і перадумаў сам-насам з сабою — пра гэта трэба чытаць у яго кнігах, хоць і там, вядома ж, выказана і змешчана далёка не ўсё.

Паэты прыходзяць у свет, каб памагчы людзям лепш зразумець сябе, свой час, сваё чалавечае назначэнне, і чым большы паэт — тым большая яго роля ў гэтым. Паэты, жывыя людзі з гарачымі сэрцамі і вачыма, аднойчы пакідаюць свет — але не пакідае свет і людзей іх паэзія. Больш таго, іх фізічная смерць як бы адхінае і здымае ўсё тое, што перашкаджала сучаснікам бачыць усю веліч створанага імі. Таму лепш, паўней і выразней бачаць і плён іх працы і іх значэнне ў гістарычным лёсе народа — нашчадкі, наследнікі спадчыны, людзі будучага. Не сумняваюся, так будзе і на гэты раз. Вялікае слова пра вялікага паэта Пімена Панчанку скажа будучыня. Слова на ўзроўні яго чалавечай і грамадзянскай годнасці, яго здзяйсненняў і пакут, яго заслуг перад Бацькаўшчынай.

Бывай, дарагі настаўнік, старэйшы брат і паплечнік!

Хай будзе лёгкай табе наша родная зямля.

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# НЕ ЗМОЎКНУЦЬ ГОЛАСУ ПАЭТА

*Памяці Пімена Панчанкі*

**Ніколі не забыць такога:**
**Лёг на паэта смерці цень, —**
**Мы ж чулі ўсе яго жывога**
**Якраз у гэты самы дзень.**

**Такое ж трэба супадзенне:**
**Мы — у жалобе перад ім,**
**А ён з развагай і натхненнем**
**Чытаў свае нам вершы ўсім,**

**Прыгадваў дружбакоў імёны,**
**У новы шлях зваў за сабой.**
**Ягоны голас пранікнёны**
**Гучэў з усмешкай і журбой.**

**Па праву воя-ветэрана**
**Вайну прыгадваючы, ён**
**Сам выступаў з тэлеэкрана,**
**Запісаны за колькі дзён.**

**У вершах мужных, адмысловых**
**Мы чулі кліч сваёй зямлі,**
**Каб і яе і роднай мовы**
**Забыць ніколі не маглі.**

**У Мінску, Слуцку і Бягомлі,**
**Ўваходзячага ў нашы сны,**
**Заўсёды будзем чуць яго мы**
**Як вешчуна сваёй вясны.**

**Любой парой — зімой ці летам —**
**Ва ўзлёце думак, пачуцця**
**Не змоўкнуць голасу паэта,**
**Які ўсіх клікаў да жыцця!**

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

*4 красавіка 1995 г.*

# РАЗВІТАННЕ З ПІМЕНАМ ПАНЧАНКАМ

**Сваёй эпохі пасынак і сын**
**Яе любіў і ненавідзеў шчыра.**
**Бывала й лераю жабрачай**
**ліра,**
**І весялухай зманлівых часін.**

**З самім сабой**
**Самазабойны бой.**
**Не правадыр,**
**А павадыр сумневу**
**Больш давяраў**
**Свайму глухому гневу,**
**Які з дзвярэй лагоды**
**Рваў прабой.**

**Ён д'яблу не заклаў**
**сваю душу,**
**І грэшнік, і пакутнік**
**утрапёны.**
**Пегас прыстаў.**
**Як шыбельні, страмёны.**
**І правіць мова родная імшу...**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

# ВАКЗАЛ НЕ ДЛЯ ДВАІХ

## ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

МО Я І ПАМЫЛЯЮСЯ, але, здаецца, ніводная падзея, звязаная з тэхнічным прагрэсам у чалавечай гісторыі, не выклікала сярод натоўпу такога ажыятажу, такога нервовага ўздыму, як стварэнне паравоза, а ўслед за ім і чыгункі. Як гэта спявалася ў "Спадарожнай песні" Міхаіла Глінкі, напісанай у год смерці А.Пушкіна з нагоды пуску першай у Расіі чыгуначнай лініі С.Пецярбург—Царскае Сяло працягласцю ўсяго 27 вёрст: "Дым столбом, кипит, дымится пароход. Пестрота, разгул, волненье, ожиданье, нетерпенье. Веселится и ликует весь народ, и быстрее шибче воли поезд мчится в чистом поле".

Не наглядалася нешта такога "волненья, ожиданья, нетерпенья", ды яшчэ калі пры гэтым "веселится и ликует весь народ", тады, калі ў жыццё чалавека ўвайшоў аўтамабіль, ці, скажам, паветраны транспарт.

Што ні кажыце, а чыгунка валодае нейкай незразумелай магіяй, якая накладвае на чалавека, трапіўшага ў яе арбіту, свой непаўторны адбітак. Дазволю сабе яшчэ раз спаслацца на літаратурную класіку, на гэты раз на неўміручых "Дванаццаць крэслаў" Ільі Ільфа і Яўгенія Пятрова: "...З той хвіліны, калі грамадзянін уступае ў паласу адчужэння, якую ён па-дылетанцку называе вакзалам або станцыяй, жыццё яго рэзка мяняецца. Адразу ж да яго падскокваюць Ермакі Цімафеевічы ў белых фартухах з нікеліраванымі бляхамі на сэрцы і паслужліва падхопліваюць багаж. З гэтай хвіліны грамадзянін ужо не належыць самому сабе. Ён — пасажыр і пачынае выконваць усе абавязкі пасажыра. Абавязкі гэтыя шматскладаныя, але прыемныя. Пасажыр вельмі шмат есць. Простыя смяротныя па начах не ядуць, але пасажыр есць і ўначы. Есць ён смажанае куранё, якое яму не па кішэні, крутыя яйкі, шкодныя для страўніка, і масліны..."

За 67 гадоў, што сплылі пасля выхаду рамана, сёе-тое ў жыцці нашым перамянілася. У тым ліку і ў паводзінах і псіхалогіі пасажыра. Ну, а калі гаварыць пра яго вагоннае меню, дык простаму грамадзяніну смажанае куранё сёння не тое што не па кішэні, яно для яго недаступная раскоша. Затое ён паглынае ў фантастычных памерах вараную кілбасу, якая карысная для яго страўніка, бо амаль вегетарыянская.

Але самая істотная змена ў рацыёне пасажыра — не гэтая. Узятая з рамана фраза: "Пасажыр вельмі шмат есць" у асучасненым выглядзе гучала б так: "Пасажыр вельмі шмат п'е". Начальнік пасажырскага цягніка нумар 26 "Мінск—Масква" Валянціна Жукоўская, з якой мы доўга гутарылі ў яе ўтульным службовым купэ, распавядала, што не паспее цягнік крануцца з месца, як ці не на ўсіх вагонных століках з'яўляюцца бутэлькі з гарэлкай і віном. І п'юць "всю дорогу".

А ўсплыла гэтая тэма ў нашай гаворцы, можна сказаць, выпадкова. Я пацікавіўся ў начальніка заробкам праваднікоў і даведаўшыся, што недзе 450 тысяч (гэта да апошняга павышэння мінімальнай зарплаты), успомніў аднойчы выпадкова пачутую "дэталь" з жыцця чыгуначнай абслугі, у прыватнасці — вагонных праваднікоў, якія да сваёй зарплаты маюць істотны прыварак за кошт "прыватызацыі" пакінутых бутэлек. "Гэта праўда?" — спытаў я Валянціну Міхайлаўну. "Праўда", — прызналася яна, пацвердзіўшы міжвольную здагадку, што паяздная абслуга мусіць быць зацікаўленай у тым павальным піцці ў цягніку. Многія праваднікі, як мне гаварылі, спецыяльна купляюць гарэлку, каб потым у дарозе задаволіць прагнучых, толькі ўжо, вядома, не па дзяржаўнай цане. А яшчэ "зайцы"-безбілетнікі... Пачуўшы пра "зайцоў", начальніца цягніка рашуча запярэчыла: "З гэтым у нас строга, за адзін такі выпадак можна з працы вылецець. А за яе сёння трымаюцца..."

Я не стаў далей развіваць гэтую тэму. Ды і з якой гэта нагоды яна стане спавядацца перад журналістам? Літаральна праз пару дзён пасля гэтай сустрэчы раптам чую па радыё інфармацыю, што наша міліцыя перахапіла ў праваднікоў аднаго з цягнікоў вялікую, у некалькі соцень кілаграмаў, партыю цыгарэт, якія тыя хацелі вывезці за межы рэспублікі. Ну а колькі перападае цягніковай абслузе ад "чаўнакоў", пра гэта гісторыя, як кажуць, маўчыць. Заўважыла толькі Валянціна Жукоўская, што некаторыя пасажыры, каб перавезці пабольш грузу, закупляюць адразу ўсё купэ. На кожны білет зараз дазваляецца перавозіць да 50 кілаграмаў ручной паклажы, ну а калі ў купэ загрузіцца паўтоны, дык ці так ужо цяжка зрабіць праваднiцу невідушчай?

НУ А ЎСЁ-ТАКІ, хто галоўны чалавек на вакзале? Вядома ж, начальнік. На мінскім вакзале гэта Уладзімір Аляксандравіч Грыгаровіч, у падначаленні якога — 700 чалавек: білетныя касіры (па сталіцы раскінута больш як 50 кас), прыбіральшчыкі, кладаўшчыкі, "рознаўзроставыя" дзяўчаты з даведачнай (іх Уладзімір Аляксандравіч асабліва хваліў, што адразу выклікала ў мяне жаданне запярэчыць яму), дзяжурныя па вакзале і насільшчыкі, якіх тут 20 асоб.

З некаторымі з іх я пазнаёміўся, і павінен сказаць, што час унёс карэктывы і ў паняцце "вакзальны насільшчык". Ва ўсякім разе, вядомы па мастацкай літаратуры, кінафільмах, ды і адлюстраваны ў маёй уласнай памяці вобраз гэткага мажнага дзядзькі з выклікаючым давер тварам, у белым фартуху ды з бляхай на грудзях адышоў у нябыт. Не тое, каб зусім знікла гэтае спецыфічнае вакзальнае племя. Яно існуе, але гэта ўжо тыпова не тое, што было раней.

Ва ўсякім разе, намаляваная сатырыкамі карцінка з "Ермакамі Цімафеевічамі", якія паслужліва падхопліваюць у пасажыраў багаж, у дачыненні да сённяшняй явы выглядае анахранізмам. Да такой высновы прыйшоў адразу, калі выйшаў на адну з платформаў, адкуль праз пятнаццаць хвілін павінен быў адправіцца цягнік на Брэст. Нікога "ў белым фартуху" я не ўбачыў. Затое ўбачыў, як спяшаліся да цягніка людзі — хто з усіх сіл штурхаў перад сабой ручную цялежку з паклажай у тры паверхі, хто, задыхаючыся і спыняючыся праз некалькі крокаў, нёс у руках непад'ёмныя на выгляд чамаданы. Адна з цялежак ужо блізка ля цягніка раптам перакулілася, і жанчына з чырвоным узмакрэлым тварам, войкаючы, кінулася падымаць з асфальту паклажу. Прыняўшы пасільны ўдзел у аднаўленні на той цялежцы "статус-кво", я пацікавіўся ў кабеты, чаму яна не ўзяла насільшчыка. Выціраючы хусцінкай твар, жанчына адказала, што, першае, ёй не ў навіну цягаць усё на сваім гарбе ("як, відаць, і вашай жонцы", удакладніла яна з'едліва); па-другое, насільшчык садраў бы з яе столькі, колькі бадай каштуе білет да Брэста; па-трэцяе, дзе таго насільшчыка знайсці, калі б яна і захацела пакарыстацца яго паслугамі?

Сапраўды, знайсці тых "Ермакоў Цімафеевічаў" аказалася не так проста. Тры ці чатыры спробы дазнацца, дзе іх "штабкватэра", былі безвыніковыя, пакуль адна з прадаўшчыц размешчаных на пероне кіёскаў не растлумачыла, што "трэба ісці ўздоўж плота, потым абмінуць "камкі" і адразу за туалетам убачыце багажнае аддзяленне, дзе тыя насільшчыкі і атабарваюцца".

У камеры захавання багажу прыёмшчык у акенцы, выслухаўшы мяне, кіўнуў у бок двух мужчын няпэўнага ўзросту, што курылі ў "прылазніку" — "яны". Мужчыны, апрануты ў паношаныя брудныя курткі і спартыўныя штаны, даведаўшыся, што з імі хоча пагутарыць карэспандэнт, прабурчэлі, што яны "нічога не ведаюць" і хуценька вышмыгнулі з памяшкання. Неўзабаве, праўда, адзін з іх вярнуўся і заняў свой "пост" ля цялежак, скоса пазіраючы на мяне. Мы сустрэліся вачыма, і ў мяне мільганула думка, што наўрад ці даверыў бы яму сваю паклажу, асабліва, калі б такая патрэба ўзнікла ноччу.Надта ж падазрона ён выглядаў. І дзе тая "бляха" з нумарам, што павінна быць прышпілена да грудзей? Праўда, потым я даведаюся, што мясцовыя насільшчыкі забяспечаны калі не "бляхамі", дык пластмасавымі нумаркамі, накшталт гардэробных, якія трымаюць у... кішэні.

Тут, у камеры для захоўвання багажу, я стаў сведкам сцэнкі, якая высвеціла сякія-такія "сакрэты" жыцця племя насільшчыкаў. Пажылая дама, атрымаўшы з вакенца сярэдніх памераў скрыню, доўга ўгаворвала ўжо знаёмага чытачу прадстаўніка мясцовага насільнага сервісу аднесці яе паклажу на вакзал, яе цягнік адпраўляўся толькі праз гадзіну. Той доўга аднекваўся — што, маўляў, у яго хутка абедзенны перапынак (да яго, між іншым, было яшчэ амаль паўгадзіны), што чакаюць яго нейкія пільныя справы. Нарэшце ўсё-такі, ці то на яго падзейнічала прысутнасць карэспандэнта, ці то па нейкай іншай прычыне, прабурчэў: "Добра, занясу, рыхтуйце паўтары тысячы рублёў", лёгка падхапіў скрыню і шпарка пакрочыў да вакзала.

Як мне неўзабаве расказалі ў мясцовай адміністрацыі, такса за паслугі насільшчыка ўстанаўліваецца ў залежнасці ад габарытаў і вагі паклажы і складае ад тысячы да паўтары тысячы рублёў за грузавое месца. На чатырохколавай грузавой цялежцы (некалькі іх стаяла ля камеры) можна адвезці да цягніка ці ад цягніка 8-10 чамаданаў, атрымаўшы за гэта адразу 12-15 тысяч рублёў. Стала зразумелым нежаданне насільшчыка дапамагчы жанчыне аднесці яе паклажу на вакзал: яму гэта было нявыгадна — час зойме, а заробак, па яго мерках, мізэрны.

Я пацікавіўся, ці выдаюць насільшчыкі квітанцыі кліентам за атрыманыя грошы. Не, не выдаюць. Яны на гаспадарчым разліку — у канцы змены павінны здаць пэўную суму грошай, а што засталося, тое належыць ім. Колькі застаецца, ведаюць толькі яны. "Думаю, яны маюць больш за мяне, начальніка вакзала, — казаў мне Уладзімір Грыгаровіч і распавёў пра сваю гаворку з начальнікам аднаго з маскоўскіх вакзалаў, у час якой той прызнаўся свайму беларускаму калегу, што



*Вакзальныя "девочки", як правіла, дакументаў пры сабе не маюць.*



*Бомж — ёсць бомж.*

*Фота А.МАЦЮША*

у іх кожны насільшчык меней за 50-60 долараў за змену не мае. Інакш бы даўно разбегліся. На мінскім вакзале, паводле слоў Уладзіміра Аляксандравіча, кадры насільшчыкаў стабільныя, людзі працуюць на адным месцы па шмат гадоў, хоць яны яшчэ выконваюць і абавязкі рознарабочых, па сутнасці, прыбіральшчыкаў. Значыць, і з такой нагрузкай працаваць тут выгадна.

Ну, а што няма на тых насільшчыках хоць нейкай форменнай адзнакі, дык, як растлумачыла намеснік начальніка вакзала Ніна Баркоўская (яна іх курыруе), няма на гэта грошай.

І наогул, на ўсім, што тычыцца знешняга "параду" чыгуначнікаў, ляжыць пячатка неймавернай правінцыйнасці. Адправіўшыся ў пошукі дзяжурнай па вакзале, я чакаў убачыць постаць у прыгожай чырвонай фуражцы, фірменным кіцелі з нашыўкамі, кашулі з гальштукам. Тое, што прадстала перад маімі вачыма, зусім не адпавядала ў гэтым сэнсе вобразу, намаляванаму маім яшчэ, здаецца, нядаўнім уяўленнем. Была апранута Валянціна Буцень, якая ў гэты дзень выконвала ролю дзяжурнай па вакзале (абавязкі ў дзяжурнага, заўважым, досыць няпростыя, ён адказвае за ўсё, што звязана з адпраўкай і прыёмам цягнікоў, пасажырапатокам на вакзале і да т.п.), у звычайную куртачку, і выйдзі яна з дзяжуркі, як адразу змяшаецца з натоўпам пасажыраў.

"ВАКЗАЛ ДЛЯ ДВАІХ"... Хто не помніць фільма Эльдара Разанава пад такой назвай! Дзве адзінокія душы знаходзяць адна адну менавіта тут, у месцы, якое ў нашай свядомасці асацыіруецца з нечым часовым, непастаянным, няпэўным — усім тым, чым вызначаецца скопішча незнаёмых паміж сабой людзей.

Хто яго ведае, тое, што адбылося ў кінафільме, не толькі "плён" фантазіі яе аўтараў, магло такое здарыцца і ў жыцці. І наогул, чаго толькі ў нашым жыцці не бывае. Але работнікі лінейнага аддзялення чыгуначнай міліцыі, што абслугоўваюць вакзал, людзі, як мне падалося, зусім не рамантычнага светаўспрымання. "Тут не да рамантыкі, тут глядзі ды глядзі", — сказаў мне маёр Мікалай Іванавіч Грышчанка, ён жа памочнік начальніка аддзела, аператыўны дзяжурны, які больш чым за два дзесяткі гадоў службы "пры вакзале" ведае тут усё. Для яго вакзал і ўсё, што з ім звязана, цэлая краіна са сваім "этнасам", сваімі асаблівасцямі, псіхалагічным кліматам.

Міліцэйская служба выпрацавала ў Мікалая Іванавіча незвычайную назіральнасць, іранічнасць у поглядах і, з песні слова не выкінеш, пэўны цынізм. І гэта можна зразумець. Маёру і яго паплечнікам у сілу спецыфікі іх абавязкаў з дня ў дзень даводзіцца мець справу не з лепшай часткай чалавецтва.

Як да запаленага ліхтара ліпне розная машкара, так да вакзала, у празе спажывы, ліпнуць злодзеі і аферысты ўсіх "спецыялізацый", прастытуткі і спекулянты, бамжы і прафесійныя жабракі.

У адзін з вечароў, калі з неба імжэў халодны сакавіцкі дождж, мне давялося пазнаёміцца з часткай гэтай вакзальнай зборні. Ну, падыміце руку, хто ведае, што на пятачку паміж туалетам агульнага карыстання ў скверы на вуліцы Бабруйскай, уваходам у метро і прыгараднымі касамі з вечара ў вечар узнікаюць стыхійныя кірмашкі, дзе гандлююць звычайным і не зусім звычайным таварам? Звычайным таварам гандлююць тут бабулькі, што прапаноўваюць прахожым з-пад крыса гарэлку і піва. Не традыцыйным жа таварам...

Лейтэнант міліцыі Андрэй Бурмістраў, які ў той вечар вызваўся быць маім гідам па тутэйшых мясцінах, апрануты ў цывільнае, што дае нам магчымасць не прыцягваючы да сябе ўвагі быць на пятачку, на якім віруе сваё жыццё. Каля адной з "кампаній" лейтэнант прытрымлівае мяне за руку. Падыходзім. Двое мужчын "снимают девочек". Адна з іх з выгляду нават прыемная, гадоў недзе дваццаці—дваццаці двух, другая — досыць пажылая, з маршчыністым, хоць і размаляваным тварам. Абедзве з прагнасцю смокчуць цыгарэты і залівіста рагочуць.

Бурмістраў вымае пасведчанне і просіць кампанію прад'явіць дакументы. Мужчыны адразу паслухмяна лезуць у кішэні, а "девочки", какетліва ўсміхаючыся, у адзін голас заяўляюць, што дакументаў з сабой не носяць, каб "не згубіць". "Што вы тут робіце?" — строга пытаецца Бурмістраў, на што маладзейшая спакойна адказвае, што прыйшла праводзіць на цягнік сяброўку, а другая заяўляе, што, наадварот, знаёмую збіраецца сустрэць. "Хіба гэта забаронена?" — нахабна пытаецца яна. Іх кавалеры, мяркуючы па дакументах, працуюць адзін шафёрам, а другі электрыкам.

Электрыка лейтэнант просіць адысці з намі ўбок, і тут у нас адбываецца досыць цікавая гаворка. "Ну, вось ты мне скажы, — пачынае лагодна Андрэй, — якога ражна ты тут робіш?" "Шчыра сказаць?" — пытаецца электрык. "Толькі шчыра, — адказвае лейтэнант, — вось і карэспандэнт паслухае". Увесь аповяд электрыка просты, як мычанне каровы. Свае "візіты" сюды ён тлумачыць тым, што развёўся з жонкай і яму патрэбна жанчына. "І ты тут шукаеш? Сярод гэтых?.."

"А мне якраз падабаюцца менавіта такія, — парыруе мужчына, — такія, разумееце?" "І вы не баіцеся падхапіць нешта "такое", той жа СНІД?" — устаўляю я. "Вы мяне што, за дурня прымаеце? — раптам крыўдзіцца электрык. — Ды я без ахоўных сродкаў ані блізка..." "І колькі, калі не сакрэт, каштуе такое шчасце?" — задаю я апошняе пытанне. Наш суразмоўнік бянтэжыцца: "Калі як... Бывае, што адной вячэрай абыдзешся, вядома, з гарэлкай, а, бывае, што трэба выкласці дзесяць-пятнаццаць тысяч".

Чую гнеўны каментарый каторага чытача, а хутчэй чытачкі: "Прымітыўны чалавек, гэты ваш электрык!" Згодны, прымітыўны. Ды ці мала на аднаго непрымітыўнага прыпадае прымітыўных?

Што тычыцца "девочек", дык я расчарую аматараў бачыць у кожнай з'яве сацыяльную першаснову. Упэўнены, Сонечак Мармеладавых вы на тым пятачку не знойдзеце. Штурхае, я перакананы, жанчын на гэтае дно або прага, па іх уяўленні, лёгкіх грошай, вострых адчуванняў, або проста гіпертрафаваная сексуальнасць, мажлівасць кожны дзень мяняць партнёраў.

*(Працяг на стар. 14-15)*

# З БЕЛАРУССЮ Ў СЭРЦЫ

**“Беларусь! Беларусь!.. Тваё месца ў маім сэрцы нікім не занятае. З вольнага свету я яшчэ лепей бачу, што Табе не стае ўсё тых жа трох рэчаў: свабоды, свабоды й яшчэ раз свабоды!” — такі запіс пакінуў у сваім дзённіку 25 сакавіка 1973 года Аўген Калубовіч. Акурат у дзень чарговай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі выказаў самае запаветнае. Чым жыў і дзеля чаго жыў і з-за чаго вымушаны быў пакінуць Радзіму.**

**Нарадзіўся А.Калубовіч 5 сакавіка 1910 года ў мястэчку Ціхінічы цяперашняга Рагачоўскага раёна. Скончыў тагачасны Бабчынскі педагагічны тэхнікум і не паспеў развітацца з яго сценамі, як быў арыштаваны за прыналежнасць да беларускай арганізацыі альтруістаў, прыгавораны да трох гадоў лагераў. Па вяртанні настаўнічаў, скончыў Мінскі педагагічны інстытут. У гады вайны быў сябрам Беларускай Рады Даверу і Беларускай Цэнтральнай Рады, старшынёй Беларускага культурнага згуртавання, кіраўніком аддзела культуры. У сярэдзіне 1944 года выехаў у Нямеччыну, а ў 1950 годзе пад прозвішчам Каханоўскага эміграваў у ЗША, дзе і памёр 25 мая 1987 года.**

**Першыя кніжкі А.Калубовіча “Паэтычная стылістыка” і “Пясняр свабоды і красы”, прысвечаная 30-м угодкам з дня смерці М.Багдановіча, выйшлі ў 1947 годзе ў Нямеччыне пад псеўданімам А.Верасень.**

**Да выхаду ў 1972 годзе на пенсію А.Калубовіч працаваў на фабрыцы, таму не мог стала займацца літаратурнай працай. Затое акурат з гэтага часу зрабіў вельмі шмат. Пабачылі свет такія яго кнігі, як “Мова ў гісторыі беларускага пісьменства”, “Айцы” БССР і іхні лёс”, “На крыжовай дарозе” (1986).**

**Найбольш поўна творчая спадчына А.Калубовіча прадстаўлена ў зборніках “Крокі гісторыі” (1993) і “На крыжовай дарозе” (1994).**

# ЯГО КНІГІ — ЯГО ЛЁС



**Кнігі Валерыя Сарокі, дзе ён не пабаяўся выступіць супраць Сістэмы — подзвіг... — справядліва зазначыў пісьменнік Віктар Казько на чарговым пасяджэнні СП Беларусі, на якім Валерый Іларыёнавіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Шмат добрых слоў сказалі ў адрас іх аўтара народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, Алесь Жук, Сяргей Законнікаў...**

**За паўтара года выйшлі ў свет шэсць кніг Валерыя Сарокі: двухтомнік “Витебское дело, или Двуликая Фемида”, “Sos” — спасите наши души”, “Оставь надежду...”, “Бывшие сотрудники”, “Тагильская бездна”. Кожная з іх — дакументальна-біяграфічная споведзь маладога пісьменніка, былога пракурора, якога абвінавацілі ў “парушэнні сацыялістычнай законнасці” і асудзілі да чатырох гадоў турэмнага зняволення... Асяродак з дзікунскімі норавамі, глумленне над чалавекам і ягонай душой глыбока ўразілі Валерыя Іларыёнавіча і ён пачаў весці дзённікі, каб дэталёва і праўдзіва перадаць усё тое, што яму давялося перажыць.**

**Валерый Сарока — старшыня партыі “Хрысціянска-дэмакратычны выбар”. Ён лічыць, што менавіта хрысціянская мараль выратуе чалавечую душу і ўрэшце нашае хворае грамадства, а дэмакратыя неабходна кожнаму чалавеку для абароны яго правоў.**

**Наперадзе — новыя справы і новыя кнігі, пазначаныя праўдзівасцю і верай у чалавека.**

Святлана ХОРСУН

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ ЧАКАЕ ГЕНІЯ...

## ЛІТАРАТУРА, РЭВАЛЮЦЫЯ, РЭФОРМА

Алег ЛОЙКА

СЁЛЕТА, як ужо некалькі год запар, у Беларускім ліцэі пры БДУ першую лекцыю першага верасня па літаратуры прапанавалі прачытаць мне. У сваю чаргу я прапанаваў першакурснікам-ліцэістам адназначнымі сцвярджальнымі “так” ці адмаўляльным “не” адказаць на пытанні, з якіх я вырашыў пачаць лекцыю. А пытанні былі рубам: “Вы за рэвалюцыю? Вы — за рэформы?” На першае з іх “так” адказалі толькі два ліцэісты, астатнія выгукнулі “не”. На другое пытанне ў адказ прагучала адназначнае “так!”.

Прызнацца, я такіх лічбавых вынікаў не чакаў. Мой мінісацыялагічны доследь, зрэшты, мяне парадаваў: адбыўся! Адбыўся-такі пералом у свядомасці шаснаццаці-семнаццацігадовых нашых юнакоў і дзяўчат, пра які яшчэ нядаўна і подумкі не магло быць. Бо ў каго адкрыліся б вусны з пяць гадоў таму назад на першае пытанне адказаць “не”, калі ва ўсіх на слыху было: “Мы — дзеці рэвалюцыі, Кастрычніка сыны!..”, “Кастрычнік нас парадзіў, снежань нас парадніў”. Семдзесят гадоў услаўлення Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі рабілі сваю справу справўна: “рэвалюцыйная радасць” Янкі Купалы — аўтара верша “Арлянятам” і паэмы “Безназоўнае”, вітанне Кастрычніка маладнякоўцамі, паэмы “Дзесяты падмурак” Паўлюка Труса, “За строем дат і рубрык” Уладзіміра Хадыкі, “Мужнасць” Пятра Глебкі, “Праз горы і стэп” Петруся Броўкі, “Песня аб слаўным паходзе” Аркадзя Куляшова, культавыя вершы пра Сталіна, велізарная беларуская паэтычная Ленініяна — усё гэта было ў нашай паэзіі 20-80-ых гадоў рэвалюцыйна-эйфарычным, рэвалюцыйна-апалагетычным. Паэзія нашая сапраўды стала служанкай у міфа аб рэвалюцыі, як пачатку пачаткаў усяго — дэмакратыі, самай дэмакратычнай у свеце; дзяржаўнасці, якую ад Кастрычніка і Леніна і Сталіна беларусы атрымалі ўпершыню; шчасця і дабрабыту, сапраўднага росквіту нацыянальнай культуры, мовы, літаратуры. Ілюстрацыйнасць беларускай савецкай літаратуры шмат у чым была звязана з адбіццём у ёй так званай рэвалюцыйна-гераічнай тэмы, падзей часоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, станаўлення новага чалавека, новай маралі, народжаных рэвалюцыяй. Нават узнікненне і развіццё новых жанраў і стыляў ставілася ў залежнасць ад рэвалюцыі, калі сцвярджалася, што беларускі раман — дзецішча рэвалюцыі. Як і рэвалюцыйная рамантыка, тэорыяй сацрэалізму вылучаная ў асобную катэгорыю, як і сацыялістычны рамантызм, які бачыўся некаторым даследчыкам паралельным метаду сацыялістычнага рэалізму.

Гаворачы пра апалагечаныя трактоўкі тэмы Кастрычніка ў беларускай літаратуры, не выкрэсліваю і свайго аўтарства ў іх, ад якога — не ўцячы і не схавацца. Апраўдвацца? Смешна. А ўвогуле — баліць, што і ты сам пісаў пра шлюб беларускай літаратуры з Кастрычнікам, хоць зусім не таямніцай табе было, што шлюб гэты — па прымусу. І ўсё ж, адмаўляючы сталіншчыну (гэта было няцяжка пасля XX з’езда КПСС), і я чапляўся, як за апошнюю надзею, за Леніна, за “мудрую ленінскую нацыянальную палітыку”. Не хацелася развітання з ілюзіямі, з аднаго боку, а з другога боку — партнаменклатура бурчэла (пачалі са Сталіна, дойдуць да Леніна), а мы міф пра Леніна раздзьмувалі, пракламуючы ідэальныя параметры вырашэння нацыянальнага пытання, спрыяльныя для Беларусі, для нацыянальнай ідэі. Ішло прыкрыццё імем Леніна прагі ідэальнага рашэння, а не сталінскага. Гэта быў, такім чынам, фактар барацьбы за лёс Беларусі, беларускай мовы, Адраджэння — з Леніна імем на вуснах, як заклінальным, як талісманным. Паэма Генадзя Бураўкіна “Ленін думае пра Беларусь” — лепшае сведчанне таго. Наменклатуры падсоўвалася ідэя, што калі Ленін думаў пра Беларусь, то і вам думаць трэба, а не так да яе адносіцца, як вы. Хай той Ленін і думаў і шмат што рабіў зусім інакш, ды — метадам падстаноўкі — за ленінскае выдавалася ідэальнае дзеля **змагання за ідэальнае.** Падсавецкую беларускую крытыку ў такой якасці мы, аднак, яшчэ не інтэпрэтавалі...

Зварот беларускай літаратуры да Кастрычніка прадаўжаецца і прадоўжыцца, бо і ідэалагічнае расшорванне гэтаму спрыяе, і пошук сапраўды навуковага канцэптуальнага асэнсавання лёсу роднай літаратуры ў XX стагоддзі, і тое, што чалавецтва сапраўды смеючыся развітваецца з мінулым. Разгарніце вы нумар “ЛіМа” за 23 верасня 1994 года. Жанр свайго апавядання Алесь Асташонак вызначыў як “эскіз антыўтопіі”. Назва яго — “Дом творчасці”. Апавяданне прысвячаецца “Памяці Вялікага Кастрычніка”. Канешне, гэта не ўсур’ёз, канешне, гэта — у насмешку над былымі утопіямі і намі, што ўсур’ёз пісалі пра веліч Кастрычніка.

У таталітарным грамадстве ўсё таталітарнае, і таму не дзіва, што ўсе пануючыя ідэі — тым больш пралетарскай рэвалюцыйнасці — уздзейнічалі таталітарна. Справу сваю рабіў ідэалагічны прэс, дэмагогія, фальсіфікацыя, міфалагізацыя — гэта з боку ўладных структур, партыі і дзяржаўнага апарату. Але тое, што ішло “зверху”, мела некаторыя спрыяльныя фактары і “знізу” — у настроях і псіхалогіі масы, рабочай ці сялянскай, а перадусім — інтэлігенцыі, у яе творчых колах. І пагэтаму аналіз тэмы “беларуская літаратура — рэвалюцыя” — аналіз вельмі складаны сваімі прычынна-выніковымі сувязямі, неабходнасцю разблытваць рэчы заблытаныя, зыначаныя на розныя капылы настолькі віртуозна, настолькі аддалена ад сутнасці з’яў і падзей, што сёння абмалёўка рэальнай карціны можа здацца нечым неверагодным.

Возьмем, напрыклад, такі момант: Кастрычнік, калі браць дакладна, на самай справе не быў рэвалюцыяй; гэта бальшавікі свой путч, свой узурпацыйны захоп улады ўсенародна аб’явілі рэвалюцыяй, ды сацыялістычнай, ды накшталт Вялікай Французскай — Вялікай...

Таму адна справа разглядаць беларускую літаратуру XX ст. у яе залежнасці ад рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, іншая справа — ад падзей 1917—1921 гадоў. У рэвалюцыю 1905 года пайшла Цётка, стаўшы паэтэсай-рэвалюцыянеркай, аўтаркай вядомых твораў “Хрэст на свабоду”, “Мора (рэвалюцыя народная)”, якімі яна сапраўды развогніла рэвалюцыйны запал нацыянальнай паэзіі, стала легендай у народзе, стала папярэдніцай надзвычай дзейснай адраджэнскай паэзіі Янкі Купалы 1905—1914 гадоў.

Успамінаючы Максіма Багдановіча, трэба і сёння цалкам пагадзіцца з ім у тым, што рэвалюцыя 1905 года пачала гісторыю беларускай літаратуры з чырвонага радка — па-руску мовячы, “с красной строки”, г.зн. з новага абзаца. І так яно і было, бо вунь якім новым, прыгожым, класічным пісьменствам для ўсёй беларускай літаратуры аказалася творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, Алеся Гаруна, Ядвігіна Ш., Власта на яе пачатковай стадыі. Рэвалюцыя 1905 года, даўшы пэўныя дэмакратычныя свабоды, спрычынілася ўвогуле да ўзняцця і росквіту беларускага Адраджэння з яго “Нашай Нівай” (1906—1915) і выдавецтвамі “Загляне сонца і ў наша аконца” (1906—1914), з альманахамі “Маладая Беларусь”, калíднымі і велікоднымі пісанкамі, з уздымам паэзіі і драматургіі, мастацкай самадзейнасці, карэспандэнцкай актыўнасці нізавога чытача. Словам, мы толькі пакланіцца можам рэвалюцыі 1905 года за яе велічную гістарычную ролю ў лёсе беларусаў.

Але нельга забывацца і пра тое, што “добраю” рэвалюцыя 1905 года нам стала менавіта ў параўнанні з тым пераваротам, які назваў сябе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, што менавіта рэакцыяй на рэвалюцыю 1905 года былі гады грамадска-палітычнай рэакцыйнасці міжрэвалюцыйнага дзесяцігоддзя — маларадаснага часу, калі самагубствам канчалі нашыя Сяргеі Палуяны. Менавіта рэвалюцыя 1905 года, не вырашыўшы сацыяльных і нацыянальных канфліктаў у жыцці ўсіх народаў былой царскай Расіі, пакінула стымулы і для Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, і для “нягодніцкай” Кастрычніцкай узурпацыі ўлады.

Эпітэты “добрая” і “нягодніцкая” ў дачыненні да паняцця “рэвалюцыя” ўзялі мы ў двукоссі нездарма. Добрых рэвалюцый не бывае, як не бывае і добрых контррэвалюцый. І, пэўна, што і добрых рэформ не бывае, асабліва на іх пачатку, пры ломцы таго, што згубна над грамадствам, над народамі завалaдарыла. Але пра рэфармацыю — трохі пазней...

ТАКІМ ЧЫНАМ, у савецкі, таталітарны час беларуская літаратура займела два кірункі: першы — прасавецкі, апалагетычна-патэтычны, другі — падсавецкі, нібыта лаяльны да савецкай улады, але на самай справе супраціўны ёй. Супраціўнай дыктатуры пралетарыяту была лірыка Янкі Купалы 1918 года і аж да 1926 года, хоць і напісаў Янка Купала да таго часу ўжо і “Арлянятам”, і паэму “Безназоўнае”. Як паказваюць сёння архіўныя дакументы, Янка Купала на працягу ўсіх 30-х гадоў быў у нямой апазіцыі да рэжыму, хоць і пракламаваў сябе ўголас беспартыйным бальшавіком. Апублікаваныя на сёння фіскальныя матэрыялы, што паступалі ў вышэйшыя партыйныя органы БССР, ды і сам ліст першага сакратара ЦК КПБ П.Панамарэнкі 1938 года, канкрэтна сведчаць аб амаль пагалоўным непрымірэнчым стаўленні нацыянальнай інтэлігенцыі Беларусі 20—30-х гадоў да палітыкі гвалту, якую тут ад імя рэвалюцыі праводзілі яе узурпатары.

І тут асобна трэба сказаць, што ўласна ж мелі рацыю крытыкі — вульгарныя сацыялагізатары, аглабельшчыкі, розныя Бэнды і Клімковічы, калі інкрымінавалі Янку Купалу, Якубу Коласу і па сутнасці (як Клімковіч на першым з’ездзе пісьменнікаў у Маскве) усёй беларускай літаратуры варожасць да Кастрычніка, контррэвалюцыйную буржуазную нацдэмаўшчыну. Да 1934 года беларуская літаратура сапраўды была больш падлеглая нацыянальным, дэмакратычным тэндэнцыям: яны былі яе глыбінным дыханнем, глыбіннай сутнасцю, хоць на паверхні таго не відно было, на паверхні былі святочныя, угодкавыя, культавыя рэчы, апяванне рэвалюцыі, новага жыцця, новага героя. Усё гэта гаворыцца, аднак, не дзеля рэабілітацыі крытыкі Л.Бэнды ці А.Кучара як праўдзівай, аб’ектыўнай. Бо паказаць тады публічнасці сапраўдны дух вядучых беларускіх літаратараў азначала адно: аддаваць іх як контру пад расстрэл, на высылку ў Котлас ці Магадан. Выбар у пагромнай крытыкі 20—30-х гадоў быў амаральны, антынацыянальны, антычалавечны.

Менавіта перш за ўсё супрацьпастаўляючы сябе амаральнасці вульгарнага сацыялагізму, пасляваенная крытыка і літаратуразнаўства, каб даць хоць нейкі прастор для развіцця роднай літаратуры, каб зацвердзіць аўтарытарнасць у ёй Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Дубоўкі, вельмі шмат пораху патраціла на тое, каб даказаць, што ўсе гэтыя выдатныя дзеячы нацыянальнай культуры, прынялі Кастрычнік безагаворачна, прынялі і толькі глапыфікавалі савецкую ўладу, яе нацыянальную палітыку. Паколькі ўладныя партыйныя структуры прадаўжалі ў пасляваенныя гады з падазронасцю глядзець на беларускую літаратуру, як носьбіта нацыяналізму (той самай нацдэмаўшчыны), то не дзіўна, што сама літаратура ад гэтай падазронасці абаранялася сваёй крытыкай і літаратуразнаўствам, адводзячы ад сваіх класікаў усе падазрэнні ў іх нелаяльнасці да рэвалюцыі і савецкай улады. Маралістычна гэта быў высокі прынцып — патрыятычна-абарончы, але навуковасці ў ім было, як кажуць, кот наплакаў. Сваю пэўную ахоўчую ролю для беларускай літаратуры міф аб яе суцэльнай прасавецкасці, прарэвалюцыйнасці, відаць, меў, аднак, аб’ектывізм навукі заўсёды патрабаваў гаварыць пра міфы як пра міфы, хоць бы тыя міфы ў свой час выраслі і з добрых намераў.

Увогуле, такім чынам, сітуацыя была канфрантацыйнай: бальшавізм ва ўсіх сваіх іпастасях нацыянальнага, беларускага не прымаў, прытвараўся, аднак, што прымае. Удаў абвіў беларускую літаратуру, асудзіўшы яе на пагібель, упэўнены ў яе пагібелі, але не даваў ёй задушна хрыпець, маючы яе сваёй вернай ахвярай. Ахвяра, ведаючы адносіны ўлады, спрабавала даказаць, паказаць удаву, што яна ёсць, была і будзе яго. Але не толькі ішло льсцівае, было і звязанае з надзеяй, што пераможа розум, цвярозасць: удаў абернецца бяскрыўдным свойскім, палескім вужом. Удаў ведаў, што ён удаў, літаратура ведала, што яна — ахвяра. Ахвяра адпрошвала сабе лёс, быццё. Рэальная ж форма быцця была сапраўды адыёзнай.

Як вядома, наша апафеозная крытыка Янку Купалу і Якуба Коласа рабіла рэвалюцыянерамі, песнярамі Вялікага Кастрычніка і яго так званых заваёў. Творчасць нашых

класікаў да 1917 года была залічана ў рэвалюцыйна-дэмакратычную, ішоў пошук у ёй элементаў сацрэалізму. Што было, тое было! Але сёння нельга ніяк адмаўляць, што ў Янкі Купалы ці Якуба Коласа да 1917 года не было ў творчасці рэвалюцыйных заклікаў, што ў цэлым яна сваім пафасам не рэвалюцыянізавала грамадства Беларусі. З гэтага калісь і рабіліся вывады: пры няспелым ці рэвалюцыйна-дэмакратычным светапоглядзе абодва нашы песняры ўсё ж напрасткі ішлі ў Кастрычнік — да бальшавіцкай ідэалогіі як апагея рэвалюцыйнасці. Народныя песняры рэвалюцыі вельмі лагічна не маглі не аб'яўляцца народнымі песнярамі Кастрычніка...

А што ж адбылося на самай справе? На самай справе Янка Купала і Якуб Колас, як і Максім Багдановіч, Алесь Гарун, усе яны не пазбаўленыя былі ілюзій наконт светлай будучыні, якую прынясе рэвалюцыя, абнаўленне палітычна-дзяржаўнага жыцця, звяржэнне царызму. На жаль, ілюзіямі чалавек, чалавецтва жыло, жыве і, відаць, жыць будзе. На самай жа справе ілюзіі абарочваюцца — як ужо часта! — такой рэальнасцю, ад якой чалавек адхрысціўся б, калі б мог.

Некалі мы радаваліся, што вось якія магутныя нашыя карыфеі ў сваёй рэвалюцыйнасці! Радаваліся, паўтараючы словы А.Луначарскага пра "рэвалюцыйную радасць" Янкі Купалы, хоць ён ад рэвалюцыйнасці Сымона Зябліка з "Раскіданага гнязда" адназначна адмовіўся сваёй смаленскай лірыкай 1918 года з яе непрыняццем "крывавай веры". Такім чынам: беларуская літаратура пачатку XX ст. вяла свайго чытача, свой народ у рэвалюцыю; беларуская літаратура ў XX ст. балюча і ой як стратна перажыла расчараванне ў рэвалюцыі, стаўшы ў адным кірунку апазіцый бальшавізму, у другім — спарадзіўшы беларускую савецкую сацрэалістычную літаратуру.

ЯК ЖА ЛІТАРАТУРА сённяшняя рэагуе на посттаталітарны час — перамаганосны антыпод, адмаўленне адмаўлення?

Успомнім, ці меў радаснае вітанне НЭП як новая эканамічная палітыка, па сутнасці ж, рэформа, на якую вымушаны быў пайсці Ленін? Ва ўсякім выпадку, беларуская літаратура яго не вітала, і ў дваццатыя гады НЭП у ёй выклікаў самую адмоўную рэакцыю (паэмы Алеся Звонака "Загай", "Каршун", лірыка Язэпа Пушчы, паэма "Калі асядае муць" Тодара Кляшторнага і інш.). НЭП успрымаўся як здрада рэвалюцыі, адступленне ад яе. Нэпман быў адмоўнейшым вобразам літаратуры, саўбурам, другам мяшчанства. Герой паэм А.Звонака, учарашні ўдзельнік грамадзянскай вайны, т. зв., скураная куртка, як рамантычны Алека з паэмы Пушкіна "Цыганы", уцякаў ад абрыдлай нэпманаўскай явы з Беларусі ў Башкірыю.

Рэакцыя сённяшняй нашай літаратуры на рэформы, вядома ж, іншая. Але тое, што яна блізкая да антынэпманаўскай сваім адмаўленчым тонусам, гэта факт. Толькі адмаўленне НЭПа было звязана з прарэвалюцыйнасцю — асуджаўся адыход ад рэвалюцыі. Цяпер жа непрыняцце перамен ідзе з непрыняццем і рэвалюцыі як такой, і ўсіх былых 70-ці гадоў таталітарнасці. Ёсць і настальгічныя ноткі па былым парадку, што выяўляецца ў творах Івана Шамякіна пра Івана Андрэевіча. Там рэзка асуджаюцца ўсе непрывабныя з'явы "рынкавага перыяду", і гэтым самым аўтар нібы падказвае чытачу, што ўсё адмоўленае сённяшнім днём было не такое ўжо і кепскае.

У цэлым жа адносіны беларускай сучаснай літаратуры да таго, што адбываецца, можна назваць прастрацыйнымі: нібы вады ў рот набраўшы, яна маўчыць, нібы ў разгубленасці, не рэагуе. Здаецца, увесь яе антыталітарны запал пайшоў у публіцыстыку.

Сапраўды, як гэта проста было нашай літаратуры — ісці "шляхамі ўздыму", ды ўсё "на пад'ёмах", "на пярэднім краі", на найвышэйшых прыступках народнасці, партыйнасці, сучаснасці... Чарговыя пастановы па літаратуры, чарговыя кампаніяльныя акцыі пагромаў безыдэйшчыны, касмапалітызму, тэорыі бесканфліктнасці, лакіроўкі, абстрактнага гуманізму, буржуазнага мадэрнізму і абстракцыянізму. Чарговыя лозунгі да чарговых партыйных з'ездаў і чырвоных дат календара — і тут жа следам вераніцы вершаў, аповесцяў, раманаў, п'ес на запатрабаваныя партыяй тэмы, праблемы. Усё — у руху, усё — у зменах. Столка — на столку, і вунь колькі тамінаў дасягненняў, вунь колькі сталінскіх, ленінскіх прэмій па літаратуры! Ёсць шматтэм'е, ёсць галерэі новых вобразаў... А зараз? Ніякіх лозунгаў. Ніякіх указанняў ці падказак. Ніякай падтрымкі. Раней мецэнацтвавалі партыя, дзяржава — у імя рэвалюцыі і светлага будучага. Рэформа ж, яна ледзьве дыхае, ледзь ачомваецца. Калі ж у яе знойдуцца грошы на фундатарства?

Трэба, аднак, абавязкова разумець: тое, што мы называем рэформай, не стаўшы яшчэ мецэнатам, нібы нічога не даўшы літаратуры, дала ёй на самай справе многа. Дала найперш свабоду слова — галоснасць і спалучаныя з ёю плюралізм думак, талерантнасць (хоць без фанатызму справы ў нас яшчэ не абыходзяцца). Дала, па-другое, вяртанне нам нашай гісторыі, у тым ліку і гісторыі літаратуры, перакрэсліўшы ленінскі падзел нацыянальнай культуры, спадчыны на дзве спадчыны — на нібыта дэмакратычную, народную і арыстакратычную, антынародную. Па-трэцяе, рэформа спрыяла вяртанню ва ўлонне нацыянальнай культуры вялікай спадчыны эмігрантаў-беларусаў. Па-чацвёртае, рэформа паклала канец рэгламентацыі — аддзяліла літаратуру ад палітык, дала ёй сапраўдную свабоду творчасці, вольны выбар арыенціраў, сістэм адліку, традыцый і эксперыментаў, як і форм літаратурнага жыцця. Такім чынам, беларускай літаратуры сёння сапраўды ёсць за што дзякаваць рэформе, хоць гаворка ў дадзеным выпадку — толькі пра **ўмовы**, якія рэформа дала для развіцця нашай літаратуры. А што ж само развіццё? Чаму ж сапраўды, нібы крыўдлівая кабета, наша ўласна прыгожае пісьменства ў сённяшніх умовах маўчыць?..

Прычын, відаць, тут не адна. Але найпершаю з іх, пэўна, варта паставіць тую адну, што звязана з эфектам, які ці не першымі ў свеце зразумелі ангельцы, калі ў Гайдн-парку ў Лондане далі свабоду сваім суайчыннікам выказаць што заўгодна, у любую пару дня і ў любую пару года. Абы ты меў што сказаць! Абы ў цябе думка была! Варушы, падымай думкай сваёй свет! Станавіся светачам думкі! Homo sapiens, будзь мысліцелем!Ды, як вядома, не вельмі прыбыло ў Англіі мысліцеляў пасля гэтага за добрую сотню год. А нашай свабодзе слова ўсяго столькі, колькі перабудове. Ёсць нарэшце свабода, а сказаць, аказваецца, няма каму, няма чаго!

ШТО Ж РАБІЦЬ? Шукаць вінаватых? Змены грамадскія вінаваты? Ды не змены, канешне, а 70 год, на працягу якіх ад імя рэвалюцыі і ў імя шчасця народаў нас адвучвалі думаць, а нашу літаратуру рабілі бяздумнай, ілюстрацыйнай, імітацыйнай. І вывад застаецца рабіць адзін: трэба пачынаць вучыцца думаць. Думка — прадукт напружанай разумовай працы. Думка — ідэя. Уласныя думкі, уласныя ідэі, арыгінальныя ідэі — іх чалавек выпакутвае, іх чалавецтва выпакутвае. Чалавек асуджаны ў сусвеце на гэта пакутніцтва, — чалавек і чалавецтва. І гэта ніякі не д'ябальскі праклён над нашай Беларуссю — пакутаваць дзеля думкі і лепшай долі. Усё гэта норма. Не ў норме ж, напэўна, іншае. Але тут мы паспрабуем усё ж акрэсліць, чым у новых умовах стала наша літаратура, якія новыя тэндэнцыі, шляхі-напрамкі яна займела.

Дзве хвалі, прынамсі, можна ў ёй вызначыць: першая — "гарбачоўская" (паводле азначэння Людмілы Корань), што звязана з гісторыяй "Тутэйшых", гісторыя якіх скончылася, як толькі яны сталі членамі СП Беларусі; другая — цяперашняя, якая эпітэта яшчэ не мае, але фармаванне якой трэба звязаць наперш з маладзёжным часопісам "Першацвет" і ахрышчваць як "першацветную". "Гарбачоўская хваля" на чале з А.Сысом, С.Дубаўцом, А.Глобусам, Ю.Гуменюком была рэзкай хваляй адмаўлення беларускай літаратуры саўкоўскага перыяду. Яе крэда было — еўрапеізацыя, хоць тая еўрапеізацыя склалася з пракламавання і практыкаванняў у тым, чаго ў савецкай літаратуры не было, што яна адкідала наўзбоч як безыдэйнае, будуарнае, абстрактна-гуманнае і г.д. Бадай, "гарбачоўская хваля" сягала яшчэ далей, бо практыка прыўлашчвання японскіх форм паэзіі, танкі ці хоку, — гэта ўжо хіба японізацыя, азіятызацыя... Але не будзем прыдзірлівымі: маладым карцела вырвацца з абцугоў сацрэалізму ў самы шырокі свет, і ўва многіх з іх ёсць яшчэ такая перспектыва, такая мажлівасць, хоць, можа, больш шанцаў на гэта якраз у другой хвалі — "першацветнай". І так думаецца таму, што ў гэтай другой хвалі няма апраметнасці разрыву з традыцыяй, з тым станоўчым, што напрацавала беларуская літаратура ва ўмовах савецкіх, як і з тым, што гэтыя ўмовы ў развіцці беларускай літаратуры ў 20-я гады перарвалі. А перарвалі яны найперш высокія парыванні ўзвышэнства, новапарнаскасці.

І тут дачасу мовіць пра ўзвышэнства, пра новапарнаснасць як знак часу менавіта сённяшняга, рэфармацыйнага. Менавіта прынцып узвышэнства — эстэцкі, зарыентаваны на ідэал, на форму, на красу як спажытак ад мастацтва, — зарука выжывання, самазацвярджэння ў абставінах рэформы, якая яшчэ не ў мажлівасці мецэнацтваваць. Іншых зарук — няма: мастацтва, літаратура сцвярджаюць сябе як спецыфіка, як рэчы самі ў сабе, як духоўнасць, спароджаная па законах красы, спалучаных з інвектывамі дабрыні і глыбокім рацыё, філасафічнасцю і філасофіяй.

"Першацветная" моладзь у нас — не "Тутэйшыя", яна, дзякуй Богу, разумее, адчувае, што без Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, як і без Максіма Танка і Рыгора Барадуліна, еўрапеізавацца па-сапраўднаму нельга і што еўрапеізацыя залежыць не так ад вяртання таго, што адлучалася нарматыўнай сацрэалістычнай догмай, як ад вяртання на кругі свае, зацверджаныя як нацыянальнакласічныя.

Яркая прыкмета сённяшняга ўзвышэнства на Беларусі — з'яўленне новапрофільных выданняў — газеты "Культура", часопіса "Крыніца" (у новым выглядзе). Нават студэнты філфака, арганізоўваючы сваю новую суполку, назвалі яе па-ўзвышэнску: "Восьмая вышыня".

Гаворачы пра ўзвышэнства, трэба заўсёды памятаць, што яно мае на ўвазе форму, яе дасканаласць, красу, ідэал. Форма, калі яна і змястоўная, то не ў тым сэнсе, што антычалавечны, антынародны змест можа яе здэфармаваць, з добрае ці выдатнае зрабіць пасрэднаю ці дрэннаю. Асобныя купалаўскія культавыя вершы, напрыклад, па форме былі і застаюцца шэдэўрамі, хоць яны — не шэдэўры ўласначалавечай скарбніцы красы. Яна, форма, падкрэслім, — сама каштоўная, каштоўная сама па сабе, і таму ўзорныя купалаўскія вершы застаюцца ўзорамі формы. Фармалізм у літаратуры і мастацтве чаму ж білі дашчэнту раппаўцы і сацрэалісты? Таму што ідэалагізаванаму, афанатычненаму грамадству падсоўваць ідэал формы было недарэчы: ён не працаваў на таталітарную ідэю, і таму адкідваўся, аддаваўся анафеме як буржуазная, дэкадэнцкая, безыдэйная рэч. Узвышэнне ж формы як красы, літаратуры як прыгожага пісьменства і ёсць прынцып узвышэнства. Наша сучасная рэабілітацыя формы, ці красы, ці прынцыпаў мастацтва для мастацтва, ці сапраўднай свабоды мастацтва і ёсць вытворнае ад перабудовы і рэформ, ёсць паўсталае, як птушка Фенікс з попелу — паўсталае з-пад паталтання Кастрычнікам.

АСОБНА СКАЖАМ яшчэ аб адным: відаць, больш рацыі маюць тыя сучасныя гісторыкі, якія асявымі ў трох расійскіх рэвалюцыях бачаць не антаганістычныя класавыя канфлікты — паміж пралетарыятам і капіталам, паміж сялянствам і памешчыкамі, а рэальнасць супрацьстаяння царызму і буржуазіі, царызму і нацыянальназаняволеных царскай Расіяй народаў. Захапіўшы ўладу, бальшавікі павялі дэмагагічную нацыянальную палітыку з лозунгам "вплоть до отделения", а затым, як у нас у Беларусі ў 20-х гадах, беларусізацыі. Ды вельмі ж хутка тады вытхлася тая беларусізацыя, бо ўсе міфы аб росквіце культуры сацыялістычнай па змесце, нацыянальнай па форме былі толькі дымавой завесай русіфікацыі.

Перабудова, рэфармізм нашага часу зноў вярнулі Беларусь да ў свой час адрынутых і беларусізацыі, і беларускага Адраджэння. Значыць, яны — дар рэформы? Думаецца, што ўсё тут з'яўляецца больш складаным, чым той-сёй уяўляе.

Вядома, што Якуб Колас не прымаў слова "беларусізацыя", бо гэта сапраўды нейкі нонсенс — беларусізаваць Беларусь! Ці хто ў свеце скажа "нямечыць Нямеччыну", "французіць Францыю", "амерыканізаваць Амерыку"? А мы гаварылі ў 20-я, гаворым цяпер, бо ў нас — не без сэнсу загадны лад ад дзеяслова "беларусізаваць". Пачыналася пры Мікалаі І: "Адбеларусіць!" — і найменне "Белая Русь", "беларускі" з ужытку выкрэсліваліся. У 20—30-я гады ў былой Заходняй Беларусі з вуснай паланізатараў гучала: "адбеларусіць", "адправаславіць" — і Беларусь адбеларушвалася па волі ўладарных сіл як з усходу, так і з захаду. Вынікі з усяго таго, як мы ведаем, сумныя. Але не дзеля канстатацыі сумнага патрэбна сёння гаворка пра беларусізацыю. І не гэтым словам, я ў тым упэўнены, трэба называць працэс, гістарычна заканамерны. Слова "беларусізацыя" сапраўды палохае не толькі небеларуса — жыхара Беларусі, але і рускамоўнага беларуса, рускамоўны горад сённяшняй Беларусі. Можа, нам тут дапаможа лексіка аграномаў, у якіх ёсць паняцце натуралізацыі: зерне ёсць зерне, і яно ўзбуйніць калоссе, калі яго натуралізаваць, зрабіць самім сабою, — натуральна, арганічна вярнуць беларусу вобраз, воблік беларуса, вярнуць яму беларускую ментальнасць, вярнуць мову, вярнуць цераз гэта ў цывілізаваны свет (бо беларус — ахвяра нецывілізаванасці імперскіх і шавіністычных удаваў!). Вярнуць жа ў цывілізаваны свет адначасова значыць і еўрапеізаваць. Так што беларусізацыя ў нас — гэта такая арганічная натуралізацыя, раўназначная цывілізаванасці, выраўніванню беларусаў у шматлюдным свеце славян, у шырокім свеце еўрапейскіх і ўсёй зямной кулі народаў. Дык жа вітаць гэты працэс трэба!

Асаблівага вітання, аднак, няма, як няма і ўсенароднага, усеагульнага прыняцця таго, што завецца беларускім Адраджэннем. Атрымліваецца і вось так: Адраджэнне не прымаецца, бо яно — за беларусізацыю, з беларусізацыяй; беларусізацыя не прымаецца, бо за ёю бачыцца прымус, прыгон, гвалт, у той час як Адраджэнне — з'ява, куды шырэй моўнай праблемы. Вяртанне беларусаў у нармальнае рэчышча нацыянальнага жыцця — гэта справа добраахвотная ўласна беларусаў, гэта мажлівая ўрачыстасць перамогі нацыянальнай ідэі — дэмакратычнай і гуманнай, маладзейшай, праўда, за хрысціянства, але нідзе ў свеце не скампраметаваўшай сябе, як у СССР скампраметавала сябе марксісцка-інтэрнацыяналістычная ідэя. У нас, беларусаў, нават язык не паварочваецца рускіх, палякаў, яўрэяў, татараў называць нацменшасцямі, бо так іх ніхто ніколі спрадвеку на Беларусі не называў. Нацменшасць, як для мяне, паверце, гэта паняцце абразлівае і са сваім "нац" і са сваім "меншасць"!

ДЫК ЦІ ПРАЎДА, што беларуская літаратура ў абставінах рэформы аказалася без новай ідэі, і ёй няма чаго казаць, і яна нічога новага не кажа? Шэдэўраў пакуль няма, геніяў — не відаць; да ўсяго таго, што было, што ёсць — прывыклі. Сапраўды, якая тут навіна?! А навіна — ёсць! Бо зноў жа вечная тая праўда, што нічога няма навейшага на свеце, як добра забытае старое. Дакладней, у нас гэтае добрае старое зусім і не забыта, а толькі мы блізарука не бачым яго як новае, не пракламуем як новае. Бо менавіта ідэя беларускасці, ідэя Адраджэння, нацыянальная ідэя, з якой вырасла ўся новая літаратура, яна і ёсць сёння новая, яе і мовіць сёння на ўвесь голас наша літаратура. Ідэя гэтая — Купалаўская, Коласаўская, Багдановічаўская. Пачатку XX стагоддзя? Не, усяго XX стагоддзя — і канца яго, у якім яно таксама не адспявала сваёй гістарычнай песні і застаецца першаснай, актуальнай, маладой.

Мы, беларусы, павінны быць гордыя сваім Адраджэннем, бо яно — дэмакратычнае, бо яно не бачыць сябе па-за развіццём культуры, літаратуры, моў людзей, якія на сёння наш край засяляюць. І, як на сёння, размова ідзе найперш аб прыняцці ідэі беларускасці як апоры, грунту, падвалін дзяржаўнасці Беларусі, яе суверэнітэту — прыняцці людзьмі, грамадзянамі Беларусі на ўсіх мовах, на якіх яны ў нас гавораць. Бо ідэю беларускасці роўна можна выказаць і па-беларуску, і па-расейску, і па-польску, і на татарскай мове, і на габрэйскай. У прыняцці-падтрымцы ўсімі мовамі ідэі беларускай дзяржавы — зарука станаўлення, магутнасці, росквіту Беларусі як агульнай дзяржавы ўсіх людзей, што яе насяляюць.

Але што адбываецца зараз у нас? Згодзімся з паэтам Генадзем Бураўкіным:

**Наш парламент да дзівос ахвочы.**
**Гэткага, відаць, не бачыў свет:**
**Дэпутаты з асалодай топчуць**
**Яшчэ кволы суверэнітэт.**

**Ярлыкі расклейваюць сурова,**
**Распаляюць пракурорскі сверб:**
**То не даспадобы наша мова,**
**То не тыя даўні сцяг і герб...**

**Дабівайце край наш,**
**Дабівайце**
**Злосцю,**
**Раўнадушшам,**
**Глухатой.**
**Толькі аб адным не забывайце,**
**Што без Беларусі вы ніхто.**

Так! Без Беларусі, без ідэі беларускасці з яе Адраджэннем адпадае рацыё беларускай дзяржавы, а, значыць, і парламента, і таго сука, на якім кожны з парламентарыяў сядзіць. Сёння лёс ідэі беларускай дзяржаўнасці — у руках палітыкаў, як і лёс рэформы.

А што ж сучасная беларуская літаратура?

А яна, скажам мы прыканцы, развіваецца, жыве і адміраць не збіраецца. Ці цугляў яе таталітарызм і інтэрнацыяналізацыя, ці разцуглівала яе перабудова і рэформа — жывы курылка, хоць жыць і выжываць паразнаму даводзіцца. І ні рынак, ні прагматычная няўвага да роднай літаратуры эшалонаў новай маладой улады ў рэспубліцы — нішто не адмяняе, не зніжае аўтарытэту Максіма Танка і Васіля Быкава, прадаўжаюць заставацца ў добрай мастакоўскай форме Янка Брыль і Іван Шамякін, Іван Навуменка і Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык і Аляксей Дудараў, Ніл Гілевіч і Рыгор Барадулін, па сутнасці сотнямі імёнаў прадаўжаюць заяўляць аб сабе хлопцы і дзяўчаты "Першацвета". Так, мала друкуемся, мала нас чытаюць, амаль зусім пра нас не гавораць, як і мы самі пра сябе мала што мовім. Але гэта не значыць, што рэформа абышлася без нас і што да нас чарга яе цікавасці не дойдзе. У прагматызма — не далёкія ногі. Вечным рацыё ўсе ж застаецца біблейскае: "Спачатку было слова!.." Ідэя — гэта сапраўды сіла: нам цяпер у суверэннай Беларусі вунь як патрэбна, каб яна чым хутчэй дастукалася да вярхоў, авалодала імі. Час яшчэ ёсць, упушчаны ж час можа абярнуцца драмамі і трагедыяй народа.

Вось што, аднак, нам падказвае адзін з самых апошніх вершаў Рыгора Барадуліна, які называецца "Яшчэ":

**Акраец хлеба,**
**Шклянка малака,**
**Хлеб у руцэ,**
**А малако ў кішэні.**
**Натоўп штурхае злёгку юнака.**
**Трамвай грукоча нешта ў суцяшэнне.**
**Забыцца не паспеў, як хлеб расце,**
**Як сырадой смяецца ў белай пене й**
**Туман папягваецца ў духаце.**

**Яшчэ ў амаль ізрэбнай светлаце**
**Звыкаецца з сабой**
**Магчымы геній...**

Геній — заўсёды магчымы.

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ДАРАЖЭЙ ЗА ЗОЛАТА... "БЛЯХА"




Прыемна, калі, вобразна кажучы, "чуцен голас наш далёка". Аднак удвая прыемна, калі далёка за межы Бацькаўшчыны сягае той, хто з'яўляецца не толькі сталым лімаўскім аўтарам, а яшчэ і лаўрэатам штотыднёвіка. Маю на ўвазе Андрэя Федарэнку. У 1993 годзе прэміяй "ЛіМа" было адзначана яго апавяданне "Бляха". Цяпер жа з гэтым творам, перакладзеным на англійскую мову Руселем і Алексам Завістовічамі, можна пазнаёміцца ў альманаху "Ікарус", што выходзіць у Злучаных Штатах Амерыкі. Гэтае аўтарытэтнае выданне практыкуе выпуск тэматычных нумароў. Чарговы з іх, шаснаццаты, пра які ідзе гаворка, называецца "Канец імперыі" і ўключае ў сябе лепшыя творы 15 аўтараў з 15 былых рэспублік колішняга Савецкага Саюза. Перш чым трапіць на старонкі "Ікаруса", прэтэндэнты на публікацыю ў ім мусілі прайсці самы строгі адбор.

А пачалося з таго, што прэзідэнт выдавецтва "Розен Паблішынг груп" Роджэр Розен праз Пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый звярнуўся ў Міністэрства замежных спраў нашай дзяржавы з прапановай, каб літаратары дасылалі для альманаха свае творы.

BLIAKHA, OR AFTER CHERNOBYL
(FICTION FROM BELARUS)

ANDREY M. FEDARENKO

Паслалі многія — пераможцам стаў адзін. Сапраўды ўжо: "Бляха" даражэй за золата. Важнасць публікацыі А.Федарэнкі і ў тым, што гэта для большасці чытачоў альманаха першая магчымасць пазнаёміцца з беларускай літаратурай. А да ўсяго — з яе адным з самых таленавітых прадстаўнікоў. А яшчэ — мажлівасць даведацца і пра штотыднёвік "Літаратура і мастацтва". У невялікай даведцы пра аўтара паведамляецца, што А.Федарэнка з'яўляецца лаўрэатам "ЛіМа".

А.М.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ

За плённую літаратурную і грамадскую дзейнасць пісьменнік, заснавальнік рэспубліканскай газеты для інвалідаў "Наша доля" Іван Капыловіч узнагароджаны Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

## ЗАЙМАЛЬНА... ПРА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

распавядаецца на старонках кнігі "Займальная геаграфія Беларусі", якую выпусціла выдавецтва "Народная асвета". Аўтары яе С.Адзінцоў і С.Сідор парупіліся, каб захапляльна і разам з тым з карысцю пазнаёміць школьнікаў (ім у першую чаргу адрасуецца згаданае выданне) з нашай краінай. Віктарыны, чайнворды, крыжаванкі, іншыя матэрыялы дазваляюць атрымаць адказ на шмат якія пытанні, што тычацца розных геаграфічных паняццяў.

Паэзія

Ала КАНАПЕЛЬКА



## НЕПАЗБЫЎНАЯ ПРАГА НАДЗЕІ

### КРОЎ

На адзежы маёй праступае
кроў — сухая, старая, сляпая.

Праступае з калішняе раны,
неспадзеўнай, глыбокай, парванай,

праз рубцы і схаваныя шнары —
яна ўсюль, хіба што не на твары.

Ні вачэй, ні суду не баіцца...
Як цяпер між людзей
з ёй прыжыцца?

Хто мой боль неадрынуты ўбачыць,
хай даруе ці хоць бы прабачыць.

Кроў з пакутнай душы, а не з цела
праступіла,
навек прыкарэла.

### ГРУГАН

"Ані з кім, як са мной, аніколі
не знайсці на зямлі табе долі..."

Я расплюшчыла вочы —
туман,
размаўляе са мною груган.

"Я цябе буду верна любіць,
бараніць,
час міне —
ты сама пакахаеш мяне".

Малады, чарнакрылы, магутны,
анікому з людзей не падсудны.

"Ты аб шчасці маліла да Бога,
я ляту да цябе ад Самога!
Белы лебедзь — адвечны падман.
Я твой суджаны — чорны груган".

Ён казаў,
я ў здранцвенні маўчала,
гэта сон — я сябе суцяшала.

"Ані з кім, як са мной, аніколі
не знайсці на зямлі табе долі!.."

А калі над зямлёй засвітала,
мая доля на грудзі мне ўпала:
"Я цябе буду верна любіць,
бараніць,
час міне —
ты сама пакахаеш мяне..."

●

Як сонца
ў глыбокія воды
упала,
змяінаю пенай
самкнуліся хвалі
і ўсё праглынулі,
і ўсё пахавалі —
барвовай трывогай
зямля запылала.

Бясконцая вечнасць
нязбытным цяжарам
ад краю — да краю
акрыла прасторы.
І што да таго,
што гарыць маё гора
апошнім, маленькім,
расстайным пажарам?

Суцішыцца ноч
на зямлі і на небе,
на вейках яе
я застыну расою.
Пракінецца дзесь
залатой паласою
прыгожы
Свет Божы,
якому пакута не трэба.

●

Сыходзіць поўні ветлы час,
гусцеюць цені.
Да неба ў велічы акрас
маё маленне.

Пазбаў атрутнага агню —
няма больш моцы.
Развей на пыл і цішыню
міраж эмоцый.
Маё каханне — ува мне,
ратуй ад глуму.
Пакутай сплочана віне,
надзеяй — тлуму.
Усё адплочана спаўна.
Дай вызваленне!
Мая любоў была віна,
цяжкое сненне.
Шапчу ў маленні:
Божы дар
не дай на здзекі,
пазбаў нявартасці ахвяр
навекі!

●

Лёгкі снег, млечны подых нябёсаў...
Гэты дзень — ці то ява, ці сненне?
На галінкі рабінаў і лозаў
абцярушвае лёс летуценні.
То не іней — зямны іхні вырай
засыпае мне вейкі і скроні.
Я хачу быць каханай і шчырай,
я чакаю сабе ў свеце роўні.
У таемным сутонні прастораў
адплыву летуценнем і знікну:
гэта голасам трубным аклікнуў
з-за аблокаў мой брат —
Белы Жораў.

●

Разамкніся, сляпая пустэча,
расступіся, бяда, як вада.
Мне прызначана верная стрэча,
там чакае мая чарада.

Непазбыўная прага надзеі,
Залатая заранка з-за хмар!..
Сёння лебедзі ў небе ляцелі,
сёння бачыўся мне Ясны Твар
Божай Маці
над цёмным раздоллем,
над спалоненым лёсам маім.

Я за выраем рвуся з юдолі —
лебядзіным, святым, залатым.

●

Той светлы дзень, як непазбежнасць,
надыдзе ў суцемку гадоў.
Якая ясніцца бязмежнасць,
якая свеціцца любоў!
Нам не расстацца, не згубіцца,
не размяняць на пыл душу.
У сэрцы Божы дар нашу —
той дзень,
якога не пазбыцца!

Соф'я ШАХ



## "ВЕРУ, ЛЁС НЕ ДАСЦЬ У КРЫЎДУ..."

●

Наплывуць і рассеюцца лёгка аблокі,
моцна сцісне, а потым
паслабне адчай...
Каб не гэтыя дні запаветнай палёгкі,
ці я знала б хоць што
пра загадкавы рай?

Дзякуй лёсу, што дадзена
зведаць раз-пораз
гэты рай у жыцці
між набыткаў і страт, —
чуйна-чуйна ўслухоўвацца
ў памятны голас,
блізка-блізка ўзірацца
ў ласкавы пагляд.
Дзякуй лёсу, што дадзены
міг далучэння
да найсамай адказнай,
святой вышыні,
на якой і святло —
гэта тое ж збавенне,
тая ж стойкая вера ў наступныя дні.

●

Яшчэ не ўсе мінулі страхі-беды,
яшчэ адчай сябе не заглушыў,
а ўжо свабодай нейкай дух сагрэты,
а ўжо маладзікова на душы.

А ўжо спакуслівa ад нецярпення
у марах зноў сябе паспрабаваць
і чуйнага настрою прасвятленне
для позірку у Заўтра скарыстаць.

І хоць дакладна мо ён і не скажа
пра ўсе выявы будучага дня,
але ў світальную аснову ляжа
і ясна адаб'ецца ў прамянях.

І зноў душу магічна злучыць з небам.
І каб такую сувязь узнавіць,
здаецца, больш нічога і не трэба,
як толькі цемру ночы перажыць...

●

Усё адзінае, усё непаўторнае:
і дачка, і каханы, і край.
Хай жа іх абміне сіла чорная,
хай жа, Госпадзі Праведны, хай!

Толькі сувязь у гэтым зваротная,
і яе не замяніш нічым:
дай мне сілу а хоць бы й гаротную, —
я ж патрэбная, Госпадзі, ім.

Я ж пра іх, што ні дзень, адухоўлена
усявышні кранаю Твой слых.
Я ж імкнуся да іх неспатолена,
І ўвесь лёс мой — таксама для іх.

Раз мяне надзяліў гэткай міласцю:
даў мне блізкіх людзей, кут зямлі, —
дык ужо і найдоўгай магчымасцю
быць апораю ім надзялі.

●

Які ўжо год, які ўжо век
цячэ па зорнаму бязмежжу?..
А я, мой існы чалавек, —
я Вам належу.

Цьма за святлом, святло за цьмой, —
час ладна тчэ сваю мярэжу...
А я, дабраслаўлёны мой, —
я Вам належу.

Ўжо знае высь і ўсвоіў лёс,
перадалося следам вершу:
я, зачараваная скрозь, —
скрозь Вам належу.

О ўзнёсласць гэтая ў струне, —
ўжо не суцішу, не паменшу:
я Вам, наканаваны мне, —
я Вам належу!



Іван ЧЫГРЫНАЎ

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

## РЭВІЗОР

Пра гэта расказаў неяк Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Калі ўвогуле, то былыя зэкі пра сваё знаходжанне ў лагерах ды турмах не надта імкнуліся на людзях успамінаць. Хто праз сваю прыродную стрыманасць, маўляў, навошта, каму яно цікава, а хто праз звычайную перасцярогу — а раптам гісторыя пакоціцца назад? Хіба ж пакутаў яшчэ не хапіла? Тым не менш Станіслаў Пятровіч часам дазваляў сабе выдаць нейкую зэкаўскую таямніцу, калі гэта датычыла знаёмых.

— Ведаеце? — Ён заўсёды пачынаў з гэтага слова, якое гучала ў яго вуснах не кожны раз запытальна.

З рэвізорам было так. У сорак першым годзе, калі немец збіраўся захапіць Маскву, сібірскія вёскі абязмужычвалі. Нават з лагераў ішлі людзі на фронт. Трэба сказаць, што ў галоўным берыеўскім упраўленні былі розныя лагеры. Шушкевіч, напрыклад, на пачатку вайны адбываў пакаранне ў сельскагаспадарчым лагеры-саўгасе. Мне не зусім вядома гэтае словазлучэнне, аднак з размовы Станіслава Пятровіча можна было зразумець, што на палях у такіх лагерах-саўгасах працавалі побач з рабочымі, якія жылі ў вёсках, і зняволеныя з канцэнтрацыйных лагераў. І вось вайна пазвала на сваё крывавае жніво мясцовых мужыкоў, узваліўшы ўвесь клопат па ўборцы ўраджаю на зняволеных, з якіх мала хто адчуваў у сабе сілы жаць, малаціць снапы, капаць ды буртаваць бульбу. А план тым не менш трэба выконваць. За план жорстка патрабавалі нават у мірны час. Можна ўявіць сабе, як дрыжэла за яго ў вайну лагернае начальства?! З кім выконваць яго? З дахадзягамі, якія ледзьве валочаць ногі, добра, што яшчэ не дужа халодная пара!.. Нарэшце лагернаму начальству зрабілася відавочным, што неабходна на штосьці рашыцца. Не падкарміўшы вязняў, далей працаваць немагчыма. І вось начальнік лагера, дзе Шушкевіч адбываў тэрмін у якасці бухгалтара, аднаго разу кліча яго да сябе ды кажа:

— У тым-та і тым-та аддзяленні ў нас памерзла бульба. Трэба скласці на гэта акт. На ферме была пачалася чума. На збожжавым складзе таксама вялікія страты ад непагоды, бо дах працякаў. Словам, на ўсё гэта мне патрэбны акты.

— Але ж, ведаеце, ніякіх стратаў не было!..

— Гэта ты кажаш, што не было. А я ведаю, што былі. І бульба пагніла, і чума ўзнікала, і збожжа ад макрэчы зусім сапрэла.

Словам, паступова давёў начальнік бухгалтару, што і збожжа, і бульба, і свініна патрэбны на кухнях, каб падкарміць змарнелых зняволеных. Раз на такое рашаецца начальнік лагера, то чаму павінен упарціцца бухгалтар, які гэткі ж самы зэк, як і тыя, каго неабходна падкарміць.

— Немец пад Масквой, — сказаў пад канец начальнкік. — Фронту патрэбны хлеб. Чырвоную Армію неабходна карміць. Дык лепей нешта патраціць цяпер, чым не дабраць большага!

“Ну так, — падумаў тым не менш зэк-бухгалтар, — ты заўсёды выкруцішся, нават калі што якое. А я?”

Падумаць — падумаў, а сказаць не сказаў. Ды і як бы гэта гучала? Свой брат зэк не хоча паспрыяць таварышам? Да таго ж, ад каго ініцыятыва зыходзіць? Адно раскрый нездаволена рот, як цябе тут жа стаўкуць на груцу!

К вечару акты на спісанне харчоў былі складзены. Кухні задымілі мацней. Па крупніку ў місках зняволеных пачалі плаваць тлустыя скалкі. Жыць стала весялей. З ураджаем сорак першага года лагер-саўгас справіўся паспяхова.

Тым часам наступіла ранняя зіма. А немец пад Масквой нібыта спярша спатыкнуўся, а тады і зусім павярнуў назад. Ура!

Але на ўсё бывае расплата.

Неяк узімку прыязджае ў лагер рэвізор. З вышэйшай, чым лагерная, установы. Станіслаў Пятровіч глядзіць. Аказваецца, свой брат, пісьменнік. Як ды чаго, маўляў?

— А на рэвізію, братачка, на рэвізію.

Рэвізіі, вядома, не ўнікнеш. Але добра, што прыслалі ў якасці рэвізора знаёмага. Ды яшчэ пісьменніка. Прынамсі, хоць паразумецца можна будзе, калі што.

— Ну што, братачка, кладзі на стол свае паперы, — кажа тым часам рэвізор.

“Паперы — гэта яшчэ не страшна, — думае Станіслаў Пятровіч. — У паперах, як у стозе сена, можна згубіцца. У кожным разе, спрабуй знайсці іголку!”

Але рэвізор знайшоў. І вельмі хутка.

— Што гэта за акты? — пытаецца ён праз дзень.

Зразумелая справа — бухгалтар бухгалтара разумеюць адзін аднаго з паўслова.

— Мы так вось зрабілі, — прызнаецца Станіслаў Пятровіч. — Ведаеш, падкармілі людзей, каб лепш працавалі ўвосень на ўборцы. Таму давялося заактаваць сёе-тое.

— Ах, так?

— Дык гэта ж для свайго брата, зняволенага! — спрабуе давесці Шушкевіч. — Як кажуць, не пагубі!..

Толькі дзе там!

Бачыць Станіслаў Пятровіч, што не паласа. Кідаецца да начальніка лагера. Так, маўляў, і так.

— Дзе ён, гэты рэвізор твой?

— Дык у канторы, — ажно трымціць бухгалтар, — выйдзе справа за лагер, сядзець давядзецца куды даўжэй, чым напачатку.

— Заві яго сюды, — кажа начальнік. — Усё роўна ён павінен паказаць вынікі рэвізіі.

Прыходзіць рэвізор. Начальнік лагера бярэ з ягоных рук паперы, чытае. Тады рве іх, кідае рэвізору пад ногі.

— Вось што, галубок (вядома, слова было ўжытае іншае, больш выразнае), ты зараз жа хуценька паедзеш ад нас, каб ніколі не вяртацца. І ні гу-гу! Бо згнаю ў Сібіры! І ўжо ніколі не пабачыш сваё Беларусі!

— Дык я... Дык мы... — Злякаўшыся, рэвізор не знаходзіў сабе месца.

Нарэшце, ён так і зрабіў, як раіў яму начальнік лагера. А Станіслаў Пятровіч яшчэ месяцаў колькі дрыжэў душою і целам, чакаючы непрыемнасці зверху.

...Не толькі пра адно гэта давялося чуць мне ад трапяткога Станіслава Пятровіча. Але ўсяму свой час. Тым больш, што ў душы ўзнікае адчуванне, што нявартa было і пра рэвізора згадваць. Ну іх, гэтых пісьменнікаў! Лепей я раскажу, як вадзіў некалі па вёсках старца.

Працяг. Пачатак у N 13.

## ЯЕШНЯ СТАРЦАЎ

Жабракоў на Магілёўшчыне, як, дарэчы, і на Гомельшчыне, завуць старцамі. Іх вельмі многа хадзіла па вёсках пасля вайны. Але каб быць ужо дакладным, то неабходна ўспомніць, што і да вайны даводзілася бачыць іх часта. Гралі яны на лірах, а ў павадырах у сляпцоў хадзілі хлопчыкі. Мяне таксама ўгаварыў адзін старац правесці да суседняй вёскі. Ён так і сказаў нашай маці, што просіць мяне толькі да Гуткі, куды было, можа, кіламетры са два. Пры гэтым неяк загадкава сказаў: буду я жывы, будзеце і вы жывыя. Але з Гуткі старац не адпусціў мяне дамоў. Сціснуў маю руку і павёў да наступнай вёскі, Віроўкі. У нас там жыла нейкая радня. Вярней, не ў нас, а ў дзедавай нявесткі Аксенні. Таму я не дужа ўпарціўся, дазволіў старцу павесці сябе далей, нават не паспрабаваў вырваць сваю руку з чэпкіх лап сляпога чалавека, рашыўшы, што ўсё роўна ўцяку. У народзе часам казалі, што жабракі гэтыя зусім не сляпыя, толькі прытвараюцца, што невідушчыя. Але той старац сапраўды быў сляпы.

Было лета. Над гразіўцом стаяла духмень. Сонца ў небе рухалася марудна нават надвечар. Па гразіўцы тым колісь цякла рэчка, але паступова ператварылася ў забалочанае тарфянішча, якое нарэшце стала сенажаццю, на якой да вайны касілі ажно тры калгасы. Якраз у гразіўцы я і пераканаўся, што чалавек не прытвараецца, вочы яго не бачаць, бо ён раптам усё роўна як спалохана затупаў па раскіданым мастку, што быў перакінуты цераз канаву. Тады я нарэшце па-сапраўднаму зліtaваўся над ім, перавёў на другі бок. Але цяпер ужо не скажу праўды, чаму я і ў Віроўцы не пакінуў яго. Адно ціхмяна пастаяў, пакуль ён граў на ліры, падпяваючы нешта жахлівым, быццам знарочыстым голасам. Больш таго, павесіў на сябе яго торбу, куды пачаў складваць міласціну — звычайныя кавалкі небагатых вясковых людзей. Праўда, мне вельмі не спадабалася, калі ён гэтыя кавалкі пачаў выкідваць з торбы ў прыдарожныя кусты, выбіраючы з іх яйкі, скрылёчкі сала, сырую бульбу. Мог бы астатняе аддаць мне, балазе, у нас пасля вайны мала калі хапала ежы.

Між тым, чым далей мы адыходзілі ад Віроўкі, тым часцей сустракалі такіх жа старцаў з павадырамі. Іншы раз небаракі спыняліся, аб нечым гаварылі; паколькі яны размаўлялі на нейкім лемязені, то зразумець іх нялёгка было. Але вось мы датупалі нарэшце да пералеску. Я пазнаў яго. Тут знаходзіліся так званыя лужкі, звычайныя сухадолы, дзе па святах збіраліся пад гармонікі вясковыя дзеўкі і хлопцы. Тут сустракалі вясну і праводзілі лета. Вядома, палілі кастры, асабліва ў купальскую ноч. Пакуль мы са сваім старцам дабіраліся да лужкоў, на іх паспелі ўжо атабарыцца некаторыя пары. Дарослыя сядзелі купкамі, размаўлялі, але яўна было, што нечага чакалі. Малыя павадыры ганяліся адзін за адным паміж кустоў, быццам не адчувалі стомы. Бадай, што яны ўжо даўно ведалі пра сябе ўсё. Я, між тым, быў чалавек новы, таму неўзабаве выклікаў цікавасць аднаго хлапчука.

— Ты з Антонам Жмэйдам ходзіш? — спытаў ён.

Я паціснуў плячамі, бо не ведаў, як зваць гаспадара, але тут жа паказаў на тую купку сляпцоў, дзе сядзеў мой.

— Дык я і кажу, — усё роўна як здзівіўся маёй някемлівасці хлопчык-павадыр, — ты з Антонам Жмэйдам!

— Ну так, — нарэшце згадзіўся я.

— Але каб ведаў — у яго павадыры доўга не затрымліваюцца. Уцякаюць, бо ён шчыплецца. Усе ягоныя хлапчукі ходзяць з сінякамі. Цябе яшчэ не шчыпаў?

— Не.

— Ну, то яшчэ паспытаеш. Але ж дарэмна, што сляпы — ледзь не ў кожнай вёсцы шукае сабе, на кім жаніцца. Я і то ўжо на трох яго вяселлях быў. Старцы нашы п'юць-гуляюць. А што ім? Есці хапае чаго, грошы таксама даюць ім. А ты сам адкуль?

Я адказаў, але вёску чамусьці назваў не сваю, акурат апасаўся чаго.

— Мне твой Антон вінен яшчэ, — сказаў хлопчык. — Ты скажы яму, каб аддаў.

— Што? — спытаў я.

— Ён сам ведае, — не захацеў удакладняць мой субяседнік.

Я не стаў дамагацца. Мы яшчэ пастаялі трохі адзін супраць аднаго, тады разышліся. Ноч тым часам наставала. У лужках увачавідкі шарэла, дарма што неба на захадзе ўсё яшчэ палала. Павадыры пачалі зносіць у адно месца сухі хмызняк, аднекуль з'явілася бярозавае паленне.

— Зараз яешню-барану стануць пячы, — сказаў нехта з хлопчыкаў, жадаючы, мусіць, каб пачуў найперш я.

Вогнішча разгаралася, шугала высака ўгору. Хутка яго абступілі старцы. Відушчыя стаялі самі. Сляпцы трымаліся за плечы хлопчыкаў-павадыроў. Хоць было лета, аднак здавалася, што людзі вакол вогнішча грэліся. Але вось полымя пачало ападаць, дровы згарэлі. На вогнішчы засталося адно вуголле — чырвонае, дыхаючае гарачынёй. Неўзабаве яго разраўнялі, яно зноў трохі падыхала полымем, пакуль не стала гаснуць. І тады да яго пачалі насіць кошыкі з яйкамі, назбіранымі за дзень. Чатыры старцы выйшлі з чатырох бакоў наперад, дасталі нажы, каб разбіваць напалам яйкі. Бялкі і жаўткі тут жа паляцелі на вуголле. Не прайшло і пяць хвілін, як ужо пяклася вялізная яешня, займаючы ўсё вогнішча.

— Ну і барана сёння выйдзе! — з захапленнем сказаў хтосьці.

З торбаў хлапчукі даставалі хлеб, сала. Нехта не пашкадаваў, кінуў у яешню шматкі. Вуголле ў тых месцах зноў засінела, на момант успыхнула. Аднекуль відушчыя старцы прынеслі лаўцы, пачалі раздаваць іх.

— То пачнём, — сказаў адзін са старцаў.

Натоўп вакол вогнішча заварушыўся.

— Падавай, — загадаў мне мой Антон.

Я тут жа тыцнуў раздвоеным лаўцом у яешню, падчапіў кавалак і палажыў на лусту хлеба, якую мой старац ужо трымаў напагатове. Ён спярша пакаштаваў, тады пачаў прагна есці; здавалася, што ўсе тут знарок захоўвалі дасюль у сабе голад; таму велічэзная яешня-барана змяншалася хутка; яе знішчалі няшчадна. Дзіўна, але мне чамусьці не хацелася есці, можа, таму, што было штосьці непрыемнае ў гэтай іхняй прагнасці, найбольш у неахайнай паспешлівасці і гучным чаўканні, усё роўна як не людзі знаходзіліся вакол вогнішча, а звычайныя жывёліны. Мой старац, вядома, не адставаў ад іншых, я толькі адно і рабіў, што даставаў новыя кавалкі. Нарэшце, ён наталіў голад, спытаў:

— А ты? Ты хоць паеў?

Дзе там паеў? Калі мне было? Ды і грэблівасць усё роўна як перашкаджала.

— Паеў, — тым не менш адказаў я.

— Ну то і добра, — пахваліў мяне старац, акурат загладжваючы нейкую віну наперад; але мяне гэта ўжо не кранала; я ведаў, што ўначы збягу з лужкоў, балазе, дарога адтуль у сваю вёску мне была вядома.

На ноч жабракі з павадырамі пакладаліся вакол патухшага вогнішча. Я счакаў, пакуль заснуў мой Антон Жмэйда, тады ціха ўскочыў, цаляючы прэч. Мяне ніхто не спыніў, нават не аклікнуў.

І толькі многа пасля я прачытаў у Евангеллі словы, што сказаў некалі той старац: буду жыць я, будзеце і вы жыць. Няйначай, укладваў ён у іх нейкі свой сэнс.

## МАТЧЫНА ХАТА

Я помню тры хаты, у якіх жыў. І адну зямлянку. Адна была маленькая, што клець. І мы з яе пераязджалі ў новую, прасторную пяцісценку, з вялікімі сенцамі; гэта згарэла ў сорак трэцім годзе, калі адступалі з Забяседдзя немцы. Здаецца, найдаўжэй давялося жыць у зямлянцы. Згарэўшы ў вайну, наступную хату мы збудавалі няскора. І ў ёй мне прыйшлося жыць усяго гады са два.

Цяпер на нашай сядзібе, калі можна гэтак называць месца, дзе мы заўсёды жылі, няма нічога. Суседнія двары, пакінутыя гаспадарамі пасля чарнобыльскага выбуху, таксама буцвеюць, развальваюцца; праміне яшчэ колькі часу, і на месцы прыгожай некалі вёскі нічога не застанецца. Можа, пастаяць трохі даўжэй тыя камяніцы, што будаваліся зусім нядаўна, калі быў утвораны саўгас...

Раней мне чамусьці здавалася, што ўся наша радня заўсёды жыла ў Вялікім Бары. Але ўзялася неяк маці, Хадоска Ігнатаўна, расказваць пра сябе, і раптам высветлілася, што нарадзілася яна на беразе Бесядзі, каля самае дарогі, што вядзе з Вялікага Бору ў Саматэвічы. Там ёсць стромы бераг, уздоўж якога яшчэ і цяпер растуць таўшчэзныя дубы. На пачатку нашага веку пад тымі дубамі стаяла леснічоўка. У ёй і нарадзілася мая маці. Дзед Ігнат Міхайлавіч тады служыў у Галынскіх леснікам. Я ўжо згадваў пра Галынскіх у сваёй так званай аўтабіяграфіі, якую ледзьве ўдалося нарэшце надрукаваць, таму ці трэба яшчэ дадаваць што. Сапраўды, гісторыя цалкам “прыгонніцкая”. Некалі мой прашчур Іван Кажанок быў аддадзены Галынскімі ў Вялікі Бор на выхаванне. І той вырас у вялікаборскага “чыстага” мужыка на панскія грошы. Але ў далейшым Галынскія больш не прызнавалі майго прашчура за “свайго”. Успомнілі, што ўсё-ткі ён быў у іх калісьці, бадай, толькі пры канцы мінулага веку. І не толькі ўспомнілі, а нібыта нават пачалі вінаваціць сябе ды “прызнаваць”. Таму і на службу палясоўшчыцкую ўзялі майго дзеда, непасрэднага нашчадка таго Івана. Дзед быў малады, здаровы хлопец. У леснічоўку на беразе Бесядзі прывёў ён з Зялёнкавічаў сабе жонку. Там у іх паявіўся на свет Хвядос, а за ім — мая маці. Былі ў дзеда Ігната Міхайлавіча таксама меншыя дзеці, мае дзядзькі і цёткі. Дзядзька Кузьма трапіў пад расстрэл недзе на Далёкім Усходзе, як талстовец. Прынамсі, так тлумачыў дзед. Цёткі памерлі самі. Словам, з вялікай дзедавай сям'і ўжо нікога няма. Дзед паміраў у вялікай беднасці. Зрэшты, пра гэта я згадваў. А вось пра тое, як да рэвалюцыі семнаццатага года ён збіраўся купіць у сваіх “родзічаў” маёнтак у Панках, дагэтуль ніяк не выпадала расказваць. У савецкі час увогуле не заведзена было, мякка кажучы, шукаць родных ці сваякоў “на тым баку грамадства”. Прынамсі, маці мая таксама з неахвотай успамінала пра гэта, усё роўна як баялася пашкодзіць гэтым самым сваім дзецям. І расказала яна хутчэй за ўсё таму, што выпала так: успомніла раптам пра хату на беразе Бесядзі, дзе нарадзілася, а тады ўжо высновалася і тое, чаму вельмі доўга ейныя бацька з маткаю збіраліся пераязджаць на пастаяннае жыхарства ў Вялікі Бор.

Новыя родзічы яе бацьку, а майму дзеду Ігнату Міхайлавічу, плацілі за службу добра. На тыя залатоўкі, якія ён атрымліваў ад іх, і ўзнікла задума купіць панскі дом. Тым больш, што самі Галынскія збіраліся ўсё роўна прадаваць гаспадарку. Але стаць уладальнікам маёнтка дзеду не ўдалося. Пачалася першая імперыялістычная вайна, затым лютаўская рэвалюцыя, за ёй — кастрычніцкая. Запрацаваныя залатоўкі засталіся ляжаць у гаршку, закручаным у бяросту. Між тым дзеці ў сям'і раслі, трэба было ўсё ж падавацца ў вёску, бліжэй да людзей. На маёнтак пасля апошняй рэвалюцыі ўжо ніякай надзеі не стала. Таму дзед купіў сялянскую хату з зямлёй і садам у Вялікім Бары, перавёз з лесу дзяцей і ўвесь нажыты набытак. У вёсцы на першым пачатку купіў крупадзёрку, сукнавалку, замахнуўся ажно на вятрак. Але бальшавіцкія камісары ў скуранках тым часам пачалі “выбіваць” з мужыкоў золата. Гарадскі абывацель мог аднесці царскія залатоўкі ў таргсін, былі такія гандлёвыя кропкі, мужыкі ж трымалі свае ў кубышках. Дзеда майго чэкісты таксама некалькі разоў апускалі на вочапе ў халодную ваду ў ягоную студню, дапытвалі, дзе золата. Але Ігнат Міхайлавіч здолеў вытрымаць пакуты. Не прызнаўся, што гаршчок, аплецены бяростай, схаваны пад шулам. Здавалася, на залатоўках усе беды павінны былі скончыцца. Але хутка пачалася калектывізацыя. Зноў выпрабаванне. Пасля нядоўгай адсідкі ў магілёўскай турме давялося дзеду аддаць у калгас і крупадзёрку, і сукнавалку, і ўсё іншае... Маці казала потым, што дзед не дужа каб і перажываў страты. Няйначай, грэў душу на залатоўках, да якіх баяўся нават падступіцца. Але аднаго разу, ужо пры калгасах, узяў рыдлёўку, капнуў у тым месцы, дзе хаваў гаршчок. Рыдлёўка ні на што не натыкнулася. Тады Ігнат Міхайлавіч пачаў разграбаць зямлю пад шулам рукамі. Дарэмна. Гаршка пад шулам не было. Відаць, хтосьці ведаў, дзе дзедава золата. Не хацелася б цяпер падазраваць кагосьці, але адна сям'я ў Вялікім Бары да самага апошняга часу ў якасці пасагу сваім дзецям выдавала залатыя царскія манеты... І гэта тады, як па ўсіх дадзеных у іх не магло быць столькі каштоўнага металу.

Як я сабе думаю, дык дзеду майму па матчынай лініі не шанцавала ў жыцці. Адно, што яно ў яго было доўгае, з моцным здароўем. Здаецца, усё ён мог і ўсё ўмеў. Урэшце, можа, якраз у гэтым тыя шанцы?

*(Заканчэнне на стар. 14-15.)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПРЭМ'ЕРА "НЕПАРАЗУМЕННЯ"



**Пра незвычайна жорсткі бізнес, наладжаны маці і дачкой, расказвае спектакль "Непаразуменне", прэм'еру якога паказаў Беларускі акадэмічны драматычны тэатр імя Я. Коласа ў Віцебску. Ажыццявіў пастаноўку рэжысёр Юрый Лізянгевіч, сцэнаграфія і касцюмы Андрэя Проніна, музыку напісаў Уладзімір Кандрусевіч.**

*На здымку: сцэна са спектакля. У ролі Марыі — Таццяна Ліхачова, у ролі Яна — Генадзь Шкуратаў.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА,*
**БЕЛІНФАРМ**

## "SONORUS" У МІНСКУ

**Знаёмы пільным чытачам "ЛіМа" Мінскі абласны камерны хор "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута пераехаў з Маладзечна ў Мінск. Светлым дзівосным надвячоркам ён па-свойму адзначыў гэтую падзею, запрасіўшы прыхільнікаў прыгожага спявання ў Чырвоны касцёл. Тут, за гадзіну да набажэнства, пачаўся канцэрт харавой музыкі, водгулле якога, пэўна, яшчэ доўга будзе поўніць-акрыляць уражлівыя душы.**

**Зрэшты, у храм і ходзяць людзі з уражлівымі,трапятлівымі, збуджанымі да палёту, душамі. А калі б і трапіўся між іх выпадковы слухач, дык наўрад ці надоўга ўдалося б яму захаваць "нейтралітэт" да хвалюючых спеваў хору. Тым болей, што малады, але ўжо з міжнародным аўтарытэтам калектыў пасля свайго мінскага наваселля пабагацеў на выдатныя галасы, чароўнасць якіх падкрэсліла унікальная храмавая акустыка. Да таго ж, толькі паталагічна абыякавы чалавек не зацікавіўся б і самой праграмай — дарэчы, новай праграмай хору "Sonorus".**

**А ў праграме, якую вяла і шчыра каменціравала музыказнаўца Надзея Шут, былі й добра вядомыя сёння імёны, і амаль нязнаныя. Бо гучала пераважна беларуская праваслаўная музыка, ноты якой кіраўнік хору атрымаў дзякуючы нястомнаму лонданцу Гаю дэ Пікарду. На жаль, пра саміх кампазітараў звестак мала: Антон Валынчык вучыўся ў Варшаве, працаваў у Вільні, Гродне; носьбіт прозвішча "Саломка" (імя пакуль не называлася) жыў на Гродзеншчыне, а нехта Бутома — у Гомелі... Найбольш вядомымі аказаліся віцяблянін Міхал Анцаў, мінчукі Аляксей Туранкоў, Мікола Шчаглоў-Кулікові́ч, Мікола Равенскі.**

**Добра скампанаваная, ладная й дынамічная праграма ўключала не толькі царкоўную беларускую музыку, але й зусім зямны, споўнены любоўю да жыцця твор М. Куліковіча — "Застольную" на ўласныя вершы кампазітара. Акаймоўвала канцэрт вернутая ў наш духоўны свет музыка М. Равенскага: першым нумарам быў ужо даволі вядомы хор "О, Божа, усеўладны", а на заканчэнне прагучаў гімн "Магутны Божа". Гэты гімн людзі слухалі стоячы, такім чынам выказаўшы да яго пачцівасць як да нацыянальнай святыні.**

**Лаўрэат міжнароднага конкурсу хор "Sonorus", яго мастацкі кіраўнік А. Шут, салісты Н. Цар, Т. Семянцова, І. Пацоўская, В. Давыдзёнак, Л. Кудзеля ды А. Важнік былі ганараваныя ў той вечар гарачымі авацыямі шматлікіх слухачоў, сярод якіх былі й музыканты, і заўсёдныя прыхаджане Чырвонага касцёла. Усцешна, дарэчы, думаць, што з рэстаўрацыяй гэтага культавага будынка, неад'емнага ад гістарычнага аблічча нашай сталіцы, у Мінску ствараецца сапраўдны асяродак духоўнасці ды музычнага жыцця.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

***VIII Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі, што праходзіў напрыканцы мінулага года ў Віцебску, меў сваёй эмблемай мудрагелістае спалучэнне змяі з лабірынтам (наконт гэтай таямнічай сімволікі спрачаліся яшчэ на папярэднім фэсце). Для мяне ж сімвалам харэаграфічнага Віцебска-94 стаўся... снег. Першы. Які падаў не толькі за вокнамі, але й на сцэне: адна з харэаграфічных мініяцюр так і называлася — "Першы снег". "Першаснег" на сцэне пакружыўся ды знік, а вось ягоны цёзка за вокнамі не даваў спакою не толькі ўзімку, але і ўвесну, зноў і зноў нагадваючы пра сябе пасля дажджыста-сонечных адліг. І навяваючы думкі пра Віцебск і мадэрн-балет. Зрэшты, асабіста мяне на тым фэсце клікалі досыць коратка і грунтоўна—***

# ПЕРШЫ СНЕГ

**ПЛАСТЫЧНА-ГРАФІЧНА-РАЗМОЎНЫ ЭЦЮД У ТЭХНІЦЫ МІНІМАЛІЗМУ**

## ПРЭСА

(у адрозненне ад так званай "даследчай лабараторыі", куды ўваходзілі выключна спецыялісты). Як прэса, я магу яшчэ і яшчэ канстатаваць, што фестываль атрымаўся. Што яго арганізацыя была на вельмі высокім узроўні. Што адчуваўся амаль хатні клопат пра запрошаных (акрамя звычайнага сервісу, да кожнага з калектываў былі прызначаны дзяўчаты-куратары, якія, нібы казачныя феі, апекаваліся побытам усіх зорак, зорачак і іншых катэгорый, да іх прыроўненых).

Дадам, што грошы, укладзеныя ў фестываль спонсарамі, выкарыстоўваліся выключна на высокія мэты. Журналісты былі настолькі ўражаныя поўнай адсутнасцю банкетаў, што правялі невялічкае расследаванне і вылічылі-такі адно "падпольнае святкаванне", якое супадала з прыездам французаў. Але на справе яно аказалася... звычайным вяселлем са звычайным жаніхом і нявестай. Нават фінальная "дыскатэка", што адбылася пасля гала-канцэрта, аплачвалася кожным з удзельнікаў самастойна, у залежнасці ад уласных апетытаў, — і ў гэтым была свая справядлівасць. Але не было прадстаўнікоў Міністэрства культуры і друку — і злыдні-плеткары мелі ўсе магчымасці звязваць іх непрыезд менавіта з банкетнай "недапрацоўкай" арганізатараў фэсту.

Што ж да самой прэсы, дык, акрамя беларусаў, на фестывалі былі акрэдытаваны часопісы "Балет", "Аўстралія Дэнс", прыватная расійская тэлекампанія. А калі ўлічваць мастацтвазнаўцаў, што ўваходзілі ў склад "лабараторыі" і абяцалі абавязкова напісаць пра фэст, дык застаецца спадзявацца, што рэклама Віцебску-95 забяспечана.

Такім чынам, ролю невялічкага "прэса" ці яшчэ больш лёгкага "прэсінга" прэса выканала. Але быў на фестывалі яшчэ адзін

## ПРЭС,

які паціху цiснуў на саму прэсу. У яго ролі выступала незабыўная, непаўторная, абаяльная, энергічная Марына Раманоўская — не проста дырэктар фестывалю, а яго душа.

Спалучэнне душы з прэсам узнікла ў яе, як гаворыцца, не ад добрага жыцця. Яно стала працягам яе амаль мацярынскай турботы пра беларускіх удзельнікаў фэсту — і адначасова вынікам некаторых арганізацыйных прынцыпаў, абвешчаных фестывальнай традыцыяй. Калі ўсіх прэс-канферэнцый толькі дзве і ў абедзвюх удзельнічае адна толькі Раманоўская, калі яна адна не баіцца прымаць рашэнні, нібы Аляксандр Матросаў, кідаецца на амбразуры ўсіх непрадбачаных праблем, дык прэс узнікае міжволі. Журналісты "шчасліва" пазбаўлены гутаркі з членамі журы: не толькі да пачатку конкурснай праграмы, але і пасля выніковага пасяджэння. Паводле немаведама кім заведзенай "традыцыі" імёны лаўрэатаў "рассакрэчваюцца" толькі на гала-канцэрце, а датуль журналісты жывуць адно толькі чуткамі. Праўда, недзе з паўгадзіны да афіцыйнага абвяшчэння М. Раманоўская ўзяла на сябе смеласць парушыць "табу" — што называецца, шэптам. Не прамінуўшы пры гэтым дадаць, каб спадары газетчыкі не вельмі ўжо хвалілі ўпадабанага ім маладога харэографа, бо ў таго пачнецца "зорная хвароба".

Не дазволіла М. Раманоўская прэсе ўдзельнічаць і ў абмеркаванні конкурсных праграм, дзе члены "даследчай лабараторыі" давалі парады кіраўнікам калектываў. З беларускага боку сярод "лабараторцаў" прысутнічала адна Юлія Чурко, таму іхні "прэс" на самадзейных харэографаў быў амаль цалкам "імпартны" — іншым словам,

## "ІМПРЭС".

Дарэчы, ведаеце дзіцячае харчаванне з гэтакай назвай? Прынамсі, для кармлення немаўлят. Я ўспомніла пра яго таму, што ў ролі немаўлят на фестывалі былі акурат беларускія артысты. Славуты Валянцін Елізар'еў старшыняваў у журы, славуты Юры Траян саліраваў як канферансье — увесь астатні беларускі балет, прадстаўлены на фестывалі, быў самадзейным. Не верыце?

Мы так па-дзіцячы радаваліся, што нашы балетныя вытанчанасці "наперадзе планеты ўсёй", што не заўважалі, як увесь свет крочыў далей і далей. Ды і як мы маглі заўважаць, калі не бачылі не тое што гастралёраў — звычайных відэакасет з балетнымі запісамі!

Два дзесяцігоддзі таму В. Елізар'еў зрабіў у нашым балеце рэвалюцыю. Адзін з яго першых і найбольш дыскусійных спектакляў меў досыць сімвалічную назву — "Стварэнне



*На сцэне — "Госціца".*

свету". Елізар'еў стварыў у балеце свой свет — ды не стварыў школу, не займеў паслядоўнікаў-эксперыментатараў, якія б не далі спыніцца творчым пошукам. Манаполія — яна і ў балеце манаполія.

Два гады таму на базе трупы Дзяржаўнага тэатра музкамедыі Беларусі ўзнік так званы "Мінск-балет". Але ж манаполіі ён не парушыў. "Мінск-балет" заклапочаны пошукам выканаўцаў, гледачоў, для чаго ўзяў арыентацыю на спрошчана-скарочаную класіку. Яму, на жаль, пакуль не да авангардных выкрунтасаў. Малады балет пад кіраўніцтвам В. Саркісьяна і В. Лапо — таксама не канкурэнт, а ў нечым нават эпігон.

Што ж патрабаваць ад самадзейнасці, калі ў камандзе "профі" — па нулях? Тым не менш, "немаўлят" вырашылі "падсілкоўваць". Вядомы маскоўскі крытык Наталля Чарнова чытала лекцыю пра паходжанне і развіццё балетнага мадэрна, сыпала імёнамі і назвамі — ды толькі без відэапрыкладаў. Касеты дэманстраваліся ў наступныя дні — ды толькі без каментарыяў. Або — ішоў працяглы каментарый да аднаго спектакля, а касета аказвалася з іншым.

Дзейнічалі на фэсце і майстар-класы, якія праводзіліся вядучымі харэографамі свету. Ды толькі хіба ж гэта для "немаўлят"? Зразумела, асноўны кантынгент быў з вучылішчаў мастацтваў (былых культасветвучылішчаў), але некаторыя танцоры прыйшлі, што называецца, "з вуліцы". Нават анекдот нарадзіўся. "А зараз зробім джаз-пліе", — гаворыць харэограф. "Хто куды плюе?" — перапытваюць навучэнцы.

Дый наогул, ці магчыма як след за гадзіну-дзве ўцяміць асобны харэаграфічны напрамак? Затое менавіта гэтага часу хопіць, каб у роспачы зразумець адлегласць паміж мадэрнам "у нас" і "ў іх". Як гэта ні парадаксальна, але гэту "крамольную" думку я пачула ад звычайна самаўпэўненых масквічоў. Што ж тады казаць пра нас, сціплых беларусаў? Няўжо і сапраўды мы, былыя "савецкія", не здольныя да сучасных скокаў? О, яшчэ якія здольныя! Бо самаадданa намагаемся за лічаныя тыдні прайсці ўвесь той шлях, якім

пастуова, дзесяцігоддзямі, крочыла Еўропа.

Між тым, галоўнае адрозненне балета мадэрн ад класічнага, здаецца, у тым, што ў класіцы пануе прыярытэт прыгожых, зафіксаваных поз. У мадэрне ж — прыярытэт нават не рухаў, а светаўспрымання. Індывідуальнага для кожнай нацыянальнай школы і нават для асобнага харэографа. Кожны рух, кожнае імгненне не танцуюцца, а менавіта пражываюцца. Танец і жыццё становяцца працягам адно аднаго. Пошук натуральнасці паводзін, разняволенага пачування ў французскай школе, трагічных філасофскіх глыбінь у нямецкай, — усё гэта ад жыцця, ад нацыянальных каранёў. Каб дасягнуць такога ўзроўню, аднаго "Імпрэса" мала, трэба творчая самастойнасць, пошукі ўласнага стылю. Але гэта — адзіны шлях, іншага няма. І перакапаць у тым магла фестывальная

## ІМПРЭЗА.

Яна была не такой багатай, як у мінулым годзе, ды ўсё ж давала падставу і для эстэтычных назіранняў, і для роздуму. Некаторыя калектывы прыехалі з тымі ж нумарамі, што і раней, на саміх канцэртах таксама былі паўторы, таму існавала магчымасць параўнаць убачанае са сваімі першымі ўражаннямі.

Рускі камерны балет "Масква" паказваў чатыры рознастылёвыя мініяцюры ў харэаграфіі Алены Багдановіч: неарамантычныя "Мроі", "Паралелі" з элементамі брэйка, камічную "Польку-цацку" на мяжы з клаунадай, паганскі "Татэм", які стаў лаўрэатам віцебскага конкурсу годам раней. Аптымістычнае светаадчуванне гэтага харэографа было рэзкім кантрастам да работ нямецкага ўплыву, якія з'явіліся ў калектыве "Правінцыйныя танцы" з Екацерынбурга. Менавіта наконт гэтых пастановак разгараліся дыскусіі — і ў прэс-зале, і ў кулуарах. Асноўным пытаннем было: а ці ж на карысць такая цікавасць да замежнага, нямецкага? Нехта падтрымліваў, нехта заклікаў да пошукаў свайго, нацыянальнага — нехта наогул не ўспрымаў за мастацтва. Згаджаліся толькі ў адным: запрашэнне да працы з калектывам нямецкай выканаўцы і харэографа Крысцін Брунэль адразу прымусіла "правінцыялаў" забыцца на правінцыйны ўзровень.

Вельмі ўразіў французскі стыль Фрэдэрыка Лескюра ды Ізабэлы Ранкаглiё, блізкая да пантамімы пластыка групы "Трое з Вільні". Але больш за ўсё, здаецца, гледачоў і крытыкаў скарылі маленькія выхаванцы школы-студыі "Вольны балет" на чале з Мікалаем Агрызкавым. Іх нумар паўтараўся ў канцэртах тройчы — і заўсёды выклікаў самае гарачае захапленне. А кіраўнік між тым даводзіў зацікаўленым, што ягоная школа — прыватная, платная, за долары, заняткі кожны дзень. Што ж заставалася беларускім падлеткам, якія не могуць штодзённа лятаць у Маскву з мяшкамі валюты? Удзельнічаць у фестывальным конкурсе — і спадзявацца на

## ПРЫЗЫ.

Прынамсі, конкурс праходзіў выключна сярод беларускіх харэаграфічных груп — і гэта таксама было працягам клопату спадарыні Раманоўскай пра нацыянальныя кадры.

Спачатку крыху расчараваў брэсцкі тэатр-студыя "Раёк", які прывёз балет "Дзень нараджэння Інфанты" паводле О. Уайльда. Кожны з герояў спектакля меў яркую вобразную

ЛіМ
ЧАСАПІС

## НЕЗВЫЧАЙНЫ СПЕКТАКЛЬ



**З рамантычнай назвай "Казачны перапалох" паказаў Тэатр гульні Віцебскага гарадскога цэнтра культуры і адпачынку. Акрамя казачных персанажаў, удзельнікамі прадстаўлення сталі і дзеці, якія прыйшлі на спектакль. Аўтарытэтнае журы, якое прысутнічала ў зале, прыняла рашэнне рэкамендаваць віцебскі Тэатр гульні на прысваенне яму звання народнага. Да гэтага тэатр быў лаўрэатам рэспубліканскага, усесаюзнага і міжнароднага конкурсаў забаўляльных і іґравых праграм.**

*На здымку: гледачы сталі ўдзельнікамі спектакля.*

*Фота Аляксандр ХІТРОВА,*

**БЕЛІНФАРМ**

## СУВЕНІРЫ ДА СВЯТА



**Выпуск арыгінальных вырабаў з сімволікай 50-годдзя Вялікай Перамогі засвоены на Брэсцкай фабрыцы сувеніраў. Усяго да гэтай даты тут выпускаецца каля пяцідзесяці назваў розных вырабаў. Гэта дэкаратыўныя падвескі, пано, інкруставаныя шкатулкі. На іх выяўлены ордэны Перамогі і Славы, стылізаваныя фрагменты Брэсцкай крэпасці-героя. Пры стварэнні сувеніраў выкарыстоўваюцца спалучэнні інкрустацыі з роспісам, саломапляценнем, разьбой.**

*На здымку: вядучы мастак Галіна Шацкая (справа) з інкрустатарамі Наталляй Сляпчук і Верай Яцкевіч рыхтуюць юбілейныя сувеніры да серыйнай вытворчасці.*

*Фота Рамана КАБЯКА,*

**БЕЛІНФАРМ**

## "РЭАЛЬНАСЦЬ ДЫ ІНШЫЯ СНЫ"

**Чатыры кінастужкі знанага Аляксандра Клуге (Германія) дэманстраваліся ў Доме літаратара: "Улада пачуццяў", "Артысты пад купалам цырка: бездапаможныя", "Выпадковая работа для рабыні" ды "Патрыётка". Свабодны ўваход дазволіў шмат каму з аматараў кіно і спецыялістам не прамінуць гэтую адметную рэтраспектыву пад назвай "Рэальнасць ды іншыя сны". Падзякі — Нямецкаму цэнтру Гётэ і Беларускай федэрацыі кінаклубаў.**

**П. ГАРДЗІЕНКА**

# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

## АДКРЫТЫ ЛІСТ МІНІСТРУ АДУКАЦЫІ І НАВУКІ ПРАФ. В. І. СТРАЖАВУ

Паважаны Васіль Іванавіч!

У Інстытуце нацыянальнай адукацыі адбыўся "круглы стол", прысвечаны ўвядзенню рускай мовы як другой мовы для вывучэння ва ўсіх першых класах беларускамоўных школ. Выказваючы заклапочанасць сучасным станам развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання ў незалежнай Беларусі, мы абураны дзеяннямі пэўных афіцыйных і неафіцыйных асоб, скіраванымі на тармажэнне і спыненне працэсаў адраджэння і развіцця роднай мовы і нацыянальнай культуры. Ва ўмовах, калі школы зрабілі першыя крокі ў беларусізацыі, толькі намацалі грунт у справе далучэння кожнага дзіцяці да каранёў сваёй нацыянальнай спадчыны, увядзенне ў першых беларускіх класах паралельнага вывучэння — побач з роднай — рускай мовы набывае антыбеларускі, антыпедагагічны, а ўрэшце — і антыканстытуцыйны характар.

І мы, выкладчыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, паспрабуем Вам паказаць, што гэта сапраўды так. Трэба ці не трэба, можна ці няможна, метадычна гэта ці не метадычна ўводзіць дзве паралельныя мовы ў пачатковай школе з першага года навучання, — на гэты конт у спецыялістаў па методыцы і педагогіцы, як вядома, ёсць два пункты погляду: адны з іх выказваюцца на карысць пачатковага білінгвізму, другія — на карысць адной нацыянальнай мовы як платформы фармавання нацыянальнага менталітэту асобы. Мы, аднак, не лічым патрэбным у дадзеным выпадку ўступаць у якую-небудзь палеміку лінгвістычнага характару і станавіцца на бок тых ці іншых навуковых канцэпцый. Бо справа ў дадзеным выпадку цалкам залежыць ад моўнай сітуацыі, і менавіта з улікам рэальнага сацыяльнага статуса беларускай мовы ў сучаснай Рэспубліцы Беларусь гэтая праблема павінна вырашацца.

Калі ўлічыць месца і ролю беларускай мовы ў гісторыі народа і дзяржавы, то тут трэба згадаць найперш, што для Беларусі ў перыяды яе найбольшага палітычна-дзяржаўнага і літаратурна-культурнага росквіту знакам яе патрыятызму і талерантнасці быў менавіта полілінгвізм як норма, як вышэйшы паказчык еўрапеізму і цывілізацыі. Але якраз пры полілінгвізме ў Беларусі XVI стагоддзя ў якасці дзяржаўнай заканадаўча была зацверджана мова беларуская. Мы, навукоўцы, лічым, што прыняцце Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы з'яўляецца слаўным працягам традыцый былой нашай нацыянальнай годнасці і незалежнасці.

Гістарычны лёс, аднак, не мінаваў нашых нацыянальных традыцый, нашай беларускай мовы. Юрыдычна прыярытэтнай, дзяржаўнай наша мова старабеларуская засталася адно да 1696 года, калі польскі сейм адмяніў яе дзяржаўнасць. Дзяржаўнасці наша мова не атрымала і пасля раздзелаў Рэчы Паспалітай і ўключэння Беларусі ў імперыю Раманавых: паланізацыю перакрыла русіфікацыя, якая не страціла сваёй актыўнасці і ў савецкі час. Толькі чатыры-шэсць гадоў у 20-я гады бальшавікі аказаліся нібы спрыяльнымі беларускай мове, аб'явіўшы ў Беларусі так званую беларусізацыю, але чым яна скончылася, сёння вядома ўсім.

Русіфікацыя ва ўмовах сямідзесяцігадовага панавання СССР у Беларусі дала неймаверна пачварны феномен — тую сітуацыю, якую мы сёння маем з мовамі. У сённяшняй Беларусі няма ніякага развітога полілінгвізму, якім ганарылася ў нас XVI стагоддзе. Няма ў нас і развітога білінгвізму, бо развітой, першаўжывальнай застаецца пасля пяцігадовага тэрміну дзеяння закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы толькі руская мова. Праблема выжывання, далейшага развіцця, усталявання прэстыжу беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь застаецца ўсё гэтак жа актуальнай і набалелай, як і пяць гадоў таму назад.

Справа, такім чынам, звязана з моўнай палітыкай у нашай Рэспубліцы Беларусь, з выразным акрэсліваннем і падкрэсліваннем прыярытэту беларускай мовы як дзяржаўнай. Пракламаванне тэзісу "Народ як хоча, так гаворыць" як асноўнага ў дзяржаўнай палітыцы ва ўмовах нашай рэспублікі з'яўляецца антынароднай, антыпатрыятычнай справай. Зрусіфікаваны народ і гаворыць зрусіфікавана, а вяртанне народу яго мовы — гэта і павінна стаць адзінай лініяй у палітыцы дзяржаўнага апарату, калі ён ёсць дзяржаўны апарат народа, калі ён здзяйсняе Канстытуцыю дзяржавы, у якой дзяржаўнай мовай зацверджана мова беларусаў, калі гэты ўрад хоча быць спадкаемцам шматвяковых традыцый нашай зямлі.

Сітуацыя з мовамі ў сучаснай Рэспубліцы Беларусь разам з тым значна ўскладнёна даволі шматлікімі і ваяўніча-безапеляцыйнымі заявамі розных шавіністычна-прарасійскіх груповак і ўвогуле рускамоўнага агулу русіфікаваных беларусаў, якія беларускую нацыянальна-дэмакратычную ідэю працягваюць успрымаць па-бальшавіцку, ледзь не бачаць у ёй нацыянал-фашысцкі дух. Менавіта гэтыя сілы перш за ўсё прапануюць узаконіць у сённяшняй Рэспубліцы Беларусь рускую мову як дзяржаўную, не зважаючы на тое, што такі акт ёсць прысуд беларускай мове як дзяржаўнай, ёсць ва ўмовах сённяшняй Беларусі пераўтварэнне дзяржаўнасці беларускай мовы ў фікцыю.

Мы спадзяёмся, што Вам, спадар міністр, усё гэта вядома. Але мы не маглі Вам аб гэтым усім не нагадаць, бо інакш не было б як наглядна паказаць, што рэальна ў сённяшняй сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь азначае ўвод Вамі рускай мовы як паралельнай у навучанні ў пачатковай школе з першага класа. Гэта азначае, што насуперак рашэнню Вярхоўнага Савета РБ Вы акцэнтуеце беларускую і рускую мову як дзве роўныя дзяржаўныя мовы і гэтым падтрымліваеце антыканстытуцыйную лінію ў моўнай палітыцы, патураеце прыхільнікам савецкага білінгвізму як каланіяльнай дактрыны ў моўнай палітыцы, тым самым даяце ўпэўненасць антынацыянальным сілам у марнасці бесперспектыўнасці высілкаў нацыянальнага адраджэння.

Справа не ў тым, многа ці мала гадзін адведзена ў першых беларускамоўных класах на рускую мову — на так званы "Ручеёк" яе, справа ў прынцыпе: быць у Рэспубліцы Беларусь нацыянальнай адукацыі ці не быць, быць у Беларусі адзінай дзяржаўнай мовай беларускай мове ці не быць. І ўжо згадзіцеся,спадар міністр, што ўвод рускай мовы ў першых беларускамоўных класах нібыта дзеля таго, што яна дапаможа развіццю "красноречия" дзяцей, ці ж не відавочна прыніжае нашу з вамі родную беларускую мову, красамоўную мову Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча.

Заадно ўжо мы павінны Вам сказаць і пра дашкольную адукацыю ў Рэспубліцы Беларусь, у якой мала што змянілася з савецкага часу. Зрухі тут у далучэнні да беларускай мовы, асабліва ў большасці садкоў Мінска, вельмі мізэрныя. Пачатковае ж беларускае кола, на наш погляд, за апошнія пяць гадоў сапраўды ўзяло добры старт на далучэнне маладога пакалення Рэспублікі Беларусь да роднай мовы, і не перабіваць сёння той старт трэба, а ўспамагаць яму хоць бы цераз увядзенне ў дзіцячых садках абавязковай пасады педагога-метадыста па беларускай мове і літаратуры, чаго пакуль у Беларусі няма.

Мы рашуча настойваем і патрабуем:

1. Не ўводзіць у пачатковых класах беларускамоўных школ і класаў рускую мову, паколькі гэта не можа спрыяць арганічнаму працэсу адраджэння роднай мовы, які з вялікімі цяжкасцямі і значнымі перашкодамі толькі-толькі пачынае ўсталёўвацца ў нацыянальнай школе.

2. Паслядоўна і прынцыпова выконваць Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.

3. Патрабуем шматгалоснай афіцыйнай падтрымкі ідэй нацыянальнага Адраджэння ў сферы народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь.

4. Патрабуем недапушчэння публічнай антыканстытуцыйнай абразы нацыянальных святыняў — мовы, гісторыі, нацыянальнай сімволікі.

**А. ЛОЙКА, дэкан філалагічнага факультэта член-карэспандэнт АН Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;**
**Л. БУРАК, загадчык кафедры сучаснай беларускай мовы, прафесар, заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі;**
**У. КАРОТКІ, загадчык кафедры гісторыі беларускай літаратуры, дацэнт;**
**М. ПРЫГОДЗІЧ, загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы, дацэнт;**
**У. ЛАЗОЎСКІ, намеснік дэкана філалагічнага факультэта, прафесар;**
**З. ВАРАНОВІЧ, загадчык кафедры методыкі выкладання беларускай мовы і літаратуры, дацэнт;**
**У. НАВУМОВІЧ, загадчык кафедры беларусазнаўства, дацэнт**
**Л. ШАКУН, доктар філалагічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;**
**П. ТКАЧОЎ, загадчык кафедры рускай літаратуры, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі;**
**І. ШАБЛОЎСКАЯ, загадчык кафедры замежнай літаратуры, прафесар;**
**К. ХРОМЧАНКА, загадчык кафедры славістыкі, дацэнт.**

# ДАЛУЧЭННЕ ДА РЫЛЬСКАГА

— Чаму Беларусь нават у гэты цяжкі час, калі, здавалася б, няма магчымасці годна ўшанаваць сваіх выдатных дзеячаў культуры, выказвае найвялікшую ўвагу і павагу сыну іншага, хоць і братняга, народа? — сказаў-запытаўся, адкрываючы ў Доме літаратара вечарыну, прысвечаную сотым угодкам класіка ўкраінскай літаратуры XX стагоддзя Максіма Рыльскага, доктар філалагічных навук, прафесар Вячаслаў Рагойша. І адказаў: — Найперш, відаць, таму, што ніякія нягоды, крызісы, катаклізмы, на шчасце, не вытруцілі з душы беларуса адну з яе найгалоўных уласцівасцей: умення захапляцца красою як выявай высокай духоўнасці, што надае чалавечаму існаванню сапраўдныя сэнс і мэту. А Рыльскі з'яўляецца адным з найталенавітых еўрапейскіх стваральнікаў гэтае красы ў форме мастацкай літаратуры. Па-другое, украінскі пясняр з выключнай любасцю ставіўся да Беларусі, беларускага народа, яго гісторыі, культуры, мовы. Неаднойчы бываў на нашай зямлі, прысвяціў ёй нямала паэтычных твораў, перакладаў беларускіх паэтаў, сябраваў з многімі беларусамі...

Юбілейная вечарына паэта-акадэміка М.Рыльскага стала яскравай выявай далучэння да ягонай асобы і творчасці ўсіх прысутных на гэтай вечарыне. Пра свае асабістыя дачыненні з вялікім сынам Украіны (знаёмства, гутаркі, перапіску) расказалі народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, старэйшына сучаснай беларускай паэзіі Сяргей Грахоўскі, украінскія паэты Пятро Засэнка і Пятро Гарэцкі, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі, пісьменнік Аляксей Слесарэнка. Свае пераклады на родную мову твораў М.Рыльскага прачыталі Мікола Аўрамчык, Васіль Зуёнак і Сяргей Грахоўскі. Асобныя вершы ўкраінскага песняра гучалі і ў арыгінале — у выкананні артыста Нацыянальнага тэатра імя Я.Купалы Юрася Авяр'янава. Вечарыну ўпрыгожылі выступленні Украінскага хору г.Мінска і фальклорнага гурта "Кірмаш".

Пасол Украіны Уладзімір Жаліба падзякаваў арганізатарам вечарыны, усяму беларускаму народу за цёплае стаўленне і да М.Рыльскага, і да ўкраінскай культуры ў цэлым.

Застаецца дадаць, што вечарына адбылася 21 сакавіка — у дзень 155-й гадавіны з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, якога таксама шанаваў і перакладаў М.Рыльскі.

**В.КАЧАНОВІЧ**

Пошта

# КОЛЬКІ МОЖНА ЦЯРПЕЦЬ?

У адзін дзень я атрымаў два паштовыя пераводы — ганарары за публікацыі ў беларускіх газетах — 11999 руб. і 5999 руб. Толькі чамусьці першы паштовы збор склаў 2401 рубель, а другі — 1201. Як у першым, так і ў другім выпадках пошта рабіла адны і тыя ж аперацыі, але, як бачна, розніца ў першым чамусьці ўдвая перавышае другі перавод. Я б мог зразумець, каб пошта ў два разы хутчэй адаслала мне першы перавод ці асабіста прынесла яго ў маю кватэру. Такога, канешне ж, не адбылося. Падкрэслю, што абодва пераводы з Мінска выйшлі да мяне ў той жа дзень і атрымаў я іх таксама ў адзін і той жа дзень.

Хачу сказаць не толькі пра гэта, а ўвогуле пра работу дадзенага ведамства. Вось ужо трэці тыдзень пастаянна атрымліваю "ЛіМ" не ў пятніцу, як гэта вызначана датай выпуску газеты і як гэта было заўсёды раней, а ў суботу. Часопісы, якія я выпісваю, спачатку бачу ў кіёсках Саюздруку, потым у бібліятэках і толькі нарэшце ў сваёй паштовай скрынцы. Так, напрыклад, "Родная прырода" ў кіёсках Саюздруку з'явілася на тры тыдні раней, чым у мяне. Яшчэ большая розніца здараецца з "Першацветам". З 16.3.95 г. кошт перасылкі карэспандэнцыі зноў у які раз узрос у некалькі разоў. Пошта абдзірае нас усе больш і больш, а працуе, складваецца такое ўражанне, усё горш і горш. Колькі можна цярпець такое?

**М. МАЛІНОЎСКІ**

*г. Баранавічы*

ЛіМ
ЧАСАПІС

## ПРАЗ ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ

**мае адбыцца бенефіс Тамары Міронавай, актрысы мінскага драматычнага тэатра "Дзе-я?" — зразумела, праз трыццаць гадоў пасля першага выхаду на сцэну. 8 і 9 красавіка яна мае намер уразіць гледачоў у спектаклі "Чорт і Баба" Ф.Аляхновіча. На фотаздымку вы якраз і бачыце яе Бабу разам з Чортам Ігара Нікалаева.**



*Фота Аляксея МАЦЮША*

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ДУХОЎНАСЦЬ

**На трох мовах — беларускай, рускай і англійскай — выпушчана кніга "Праваслаўныя святы". Каб з'явілася яна, паруліліся Беларускі Экзархат, Беларускі фонд дапамогі развіццю культуры і выдавецкая фірма "Чатыры чвэрці". Згаданае выданне першае з серыі, што будзе складацца з дванаццаці выпускаў, аб'яднаных агульнай назвай "Нашы духоўныя каштоўнасці". На падыходзе — другая кніга, яна пакуль мае ўмоўную назву "Архітэктура Беларускага Праваслаўя".**

## "НЕБА. ЖЫЦЦЁ. ЛЁС"



**У мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці адкрылася выстава пад назвай "Неба. Жыццё. Лёс". Яна аб'ядноўвае работы двух мастакоў — Марыі Харытончык і Аляксея Аляксеева. Ім абодвум па 35, абодва — інваліды 1 групы па зроку. І хоць лёс не песціў іх, мастакі здолелі захаваць у сабе дабрыню, чалавечнасць, уменне жыць і радавацца жыццю. Іх работы — сведчанне таму.**



*На здымках: мастак з Гродна Аляксей Аляксееў на выстаўцы сваіх работ; карціна А.Аляксеева "Белая варона".*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА,*

**БЕЛІНФАРМ**

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

(*Працяг. Пачатак на стар. 9*)

Дзіўна, але як толькі пачуў я ад маці, дзе яна нарадзілася, у якой хаце, то і сам раптам адчуў, што нібыта і мая пупавіна зарыта там, на стромым беразе Бесядзі. Нават цяпер, калі даводзіцца трапляць у радыяцыйнае Забяседдзе, я знаходжу магчымасць пастаяць пад пракаветнымі дубамі, якія некалі былі сведкамі жыцця адной шматлюднай і дружнай сям'і. Сям'і майго дзеда Ігната Міхайлавіча.

Ад матчынай хаты слядоў няма. Але хіба толькі ў відавочных слядах справа? Ёсць памяць, якая пераходзіць ад аднаго чалавека да другога. Менавіта яна самая моцная з усяго, што з'явілася на гэтым свеце. Яна таксама тчэ аснову жыцця.

## РАЗБОЙНІКІ

Некалі з Гомеля мне прыслаў чалавек фатаграфію, на якой каля плота сядзелі забітыя жандарамі вядомыя ў Беларусі "разбойнікі" — Савіцкі і ягоныя два таварышы. Глянуўшы на яе, я перакінуўся ў памяці на другое відовішча. Вось гэтак жа былі сфатаграфаваны прыхінутыя да плота ў Касцюковічах пасля мінулай вайны Пялінка з Дубінкам. Пра Савіцкага я нарэшце напісаў п'есу, пра Пялінку ж зноў успомніў толькі цяпер, працуючы над матэрыяламі пачатку дваццатага стагоддзя. Вядома, у параўнанне адзін з адным яны не ідуць. Савіцкі сам па сабе жыў і дзейнічаў. Пялінка таксама, дакладней, кожны з іх меў не толькі розныя падставы заняцца разбойніцкімі справамі, але і ўмовы. Як можна было зразумець ужо, Савіцкі зрабіўся вядомы ў нашым краі ў дзевяцьсот пятым-дзевяцьсот сёмым гадах, меў усеагульную падтрымку ў простым народзе. Пялінка ж дзейнічаў пры савецкім ладзе, пасля вайны, значыць, з'яўляўся ягоным ворагам. Пра народную любоў тут гаворкі не магло ісці, бо народ быў ужо запалоханы настолькі, што выяўляць сваю прыхільнасць, калі яна і з'яўлялася, адкрыта не меў магчымасці. І яшчэ адну акалічнасць варта адзначыць — абодвух іх у народзе называлі звыклым імем — разбойнікі, дарма што розняцца ў часе, я кажу, амаль у пяцьдзесят гадоў.

Дык вось пра Пялінку. Нарадзіўся ён недзе ў нашым Забяседдзі, ці то ў Гаўрылінцы, ці то ў Шаблях. Як і ўсе дарослыя — ваяваў. Даслужыўся да старшага лейтэнанта. І дзесьці ўжо ў канцы вайны стаў разбойнікам, вярней, сацыяльным гоем. Няйначай, што гэтае слова найбольш адпавядае сутнасці справы. У кожным разе, яно больш-менш, але даволі трапна замяняе тую рамантычную афарбоўку, якой ахутаны бываюць учынкі і дзейнасць падобных людзей.

Не ручаюся за дакладнасць, аднак пакінуць армію яму давялося выпадкова, хоць, вядома ж, па сваёй дурноце, мякка кажучы. Паехаў старшы лейтэнант Пялінка з невялікай камандай на трох "студабекерах" на далёкія склады па прадукты харчавання, адзенне і спірт для свайго палка. К таму часу ўжо выдыхаліся лютаўскія завірухі. Мяло толькі па начах. Таму на прывалах машыны спыняліся ў вёсках. І той раз начлег быў у вёсцы. Але цяпер салдаты панапіваліся спірту, які везлі ў "студабекерах", можна сказаць — балявалі з мясцовымі дамамі ўсю ноч, у тым ліку, зразумела, што і камандзір, а калі схапіліся назаўтра ехаць, машыны ў дварах стаялі разрабаваныя. Ды так, што мала чаго пад тэнтамі захавалася. Усё роўна, як хтосьці сачыў за імі ў дарозе і цяпер вось нарэшце рашыўся напасці. Пошукі парабаванага ў вёсцы нічога не далі, нават сляды былі занесены снегам. У вайсковую часць давялося вяртацца на пустых "студабекерах". Ну а там — адразу пад арышт. Пакуль трыбунал разглядаў справу, у Пялінкі саспела задума падацца ва ўцёкі. З ім згадзіўся пакінуць часць толькі адзін салдат, Дубінка. Астатнія падрыхтаваліся ў штрафную роту. Так і хадзілі яны ажно колькі гадоў па Забяседдзі ўдвох. Пялінка і Дубінка. З аўтаматамі, у вайсковай форме, але без знакаў адрознення.

Мясцовае начальства, якое складала савецкую ўладу, у тым ліку і раённую, баяліся Пялінкі. Звычайна ён знаходзіў кожнаму адпаведнае пакаранне. Але на забойствы ўсё-ткі не ішоў. Ахвяры толькі і здараліся тады, калі разбойнікі траплялі ў які-небудзь пераплёт, які не абыходзіўся без перастрэлкі. Простага народу Пялінка не чапаў. Гэтак жа паводзіў сябе з вясковымі людзьмі і яго паплечнік Дубінка. Праўда, карміліся яны за кошт сялян. Бралі таксама вясковыя магазіны, дзе часцей можна было натрапіць на гарэлку ў драўляных бочках. Тады Пялінка збіраў мужыкоў з усяе вёскі, прымушаў піць. Бывала, што пасля яго вакол таго ці іншага магазіна заставаліся ляжаць дзядзькі ўпокат, зусім п'яныя, дык добра, калі ўлетку, а зімой? Словам, хапала і смеху і грэху!..

Мне давялося пабачыць Пялінку два разы. Але адзін, як мімаходам; запомнілася другая сустрэча. Была глыбокая восень. На вуліцы — хоць вока выкалі. Мы ў той час яшчэ жылі ў зямлянцы, хаты не паспелі паставіць. Мы ўвогуле пасля пажару ў сорак трэцім годзе на наступную хату ўзбіліся толькі недзе на пачатку пяцідзесятых гадоў, калі я хадзіў за восем кіламетраў у Саматэвіцкую дзесяцігодку. У тую ж восень жылі ў зямлянцы. Маці з малодшымі маімі сёстрамі і братам ужо спалі; старэйшы, што нада мной, брат якраз вучыўся на трактарыста ў Канічах, яго не было дома. А я, запаліўшы каганец, чытаў на тапчане "Аповесць пра сапраўднага чалавека" Барыса Палявога, якая выйшла ў "Раман-газеце". Мне даў яе пачытаць адзін вялікаборскі кніжнік, Хведар Свірыдзёнак, які працаваў у раёне каморнікам. Ён увогуле шмат прыносіў мне з Касцюковічаў кніг, бо сваёй бібліятэкі ў вёсцы яшчэ не было. І вось я, лежачы на тапчане перад каганцом, чытаў "Аповесць пра сапраўднага чалавека". Звонку штосьці загрукала раптам. Пачуўся тупат ног. Дзверы мы не зачапілі яшчэ на кручок, таму людзі ў зямлянку зайшлі самі. Адзін, другі, трэці. Апошні сеў на лаўку каля прыпечку, куды не даставала святло ад каганца, два другія прайшлі далей. Селі на покуце. Я не спалохаўся. Пры партызанах ды немцах даводзілася бачыць усякае. У тым ліку і людзей з аўтаматамі. Гэтыя ўдвох таксама мелі пры сабе аўтаматы. Каму быць, падумаў я, калі не Пялінку? Ён быў у афіцэрскай фуражцы з бліскучым брыльком, у хромавых ботах, у дыяганалевых галіфэ. Гімнасцёркі пад зялёнай ватоўкай не відаць было. Аўтамат з круглым дыскам ён паклаў на калені. Паплечнік яго мала чым адрозніваўся. Можа, адным тварам. Бо нават рухі паўтараў. Але на адной руцэ ў яго не было пальца. Здаецца, на правай.

— Што чытаеш? — спытаў мяне Пялінка; а я ўжо сапраўды здагадаўся, што гэта ён.

Я паказаў кніжку.

— Цікавая? — узяў ён яе.

— Так. Пра вайну, — сказаў я.

— А якія кніжкі яшчэ ёсць у цябе? — спытаў ён.

Я дастаў з пяколка "Вайну і мір" Талстога ў цвёрдай, нібыта металічнай вокладцы.

— Дык яшчэ ж рана чытаць табе!?

— А я люблю, — тым не менш сказаў я.

Хацелася ўгледзець, хто сядзеў у зямлянцы ў самым цені. Я быў падаўся наперад, але чалавек прыкрыўся левым вухам салдацкай шапкі. Наводчык, падумаў я. Між тым час ішоў. Недзе кукарэкалі ўжо першыя пеўні. Ніхто ў зямлянцы не прачынаўся, хоць я ведаў, што маці наўрад ці спіць. Нарэшце Пялінка падняўся.

— Трэба ісці, — сказаў ён, — бо ваўка ногі кормяць. — Прыстояў, тады спытаў: — Што табе прынесці наступны раз?

— Цікавую кніжку.

— Што ж, можна і кніжку. Але ў цябе вось парваныя штаны? — Ён паказаў на маю дзіравую калашыну.

— Ат, — сказаў я. — Іх маці не паспявае лапіць!..

— Значыць, патрэбны новыя, — як пра нешта вырашанае сказаў Пялінка. — Добра, прынясу табе штаны.

Я не адмаўляўся.

Пялінка першы рушыў да дзвярэй. За ім Дубінка, павесіўшы аўтамат на плячо. Апошнім выходзіў з зямлянкі чалавек, які прасядзеў увесь час моўчкі, хаваючы свой твар. Па шапцы ж пазнаць яго немагчыма было. Тады мала хто з вясковых мужыкоў не насіў салдацкія шапкі.

Прызнацца, я чакаў, што Пялінка не так сабе гаварыў пра штаны. Мне вельмі патрэбны былі яны, бо ў тую восень у школу давялося ісці ў пафарбаваных споднях. А ўзімку пайшлі чуткі, што Пялінку з яго паплечнікам злавілі. Дакладней, забілі, выставіўшы напаказ у раённым цэнтры. Акурат як некалі ў Гомелі Савіцкага. Людзі раптам адкрыта загаварылі. Знайшлося шмат пакрыўджаных, нібыта Пялінка іх абрабаваў. І ўжо ніхто не называў яго ні дэзерцірам, ні разбойнікам. Толькі бандытам, услед за ўладамі.

Высветлілася таксама, як быў знішчаны Пялінка.

Аказваецца, недзе за Машавой у яго была палюбоўніца. Яе вось і ўзялі ў апрацоўку аператыўныя органы. Нарэшце было змоўлена, што ў наступны раз, калі Пялінка са ваім паплечнікам наведаецца да яе, яна падрыхтуе лазню, а тады наладзіць у хаце пачостку. Пры гэтым нават сігналы былі абгавораны. Жанчына павінна была выйсці з пярэдняй палавіны хаты ў заднюю, сказаўшы: "Забыла прынесці цыбуліну". Ну а аператыўныя работнікі даробяць усё астатняе — паласнуць з аўтаматаў па ейных гасцях з засады, дакладней, з падпечча, куды яны залезуць зараней. Уласна кажучы, па задуме і выйшла. Пялінкава палюбоўніца, сказаўшы пра цыбуліну, знікла за парогам тыльнай палавіны хаты, а тым часам з падпечча пачуліся аўтаматныя чэргі...

Была ў мяне сустрэча з разбойнікамі і ў другім месцы, за Друццю, у Бялыніцкім раёне. Папраўдзе, тых людзей цяпер усё-ткі не хочацца называць бандытамі, хоць сам я вялікага адрознення не бачу паміж назвамі. На пачатку пяцідзесятых гадоў я вучыўся ва універсітэце, а ў тое лета знаходзіўся на практыцы ў "Магілёўскай праўдзе". Загадчыкам сельгасаддзела ў газеце быў чалавек сур'ёзны, няйначай, ён мяне недалюбліваў, бо чамусьці ганяў па камандзі-

# ВАКЗАЛ НЕ ДЛЯ ДВАІХ

(*Працяг. Пачатак на стар.5*)

Чую і сакраментальнае пытанне: "Куды глядзіць міліцыя, чаму не змагаецца з гэтымі пачварнымі з'явамі?" Глядзіць, паважаныя спадары, ды нічога зрабіць не можа, бо няма ў нас закона, які б вызначаў меру адказнасці за прастытуцыю. Ды і прававога вызначэння прастытуцыі няма. Гэта жанчына, што бярэ за "любоў" грошы? Па-першае, не злоўлены — не злодзей. Па-другое, чаму абавязкова за грошы? А калі за пачак цыгарэт? Адным словам, за падарунак.

І яшчэ пра норавы, што працвітаюць у раёне вакзала. Я маю на ўвазе "дзівосы на калёсах", што адбываюцца ў мужчынскім туалеце, размешчаным у аўтавакзале "Цэнтральны", на процілеглым ад таго "пятачка" баку Прывакзальнай плошчы. Міліцыянеры ахрысцілі гэтае месца агульнага карыстання "Блакітным аазісам", бо тут рэгулярна тусуюцца мужчыны з, як бы гэта лепей сказаць, "асаблівай сексуальнай арыентацыяй". Тут яны заводзяць знаёмствы, тут аддаюцца сваім спецыфічным уцехам, якія, часам, па словах маёра Грышчанкі, пераходзяць усе межы дазволенага нават для гомасексуалаў. "І што загадаеце з імі рабіць?" — пытаецца ён. — Фармальна парадку яны не парушаюць, ды і публіка гэта, каб вы пабачылі, з выгляду самая што ні ёсць рэспектабельная — пры капелюшах і гальштуках, ды і пры вялікіх пасадах..."

Не меншы галаўны боль у мясцовай міліцыі і ў вакзальнага начальства — ад бамжоў, што атабарыліся тут. Праўда, час ад часу іх забірае міліцыя, адпраўляе ў прыёмнік, дзе іх, памыўшы, пачысціўшы ад паразітаў, зноў выпускаюць "на волю". У людзей гэтых няма ні жытла, ні дакументаў, усе яны хранічныя алкаголікі, ніякія дамы прытулку прымаць іх не хочуць. Вось яны і падпіраюць вакзальныя сцены, распаўсюджваючы вакол смурод і вошы. Калі мець на ўвазе, што вакзал — ці не адно з самых людных месц у горадзе, можна сабе ўявіць, якая крыніца распаўсюджвання самай небяспечнай інфекцыі крыецца ў тым бамжу, як правіла, чалавеку хворым.

...У ГЭТЫХ нататках я ўвесь час паўтараю слова — вакзал. А, ведаеце, вакзала ж у Мінску няма. Той, што быў, знеслі, а новага не пабудавалі і невядома калі пабудуюць. Я даведаўся, што існуе арганізацыя, якая называецца: "Дырэкцыя будуемага вакзала". Я завітаў туды, гутарыў з галоўным інжынерам будоўлі Артурам Максімавічам Галачовым, які расказаў мне досыць сумную гісторыю, што насіла прыкметы, характэрныя і для савецкага, і для постсавецкага нашага ладу. Калі ва ўрадавых колах рэспублікі яшчэ ў канцы сямідзесятых гадоў выспела рашэнне на месцы старога вакзала, які, палічылі, ужо не адпавядае двухмільённаму гораду, пабудаваць новы, праект яго заказалі ў адным Маскоўскім інстытуце, які, як неўзабаве аказалася, выдаў "халтуру" — праект быў нікуды не варты. Але пакуль што да чаго яго... пачалі ажыццяўляць. Пабудавалі вышынны адміністрацыйны будынак, якім незадаволены сёння, здаецца, усе яго насельнікі. "Больш нязручнага памяшкання, — паскардзіўся мне Артур Максімавіч, — я ў сваім жыцці не сустракаў". Пабудавалі і так званы канкорс — залу чакання, — вялізнае архітэктурнае страшыдла на нагах-апорах і з некалькімі галерэямі-спускамі на чыгуначныя платформы. Спускацца па іх, вядома, не праблема, праблема падымацца пешшу недзе на вышыню пятага-шостага паверха, ды з грузам у руках — праклянеш усё на свеце. Праўда, галерэі абсталяваны эскалатарамі, якія вельмі падобныя на сапраўдныя, толькі — не працуюць. "І ніколі не запрацуюць, — "супакоіў" мяне галоўны інжынер, — бо яны адпачатку канструктыўна недасканалыя".

У сваіх ацэнках таго канкорсу Артур Максімавіч не вельмі разыходзіўся з начальнікам вакзала У.Грыгаровічам. Праўда, той акцэнтаваў маю ўвагу крыху на іншай праблеме, думаецца, не менш складанай, чым тыя спускі-галерэі з непрацуючымі эскалатарамі.

роўках, да таго ж самых цяжкіх. У журналісцкай практыцы сапраўды бываюць камандзіроўкі цяжкія і лёгкія. Дык мне якраз трапляліся цяжкія. Помню, як у Быхаўскім раёне мне, быццам следчаму, давялося шукаць бочку са сметанковым маслам, якое перапрадавалі шмат якія гаспадаркі дзеля выканання даведзенага дзяржавай плана. У Бялынічы ж, пасля і ў Эсміны, паехаў я з іншым заданнем. Таксама трохі фельетонным.

На машынах у тыя гады журналісты яшчэ не ездзілі. Добра, калі траплялася якая паўтаратонка падарожная. А так — пешкі ды пешкі, можа, іншы раз на кані пашанцуе. У Эсьмоны я таксама рушыў на сваіх дваіх. Уранні перайшоў брод на Друці, ступіў праз паплавы ў лес, які, мне сказалі ў бялыніцкай гасцініцы, дастае тут да самае Бярэзіны. Праўда, там жа, у гасцініцы, і спыталі неяк няцямліва:

— Чаму раптам у Эсьмоны?

Гэта пасля ўжо, бадай, гадоў праз дваццаць, зразумелай стала тая чалавечая няцямлівасць, калі ў адной з кніжак прачытаў, што апошняя пасляваенная антысавецкая банда была ліквідавана ў эсьмонскіх лясах якраз у той час. А пакуль што да чаго, я спяшаўся выканаць камандзіровачнае заданне для абласной газеты. Тады ўжо, здаецца, захапляліся кукурузай, вядомая справа, смяяліся паціху, а то і адкрыта з Хрушчова, шкадуючы добрыя землі, якія адводзілі пад яе, а яна тым не менш шмат дзе сягала вышэй чалавечага росту. Грэбліва, але ў калгасах і саўгасах паступова прывыкалі да незнаёмай земляробчай культуры, кармілі жывёлу, закладвалі на зіму. Мы ў сваёй вёсцы саджалі яе і раней, аднак толькі на гародах, усяго як акрасу, і называлі пачаткі кіёўкамі, кіяхамі, можа, таму, што прыйшла яна да нас з Украіны. А я любіў спажываць тыя кіяхі ў васковай спеласці, быццам сапраўдны ласунак. Ва ўсякім разе, праблемы паесці ў камандзіроўцы для мяне таксама не складала. Між тым, стрэчных людзей па тых дарогах не было. Лясную цішыню толькі і парушалі, што птушкі, якія выпырхвалі, трапечучы крыламі, з блізкіх кустоў, дзе ў той год нарасло багата ягад; чарніцы віселі на чарнічніку нават у верасні, дарма што даўно ўжо асыпалася лісце. На смак яны былі яшчэ зусім салодкія, як і месяц назад, калі паспявалі. Сам я чалавек лясны, таму лесу не баяўся, адчуваў сябе ў ім вольна, прынамсі, жахі не ўзнікалі нават ва ўяўленні.

І вось недзе ўжо на паўдарозе ў Эсьмоны ўбачыў паперадзе сябе веласіпед, які ляжаў упоперак каляінаў, загароджваючы далейшы шлях. Я адразу здагадаўся, што нехта знарок гэта зрабіў, кінуў позірк направа, налева. Пад таўшчэзнай бярозай па левы бок ад дарогі сядзеў чалавек у скуранцы, з аўтаматам. Выгляд ён меў чарнявы, твар яшчэ зусім малады, дарма што няголены. Усё роўна як лянiва пазіраў чалавек на мяне з нейкай зласлівай усмешкай, аднак маўчаў і не кратаўся. Мне б, відаць, варта было спыніцца перад ягоным веласіпедам, а я не стаў гэтага рабіць, паспрабаваў абысці па абочыне. Аднак чалавек пад бярозай зварухнуўся, затрымаў:

— Хто ты?

Усцешанасці ад нечаканай сустрэчы, вядома, ніякай. Але я не стаў вадзіць за нос яго, каб не заблытацца пасля самому:

— У камандзіроўку іду ў Эсьмоны. Ад абласной газеты.

Вочы ў чалавека ў скуранцы ўсё роўна як успыхнулі, ён тут жа ускочыў на ногі.

— Дакументы! — ужо загадаў ён.

У мяне было з сабой часовае пасведчанне, і я дастаў яго.

— А-а, студэнт? — сказаў чалавек.

— Так.

— А што цябе цікавіць у Эсьмонах?

Я адказаў.

Тады чалавек падняў з дарогі веласіпед, крутануў яго ў руках, паставіўшы перадам у адваротны бок.

— Пойдзеш са мной, — сказаў ён зноў тонам загаду.

У тым месцы пачыналася імшаная балацявіна, да якой падступалася маладая пасадка сасны. А ў такіх выпадках звычайна паміж расце бярэзнік, апаясваючы балацявіну. Вось па гэтым бярэзніку мы і пайшлі. Спярша я, акурат пад канвоем. Але не доўга, бо я не ведаў дарогі. Таму чалавек з веласіпедам і аўтаматам неўзабаве моўчкі выйшаў наперад, павёў мяне за сабой. Дзіўна, аднак хвалявання я не адчуваў, дарма што здагадваўся, з кім звёў мяне лес. Урэшце, студэнт гэта яшчэ не пастаянны супрацоўнік рэдакцыі, як кажуць, са студэнта ўзяткі гладкі. Хоць храбрыцца таксама не выпадала. І толькі цяпер я нарэшце зразумеў, чаму ў гасцініцы на мяне талопілі вочы, даведаўшыся, куды накіроўваюся. Ды што цяпер зробіш — чаму быць, таго не мінаваць.

Нарэшце, мы падышлі да зямлянкі на выспе. Мой праважаты, а дакладней — канвойны, прыхінуў да бярозы веласіпед, загадаў мне пачакаць, а сам знік у зямлянцы. Не прамінула і хвіліны, як ён зноў паявіўся на паверхні.

— Ідзі, — паказаў мне на ўваход у зямлянку.

Я ўвайшоў. Вакенца ў зямлянцы было адно, таму гарэла на стале керасінавая лямпа. За сталом сядзеў другі чалавек у скуранцы. Пры ім ляжаў аўтамат з ражком, фуражка з сінім брыльком. Чалавек глядзеў на мяне з непадробнай цікавасцю, але зусім не жорстка, здаецца, нават з усмешкай. Спытаў:

— Дык ты з газеты?

— Так. Студэнт, на практыцы ў Магілёве.

— А вучышся ў Мінску?

— Так.

— Есці хочаш?

— Не, — сказаў я, хоць калі і які студэнт адмаўляецца ад жратвы?

Няйначай, чалавек не паверыў мне, усміхнуўся.

— Ты не саромся, — сказаў ён. — У нас кансервы ёсць і хлеба хапае.

— Не, — сказаў я зноў. — Не трэба.

— А чаму вас вучаць там, на аддзяленні журналістыкі?

— Ну, прыкладна таму ж, што і на філфаку. Нават стараславянскай мове. Праўда, чытаюць гісторыю журналістыкі, выкладаюць стылістыку...

— Цікава?

— Так.

— А мне вось не давялося davучыцца. Пішаш вершы?

— Так.

— Пачытай.

І я напружыўся, пачаў прыгадваць, што помню.

— Чытай, чытай, — падахвочваў ён.

Вершы мае па тым часе былі казённыя. Пра будаўніцтва электрастанцыі на Бесядзі, пра высокія калгасныя ўраджаі. Дзіўна, але ён слухаў, можа, яго зачароўвалі рыфмы, а яшчэ тое, што перад ім стаяў чалавек, які здольны зводзіць іх у адно. Між тым, быў у мяне тады адзін верш пра каханне. Я прачытаў таксама яго. Ён пахваліў, сказаў, што гэта вечная тэма.

— Ну а высокія ўраджаі!.. — паморшчыўся ён. — Ладна, я цябе адпускаю. Калі зноў будзеш у нашых краях, то заходзь. Будзем рады.

Здавалася б, нічога асаблівага не адбылося. Але пасля таго, як выйшаў з зямлянкі, раптам адчуў, што ў мяне падкошваюцца ногі... Відаць, гэтыя двое якраз і былі з тае "банды", якую зліквідавалі органы дзяржаўнай бяспекі ў Беларусі апошняй.

Але чаму прыйшло ў галаву пісаць тут пра сацыяльных гояў?

*(Працяг будзе).*

Аказваецца, пабудавалі гэты канкорс, дзе ў зале чакання "накапліваецца" больш за тысячу пасажыраў, без... туалета. "Сёння гэта ці не самы вялікі мой галаўны боль, — скардзіўся мне Уладзімір Аляксандравіч і твар яго пры гэтым выказваў непадробны смутак. — Праўда, у нас развешаны ўказальнікі знаходжання бліжэйшых туалетаў — на вуліцы Дружнай, у скверы на Бабруйскай, на аўтавакзале "Цэнтральны", але гэта не вырашае праблемы". Сапраўды, не вырашае. Не выратоўвае, так сказаць. Нават для мінчаніна, які не жыве ў гэтым раёне, цяжка зарыентавацца ў тых указальніках, не кажучы ўжо пра чалавека, які толькі што прыехаў у горад.

А што казаць пра турыстаў? Я неаднойчы чуў, што самы вялікі шок, стан, блізкі да калапсу, перажываюць замежныя турысты, выхаваныя на дэзадарантах, туалетнай паперы і аптэчнай чысціні ў месцах агульнага карыстання, наведаўшы аналагічныя "аб'екты" ў нашай благаслаўлёнай краіне, наогул ва ўсім былым СССР, акрамя, бадай, рэспублік Балтыі.

Дальбог, каб быў дэпутатам Вярхоўнага Савета, дык выступіў бы з прапановай у заканадаўчым парадку абавязаць адпаведныя міністэрствы тэрмінова пабудаваць у краіне хоць бы, па першым часе, сотню туалетаў агульнага карыстання. Перафразуючы вядомы лозунг Астапа Бендэра, я гатовы ўсклікнуць: "Ударым цывілізаваным сарцірам па нашым бескультур'і!"

Але вернемся да таго, пра што мы размаўлялі. Будзе ў Мінску новы вакзал ці не будзе? Адкажам так: павінен быць. Паводле слоў Артура Максімавіча, той маскоўскі праект адкінулі ("Колькі на яго ўгробілі грошай, — сказаў ён мне, — лепш не пытайцеся") і заказалі новы ў інстытуце "Мінскпраект", які ўжо амаль гатовы і паціху здзяйсняецца. Паціху таму, што амаль спынена фінансаванне будоўлі. "У гэтым годзе, — кажа Галачоў, — Мінфін яшчэ не выдзеліў ні капейчыны". Ён падводзіць мяне да вакна, і я бачу на месцы, дзе стаяў некалі стары вакзал, глыбокі катлаван, у якім выведзены два падземныя паверхі будучага будынка. Так званы "нулявы цыкл". Усё астатняе — з галіны мар і фантазій. Як у тым вершы Маякоўскага: "Здесь город будет, здесь саду цвесть!.." Дай бог, каб не было, як у тым анекдоце, дзе гэтыя радкі вымаўляюцца з запытальнай інтанацыяй.

Артур Максімавіч вядзе мяне ў кабінет дырэктара, дзе ладны кавалак сцяны займае малюнак новага вакзала. Фантастыка! "Горад сонца" Кампанелы! "У аздобе яго будуць шырока ўжыты мармур і граніт, вітражы, спецыяльнае шкло", — з непрыхаваным гонарам апавядае галоўны інжынер. "І колькі вы просіце за ўсё гэта?" — пытаюся я, нібы гатовы дастаць кашалёк і расплаціцца з ім за ўсю гэтую прыгажосць. "Нямнога, — прымае гульню Артур Максімавіч. — 355 мільёнаў рублёў у цэнах 1991 года". "А ў цэнах 1995-га?" — удакладняю я. "А памножце прыкладна на 4 тысячы", — тлумачыць галоўны інжынер.

Гэта мне ўжо яўна не па кішэні. Як, відаць, і ўсім разам узятым маім суграмадзянам.

**Міхась ЗАМСКІ**

# ДАЎСЯ ЗАПРЭГЧЫ, ТО ДАСІСЯ І ПАГАНЯЦЬ

Аніякавата стала, калі, чытаючы паведамленне камісіі па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, спатыкнуўся на імёнах трох вядучых "Радыёфакта". За падрыхтоўку перадач гэтай праграмы яны дапушчаны да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне прафсаюзнай узнагароды 1995 года. Добра, падумалася, што ў спісе значацца яшчэ два кандыдаты на адзіную прэмію ў галіне журналістыкі, кожны з якіх напісаў серыю артыкулаў па вельмі важных і актуальных пытаннях нашага жыцця. Скажу без хітрыкаў: я за тое, каб лаўрэатам яе стаў хтосьці з іх.

"Чаму такая няміласць да папулярных радыёжурналістаў? — спытае сёй-той. — Няўжо ж ім не хапае прафесіяналізму ці здольнасцей?". Не, справа не ў гэтым. Ёсць у В. Радуцкага, А. Швайко і А. Шаўко і тое, і другое. Ёсць, аднак жа, і сур'ёзныя заганы, што, баюся, камісія па прэміях можа пакінуць без увагі, калі на яе працу паўплывае палітычная кан'юнктура. Але пра гэта ніжэй, а зараз — невялікі экскурс у недалёкае мінулае.

Нагадаю: "Радыёфакт" на ўвесь голас заявіў пра сябе пасля правалу жнівеньскага путчу 1991 года і падтрымліваў неблагую рэпутацыю амаль цэлы год. Нас слухаюць усе, хіба акрамя дашкольнікаў, сцвярджалі арганізатары і вядучыя праграмы падчас гутаркі, надрукаванай у "Звяздзе" 19 мая 1992 года. І яны не дужа перабольшвалі. Памятаю, як мы, хто кожную раніцу прыходзіў на стадыён, каб пабегаць трушком, імкнуліся паспець дадому да пачатку перадачы.

У тым інтэрв'ю распавядалася таксама, чаму яна стала папулярнай. "Аперыруючы фактам, — чытаў у газеце, — мы не зважаем, каму ён можа пашкодзіць, а каму пойдзе на карысць. Нам не важна, чыімі дзеяннямі гэты факт народжаны — апазіцыі ці былой партнаменклатуры, у адной перадачы ў нас ідзе ўсё, адлюстроўваючы шматбаковасць сённяшняй сітуацыі ў рэспубліцы і за яе межамі".

Фантастыка? Ды не, журналісты мелі рацыю (толькі ці не сталі б у іх валасы дыбам, калі б перачыталі гэта цяпер?). Праўда, і тады не абыходзілася без хібаў, але мне, напрыклад, неабавязкова было вечарам слухаць навіны "Радыё "Свабода", бо галоўныя з іх, у тым ліку і факты, звязаныя з крытыкай дзяржаўнай палітыкі, барацьбой працоўнага люду за свае правы, я ўжо ведаў зранку дзякуючы вядучым "Радыёфакта". Вось тады яны, сапраўды, заслугоўвалі падзякі.

Сёння ж ад інфармацыйнай праграмы ўзору 1991—1992 гг. засталіся, мне здаецца, рожкі ды ножкі. Крок за крокам здаваліся ранейшыя пазіцыі, усё ніжэй спускалася планка галоснасці і дэмакратыі. Журналістаў падштурхоўвалі на гэта спачатку В. Кебіч і яго людзі, а цяпер тое ж робіць з яшчэ большай бесцырымоннасцю А. Лукашэнка са сваімі супольнікамі.

"Радыёфакт", зразумела, не выключэнне: наступ вёўся і вядзецца шырокім фронтам, на ўсе сродкі масавай інфармацыі. Аднак жа, калі, напрыклад, журналісты "Беларускай маладзёжнай" рашуча пратэставалі супраць грубага парушэння законаў і прынцыпаў свабоды слова, дык "радыёфактаўцы", відаць, пакорна маўчалі. Прынамсі, шырокай грамадскасці нічога невядома аб якім-небудзь іх процідзеянні самадурству наваспечаных цэнзараў. Што ж, як кажуць, "Даўся запрэгчы, то дасіся і паганяць"...

Не ведаю, ці лічаць "радыёфактаўцы", што яны, як і тры гады таму, усё яшчэ "змагаюцца за ўвагу слухачоў". Затое ўпэўнены: прыхільнасць апошніх нельга здабыць прыслужніцтвам далёкаму ад народа начальству. Няхай не крыўдзяцца за рэзкія словы журналісты: іх перадачы часцяком выклікаюць пачуццё гаркоты і прыкрасці. Гэта тады, калі яны ўбіваюць нам у галовы афіцыйную хлусню і прапагандысцкія міфы, наводзяць цень на палітычных апанентаў уладных структур, калі глядзяць на ўсё навакольнае вачыма прэзідэнта. У маладасведчаных слухачоў ствараецца ўражанне, што беларусам, з аднаго боку, непатрэбны ні суверэнітэт, ні родная мова, ні ўласная гісторыя, а з другога — аніяк не абысціся без самай шчыльнай апекі ўсходняга суседа.

Разумею, што прафсаюзы вылучаюць эканамічныя, а не палітычныя патрабаванні, першнаперш клапоцяцца (на справе ці на словах — гэта тэма асобнай размовы) аб тым, каб спыніць збядненне працоўных. Але і пра гэтыя іх справы інфармацыя ідзе ў эфір вельмі сціплая, я б сказаў, праз зубы. Нават студзеньская агульна-рэспубліканская акцыя пратэсту, як толькі яе зганіў кіраўнік дзяржавы, стала для інфармацыйнай праграмы трэцяраднай падзеяй, пра якую і гаварыць няма чаго. Нельга забываць і на тое, што пакуль у нас будуць таптаць прынцыпы свабоды слова і іншыя палітычныя правы грамадзяніна, прафсаюзы не здолеюць эфектыўна ўплываць на палітыку ўрада ў пытаннях той жа сацыяльнай абароны насельніцтва.

.. Перш чым кончыць гэтую размову, надумаў паслухаць яшчэ адну перадачу "Радыёфакта". І нечакана пачуў усхваленні і ўслаўленні ў гонар яе чатырохгоддзя. Спачатку сам "бацька" зноў прызнаўся ў любасці да праграмы, а ўслед яму сваю пашану выказалі ёй прэм'ер-міністр і генеральны пракурор краіны. Нічога дзіўнага ў гэтым не ўбачыў: яшчэ паўтара стагоддзя таму рускі байкапісец дакладна адказаў на пытанне "За что же, не боясь греха, кукушка хвалит петуха?"

Што тычыцца лідэраў ці проста сяброў дэмакратычных партый і рухаў, іншых радыёслухачоў, якія лічаць за лепшае называць рэчы сваімі імёнамі, дык для іх і ў "юбілейнай" перадачы не была знятая інфармацыйная блакада, ажыццяўляемая "Радыёфактам" асабліва пільна пасля прыходу да ўлады "ўсенароднa выбранага". Кіраўніку ж Федэрацыі прафсаюзаў дазволілі далучыцца да хору афіцыйных пахвал (мабыць, падумалася мне грэшным чынам, у знак удзячнасці за магчымую прэмію?). І У. Ганчарык, трэба аддаць яму належнае, няблага ўпісаўся ў той хор.

Дык што ж, у рэшце рэшт, атрымліваецца? Згодна з лукашэнкаўскім пастулатам, журналісты не маюць права "за государственные деньги критиковать государственную политику". Вядучыя "Радыёфакта", як і жонка Цэзара, вышэй падазрэнняў: свой інтэлект яны фактычна паставілі на службу тых, хто пры ўладзе. А афіцыйныя прафсаюзы пакуль што не заўсёды падтрымліваюць эканамічную палітыку ўрада, але чамусьці заахвочваюць памянёных вядучых.

Цяжка знайсці тут логіку. Бадай, таму нагадалася сёе-тое з літаратуры. Напрыклад, бессмяротная камедыя К. Гальдоні "Слуга двух гаспадароў". Або выказванні "отца всех народов" наконт цэлай арганізацыі — савецкіх прафсаюзаў: "приводы", "приводные ремни", "рычаги". Самі сабой паўсталі і асацыяцыі...

Каб Бог даў памыліцца мне. Каб нашы прафсаюзы не былі "ремнями", а журналісты — "подручными" якога-небудзь уладалюбца з бальшавіцкімі замашкамі.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

*г. Мінск*

# ЁН НАРАДЗІЎСЯ НА СВІТАННІ...

А меў прозвішча Стэповіч, зваўся Кастусём. З'явіўся ў той час, калі толькі рабіліся першыя захады па абуджэнні нацыянальнай свядомасці, якія неўзабаве ператварыліся ў ярка выражаны адраджэнскі працэс. Сярод тых, хто актыўна, наступальна рухаў яго наперад, быў і ён — каталіцкі святар Кастусь Стэповіч, ён жа пісьменнік Казімір Сваяк. Менавіта ён першым пачаў весці набажэнства ў касцёлах па-беларуску, акрамя таго ўжо ў 1915 годзе стварыў сем беларускамоўных школ. Ды, на жаль, нядоўгім быў жыццёвы шлях гэтага апантанага беларуса. Лёс адвёў яму ўсяго 36 гадоў, звялі яго ў магілу сухоты, ці не пастаянная хвароба тых, хто быў моцны духам, але заставаўся слабым фізічна.

Нядаўна споўнілася 105 гадоў з дня нараджэння К. Сваяка. Гэта нагода не толькі добрым словам успомніць аднаго з барацьбітоў за нацыянальную ідэю, але і паразважаць над тым, якім цяжкім быў, ёсць (ды, відаць, будзе) шлях беларусаў да Беларусі.

Акурат гэтыя матывы і сталі ці не асноўнымі ў час вечара, прысвечанага 105-м угодкам з дня нараджэння К. Сваяка, што праходзіў у Доме літаратара. Выступоўцаў было нямала і ўсе з тых, хто сёння не на словах, а на справе змагаецца за беларускасць, тым самым працягваючы добрую справу добрых людзей, сваіх папярэднікаў.

Словы пра К. Сваяка і яго час, пра незваротнасць сённяшніх адраджэнскіх працэсаў гаварылі дырэктар Скарынаўскага цэнтра А. Мальдзіс, старшыня рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Г. Сурмач, пробашч касцёла Святых Сымона і Алены У. Завальнюк, старшыня беларуска-каталіцкай грамады, мастак Ф. Янушкевіч, старшыня жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі Л. Пеціна...

Дыктар рэспубліканскага радыё А. Вянярскі пазнаёміў прыстутных з некаторымі вершамі К. Сваяка, а кампазітар Г. Смоляк выканала свае песні на яго словы. У вянок памяці народнаму заступніку ўнёс некалькі сваіх мелодый і бард А. Атаманаў.

Удзельнікі вечара змаглі таксама далучыцца і да творчасці брата К. Сваяка Альбіна Стэповіча. Дзякуючы В. Скорабагатаву адбылася прэм'ера трох музычных твораў, напісаных на творы А. Стэповіча.

**Н.К.**

# ЗАКЛІК ДА МАРШУ Ў НІКУДЫ

*(Пачатак на стар. 1)*

прызнаць родную маці за маці і ці не падыдзе на гэтую высакародную ролю для іх яшчэ і суседка. Гэта не адпавядала б здароваму сэнсу і законам маралі.

Ці ўсведамляюць беларускія кіраўнікі, якія носяцца з ідэяй рэферэндуму і, здаецца, збіраюцца давесці яе аж да бліскучага "пераможнага" канца, што гэтая ідэя — гістарычны нонсенс (падобных рэферэндумаў ніхто і ніколі не праводзіў) і што ў гэтай акцыі вельмі рэльефна адаб'ецца іхняя маральная мізэрнасць? Думаю, што ўсведамляюць. Я не хацеў бы пра іх так дрэнна думаць. Што ж тады рухае імі і натхняе? Толькі адно: імкненне быць перавыбранымі ў наступны раз праз падтрымку тых пластоў насельніцтва, якія не зацікаўлены ў незалежнасці Беларусі або раўнадушныя да яе суверэннага лёсу. Пра гэта нідзе адкрыта не гаворыцца, і ніколі не будзе сказана ў больш-менш выразным сэнсе. Тым не менш у названых матывацыях сумнявацца не даводзіцца.

Падобная схема палітычных паводзін, трэба сказаць, даўно вядомая. Яна нічога добрага не абяцае ні краіне, ні самім палітыкам. Расклад схемы ў падтэксце такі: пад'ехаць хоць трошкі наперад па дарожцы ўласных палітычных інтарэсаў на любой кабылцы любой масці, якая толькі дасца злавіцца. На палітычнай мове гэта называецца "беспрынцыпны практыцызм" ці "цынізм". Уступка ім пашкодзіла У.Леніну і поўнасцю спустошыла душу І.Сталіна, што ў канчатковым выніку прывяло да падзення магутнай камуністычнай дзяржавы. Няўжо і беларуская дзяржаўнасць бясследна згарыць на кастрышчы амбіцыйных імкненняў мяшчан-палітыкаў, калі кіруюцца правілам: няважна, як выглядае народная справа без мяне, важна, як я выглядаю ў ёй.

Не трэба быць вельмі прадбачлівым, каб здагадацца, які выйгрыш абяцаецца Аляксандру Рыгоравічу ў выніку правядзення рэферэндуму. Папершае, з'явіцца падстава гаварыць, што ён выканаў яшчэ адно перадвыбарчае абяцанне, хоць яно з тых абяцанняў, невыкананне якіх прынесла б яму большую славу, чым паспяховая рэалізацыя. Станоўчыя вынікі рэферэндуму, на якія, бясспрэчна, спадзяецца Прэзідэнт, павінны прыцяніць, калі не засланіць, невыкананне больш істотных па надзённасці перадвыбарчых абяцанак і перш за ўсё — хуткі ўздым эканомікі, замарожванне цэн, рашучая барацьба з карупцыяй. Па-другое, станоўчыя вынікі галасавання павінны даць Прэзідэнту "законнае" права ніколі не загаварыць па-беларуску, бо ён будзе карыстацца "законнай" рускай дзяржаўнай мовай у Беларусі. Здаецца, Прэзідэнт не баіцца, што пра гэту матывацыю рэферэндуму здагадаюцца ўсе. Тым горш для яго. Шкада...

Асабліва трывожыць, што пры некаторых сумніцельных ініцыятывах сучасных кіруючых улад не прадумваюцца і не ўзважваюцца і гістарычныя вынікі. Несумненна, наданне рускай мове дзяржаўнасці пазбавіць дзяржаўную беларускую мову аб'яднальнай палітычнай функцыі. Дзіўна. У іншых краінах палітыкі, як, напрыклад, у Амерыцы, спецыяльна вышукваюць ідэі і праблемы, якія хоць бы часова здольныя аб'яднаць нацыю. І часта значэнне гэтых ідэй і праблем бывае не такім ужо вялікім і яно знарок перабольшваецца, каб хоць гэткім чынам разварушыць абывацельскі спакой. У нашых жа кіруючых колаў няма нават самога адчування агульнанароднасці палітычных і духоўных прыярытэтаў, якія валодаюць вялікай сілай яднання.

Несумненна, барацьба вакол рэферэндуму выкліча непатрэбную сацыяльную ўзрушанасць. У грамадскім жыцці непазбежна пачнуць паглыбляцца лініі этнічнага размежавання, што можа прывесці да непрадказальных успышак супрацьстаяння розных груп насельніцтва. У людзей нацыянальна арыентаваных у выніку перамогі пры галасаванні прэзідэнцкай пазіцыі або з'явіцца пачуццё сацыяльнай апатыі, што нашмат знізіць стваральны патэнцыял краіны, або выкліча яшчэ шырэйшы рух супрацьдзеяння уладам і асабіста Прэзідэнту, што ўжо назіраецца ў даволі значных маштабах. Сёння прыхільнікаў дзяржаўнасці беларускай мовы не так і мала. І хоць яны пакуль што не здолеюць перамагчы на рэферэндуме (калі ён толькі адбудзецца), паказаць нацыянальна-дзяржаўнае паражэнне "пераможцаў" і іх духоўнае ўбоства яны ўсё ж змогуць, калі захаваецца дэмакратычны друк.

Аднак галоўнае ў дадзенай сітуацыі гэта, бадай, тое, што няма практычнай патрэбы ў наданні рускай мове статуса дзяржаўнай. Беларуская мова зразумелая ўсім рускім. У дэмакратычным друку рэспублікі не адзін раз справядліва падкрэслівалася, што ў Беларусі ні рускамоўнаму насельніцтву, ні самой рускай мове нічога не пагражае. Руская мова будзе актыўна і вельмі шырока вывучацца ў школах усіх узроўняў, што надзвычай неабходна, і яна застанецца мовай міжнацыянальных зносін на тэрыторыі велізарнага ўсходнееўрапейскага рэгіёну на вельмі працяглы час. Нават у тым выпадку, калі здарыцца так, што кожны адукаваны жыхар будучай Беларусі будзе дасканала ведаць ангельскую мову як мову міжнародных зносін, усё роўна руская мова і руская культура застануцца каштоўнейшымі фактарамі культурнага і духоўнага жыцця Беларусі па прычыне моўнай блізкасці і натуральнай прыцягальнасці вялікай рускай культуры.

Праблема дзяржаўнасці рускай мовы ствараецца штучна. Дзеці і ўнукі ў культурных рускіх сем'ях, якія даўно жывуць у Беларусі, цудоўна валодаюць беларускай мовай і добраахвотна імкнуцца да гэтага. Што праблема рускай мовы ў нашай рэспубліцы выдуманая, сведчыць і пазіцыя расійскіх дэмакратаў, якія справядліва не бачаць вастрыні гэтай праблемы нават у Прыбалтыцы, не кажучы пра Беларусь. Сапраўды, пытанне аб дзяржаўнасці літоўскай, латышскай і эстонскай моў для рускіх, якія жывуць у краінах Прыбалтыкі, зводзіцца да простых рэчаў — агульнай культуры і сумленнасці.

Вельмі паказальны па сэнсу загаловак артыкула І.Аўчыннікавай, змешчанага ў газеце "Известия" ад 18 кастрычніка 1992 года, — "Рускамоўным у Прыбалтыцы трэба пераадолець мовабоязь". У гэтым артыкуле прыводзіцца выказванне прафесара М.Дзьячкова, на якое варта звярнуць асаблівую ўвагу. Ён піша: "Крыніцай многіх бедаў становіцца недастатковая, а часцяком і скажоная інфармацыя аб становішчы спраў у гэтай галіне, з аднаго боку, а з другога — інерцыя мыслення, па прычыне якой ні расіяне, ні рускамоўныя ў Прыбалтыцы не могуць прывыкнуць да думкі, што размова ідзе аб самастойных еўрапейскіх дзяржавах, якія дзейнічаюць у адпаведнасці выключна з правіламі, устаноўленымі міжнародным супольніцтвам".

У сувязі з гэтым узнікае пытанне: няўжо нашы кіраўнікі спадзяюцца вырвацца на прастору еўрапейскага цывілізаванага супрацоўніцтва, парушаючы ўстанаўленні, прынятыя міжнародным супольніцтвам, не адчуваючы і не разумеючы самой сутнасці цывілізаванага палітычнага дзеяння? Святая наіўнасць! Спроба правесці рэферэндум на прадмет дзяржаўнага двухмоўя пры ўсіх вядомых акалічнасцях, несумненна, будзе ўспрынята сусветным супольніцтвам як палітычнае варварства.

Ёсць яшчэ адзін аспект праблемы — і надзвычай важны. Перамога на рэферэндуме прэзідэнцкай пазіцыі павядзе за сабой далейшае звужэнне прасторы ўжывання беларускай мовы і як вынік — яшчэ больш інтэнсіўнае выцясненне яе са школы. Па ўсім відаць — гэта адна з галоўных мэт рэферэндуму. Тым больш, што сам Прэзідэнт не адзін раз выказваўся ў такім жа накірунку, што надзвычай ажыўляла актыўнасць працiўнікаў Закона аб мовах. Аднак жа калі дзеці не вучацца на роднай мове, гэта катастрофа для народа, для нацыі. Дапусціць падобнае могуць толькі людзі безадказныя, недасведчаныя, проста цёмныя ў разуменні важнейшых агульнанацыянальных ісцін.

Вялікія філосафы і педагогі свету (Ж.-Ж.Русо, В.Гумбальдт, А.Дыстэрвег, К.Д.Ушынскі) пакінулі багатую тэарэтычную і практычна-метадычную спадчыну, у якой спрадвечная праблема свабоды чалавека ў прамой залежнасці ад свабоды народа, свабоды нацыі распрацавана вельмі грунтоўна і доказна. Не існуе свабоды чалавека без нацыянальнай свабоды народа. І не памыляецца вядомая армянская паэтэса Сільва Капуцікян, калі прыходзіць да наступнага пераканання: "Здаецца, ужо не патрабуе доказаў, што "сёння той час, калі правы нацыі неабходна паставіць вышэй правоў чалавека". Памойму, гэтыя правы раўназначныя, бо нацыя складаецца з тых жа самых "чалавекаў" ("Литературная газета", 22 лютага 1995 г.).

Гэтую праблему ў агульначалавечым плане цудоўна разумеў яшчэ К.Д.Ушынскі. У сярэдзіне мінулага стагоддзя ён пісаў, зыходзячы з заходнееўрапейскага вопыту, што на тэрыторыі царскай імперыі, дзе пражывала шмат іншародцаў, дзеці іншых нацыянальнасцей (як прыклад ён прыводзіў украінцаў) павінны атрымліваць адукацыю на роднай мове хоць бы ў першых чатырох класах, бо інакш дзіця вырасце душэўна недаразвітым, у нечым унутрана стратным. Пазнаючы свет без роднай мовы, яно не здолее эмацыянальна ўвабраць у сябе ўсё багацце тонкіх адценняў адчування навакольнага свету, бо слова — гэта не толькі назва прадмета, а нешта нашмат большае. Гэта своеасаблівы, індывідуальны, нацыянальна генетычны водгук на яго. Само роднае слова — цэлы свет у мініяцюры. Але хто з праціўнікаў навучання на роднай мове чытаў К.Ушынскага? Хто з іх сур'ёзна вывучаў праблему, думаў над яе вынікамі? Ім трэба якраз спрашчэнне. Заглыбленне ў праблему для іх — як варожая нацыя. Выцясненне роднай мовы са школы — антынародны працэс. Аказваецца, сёння ў справе навучання на роднай мове мы апускаемся ўжо ніжэй патрабаванняў К.Ушынскага.

Як ні дзіўна, аднак, выношваючы планы рэферэндуму аб дзяржаўным двухмоўі і нацыянальнай сімволіцы, таксама спасылаюцца на волю народа. Але ж народ не адзіны, ёсць розныя яго пласты. Ускладаць надзеі ў палітыцы на голас самых адсталых, найменш адукаваных і найбольш сацыяльна раўнадушных пластоў народа, думка якіх заўсёды залежная і несамастойная, — гэта палітыканства найгоршай катэгорыі. Але нават у тым выпадку, калі б усе члены грамадства аказаліся высокаадукаванымі, культурнымі, палітычна свядомымі і незалежнымі ў асабістым выбары, усё роўна праводзіць галасаванне па такіх пытаннях нельга, бо іх глыбінная гістарычная сутнасць не прасвятляецца ні ў якой меры праз мадэль масавай свядомасці. Нават не ўсім вучоным па сіле іх аб'ектыўнае вырашэнне, бо для гэтага патрабуюцца асаблівыя нацыянальна-ментальныя веды, калі мінулае народа знаёма не толькі да дробязяў, але і на ўзроўні спасціжэння яго духоўных таямніц.

Сімвалічныя знакі нацыянальнага суверэнітэту "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг былі ўведзены ў 1918 годзе ў часы абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі на вельмі рэальнай навуковай аснове, з глыбінным адчуваннем ментальнага зместу гістарычнай нацыянальнай ідэі. Гэтую адказную працу з усведамленнем патрыятычнага месіянскага абавязку выканала група беларускіх інтэлігентаў, у якую ўваходзілі выдатныя знаўцы культуры і духоўнага жыцця роднага краю, у тым ліку браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік і іншыя. Усе яны заплацілі за гэта ўласным жыццём.

Пушчана ў абыходак гуляць версія, каб зняславіць існуючыя дзяржаўныя сімвалы Беларусі, што быццам бы пад бел-чырвона-белымі сцягамі і з бел-чырвона-белымі нарукаўнікамі паліцэйскія ў час нямецкай акупацыі праводзілі карныя акцыі. Але гэта няпраўда. Ніводны паліцэйскі не насіў бел-чырвона-белай павязкі і ніводная паліцэйская адзінка не мела такога сцяга. Але нават і ў тым выпадку, калі б такое адбывалася на самай справе, гэта нічога не значыла б. Дзяржаўныя атрыбуты не нясуць адказнасці за іх палітычнае выкарыстанне. Ва ўсіх цывілізаваных краінах адзнакі дзяржаўнасці наследуюцца не толькі пры змене ўрада, але і пры змене палітычнага ладу, бо яны з'яўляюцца сімваламі дзяржаўнасці, якія засцерагаюць і падтрымліваюць нацыянальны гонар кожнага чалавека і ў выніку ўмацоўваюць дзяржаву. Так, напрыклад, дзяржава польскіх камуністаў, створаная пасля 1945 года, не адмовілася ад бел-чырвонага сцяга, уведзенага Ю.Пілсудскім, паслядоўным ворагам камуністаў і бальшавікоў, а таксама ад традыцыйна гістарычнага белага арла. Ды і сучасная дзяржаўная атрыбутыка Расійскай Федэрацыі ў гэтым сэнсе "паразлівая". Пад сцягам з двухгаловым арлом у гады грамадзянскай вайны белагвардзейцы касілі чырвоныя ланцугі. І можна толькі падзівіцца, у якой ступені ўнутранаму складу беларусаў, нават інтэлігентам не ўласцівая сакральнасць пачуцця ўласнай дзяржаўнасці, што нават кіраўнікі іхняй маладой дзяржавы робяць палітыку на антыбеларускай фанабэрыі.

"Пагоня" — даўні дзяржаўны сімвал Вялікага княства Літоўскага, куды ўваходзілі і землі сучаснай Беларусі. Дык хіба гэтыя землі не маюць права на спадкаемнасць дзяржаўнага герба "Пагоня"? Маюць. Больш таго, альтэрнатывы яму і быць не можа, бо ўсякі іншы герб не нёс бы ў сабе каштоўнасны змест даўняй дзяржаўнасці як сапраўднай гістарычнай рэальнасці і быў бы ўсяго толькі адвольным чыноўніцкім тварэннем, гістарычны сэнс якога аказаўся б роўным нулю.

Назіраецца вельмі распаўсюджанае неразуменне, у тым ліку і з боку Прэзідэнта, алегарычнага абагульняючага зместу герба "Пагоня". Рыцар са шчытом і паднятым мячом — гэта зусім не ваёўнік, не салдат, а ўвасабленне рыцарства, гэта значыць — высакародства, маральнай пільнасці дабра, якое павінна бараніцца ад зла. Падняты меч — гэта зусім не агрэсіўнасць, а актыўная пагроза злу, заклік да барацьбы з ім, як у рускіх кап'ё Георгія Пабеданосца, якім ён працінае змея, гэта значыць — сімвал зла. Дарэчы, адзін час у выяве "Пагоні" пад капытамі каня таксама змяшчаўся змей, крылаты цмок (В.Насевіч. Сімвал Вялікага княства. "Чырвоная змена", 28 сакавіка 1995 г.). Да таго ж меч як алегорыя пакарання зла — з ліку біблейных паняццяў.

Галоўнае ў тым, што міфалагема "Пагоні" не выдумана адвольна і рацыяналістычна. Яна сапраўды выяўляе гістарычны менталітэт беларускага народа, што добра адчувала і адчувае нацыянальная літаратура. У творы Я.Баршчэўскага "Шляхціц Завальня ці Беларусь у фантастычных апавяданнях" (1844) ёсць вобраз высакароднага рыцара, які гоніцца за тымі, хто раскопвае магілы мінулага роднага краю з мэтай нажывы. Пазней М.Багдановіч стварыў сваю версію "Пагоні", якая не вельмі адрозніваецца ад традыцыйнага тлумачэння. Гэта "пагоня" за тымі, хто зрокся свайго народа.

Адмена "Пагоні" як дзяржаўнага знака Беларусі будзе азначаць закрэсліванне шматвяковай гісторыі Беларусі, ізаляцыю духоўнай спадчыны мінулага. Бо калі пад палітычным падазрэннем "Пагоня", то пад падазрэннем акажацца ўся культурная спадчына перыяду Вялікага княства Літоўскага. У выніку Беларусь будзе выглядаць краінай без нацыянальнай гісторыі, парасткам, які выпадкова ўзышоў без глебы на голым камені і якому суджана ссохнуць не вырасшы.

Апамятайцеся, Аляксандр Рыгоравіч! Яшчэ не позна. Вы ведзяце дзяржаву да яе палітычнай і духоўнай катастрофы.

**Віктар КАВАЛЕНКА**


**ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ,** ***першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**
**Віктар ШНІП,** ***намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі --** ***332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара --** ***332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі --** ***332-525***
**пісьмаў і грамадскай думкі --** ***331-985***
**літаратурнага жыцця --** ***332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі --** ***332-204***
**паэзіі і прозы --** ***332-204***
**музыкі --** ***332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання --** ***332-153***
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў --** ***332-462***
**навін --** ***332-462***
**мастацкага афармлення --** ***332-204***
**фотакарэспандэнт --** ***332-462***
**бухгалтэрыя --** ***268-640***

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11264. Нумар падпісаны 23. 3.1995 г.

ЗАКАЗ *930*

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12